# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *online* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

***Выданьне Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ, Канада)***

***Нумар прысвячаецца удзельнікам беларускай “Рэвалюцыі надзеі 2020”***

## №27, красавік-май 2021

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*З 2018 года выходзіць два разы на год*

*Атава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс **"КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ"** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі і нацыянальнага будаўніцтва.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **"КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ"** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net

З кастрычніка 2020 года часопіс набыў статус выданьня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ, Канада).



*Атава, Канада*

# Зьмест часопіса

*Прыемнага чытаньня чарговага нумара.*

*Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса*

*25 красавіка 2021 года, Атава*

*Наступны 28-мы нумар часопіса выйдзе ў кастрычніку-лістападзе 2021 года*

*Слова рэдактара*

**Пётра Мурзёнак: Пакаяньне ў "Саюзе Цьмы"** [1]

*Не ў гонар 25-годдзя Саюза Беларусі і Расіі*

*Праводзіцца аналіз стану грамадства ў Беларусі і Расіі з пункту гледжаньня наяўнасьці ці адсутнасці крытычнага ўспрыняцьця памылак мінулага, зробленых на узроўні дзяржавы і на узроўні асобы ці групы асоб, у прыватнасьці, нацыянальна-сьвядомай часткі беларусаў. Разглядаюцца наступствы непрызнаньня такіх памылак і прапануюцца магчымыя шляхі іх выпраўленьня.*

## I. Пакаяньне і ўлада

На фоне неспакою і трывогі ў свеце ў сувязі з КОВІД-эпідэміяй і існаваньнем гарачых ачагоў – прадвеснікаў магчымай вайны, найбольш для нас блізкай паміж Расіяй і Украінай, вялікую трывогу выклікае далейшае ўдушэньне свабоды ў Беларусі і Расіі, у так называемым Саюзе двух дзяржаў, дамоўленасць аб стварэньні якога была дасягнута 25 гадоў таму назад. Менавіта двух дзяржаў, а не народаў, бо тыя рэжымы, якія знаходзяцца пры ўладзе праводзяць на сёняшні дзень аднолькавую ўнутраную антынародную палітыку, скіраваную на знішчэньне грамадзянскай супольнасці і многіх магчымых праяў дымакратыі, якія не адпавядаюць ангажаванаму курсу гэтых дзяржаў і густу іх аўтарытарных кіраўнікоў. У Беларусі – больш за 350 палітычных зняволеных і больш за 35.000 арыштаваных ад пачатку Рэвалюцыі Надзеі-2020, у Расіі – турма для апазіцыйнага

[1] *Вызначэньні:*

*<u>Пакаяньне</u> (назоўнік) - шчырае шкадаваньне або раскаяньне, смутак, згрызоты сумленьня, сорам, пачуцьцё віны, самапапраканьне, самаасуджэнне, спагада*

*<u>"Саюз Цьмы"</u>- саюз несвабодных краін, якія выбралі памылковы шлях для развіцьця сваіх грамадзян*

палітыка Навальнага, атраўленага перад тым "навічком", і наяўнасць шматлікіх грамадскіх расійскіх арганізацый, якія носяць адмеціну "замежных агентаў". Падобныя расійскія законы аб тэрарыстычных арганізацыях прыняты нядаўна беларускім псеўдапарламентам. Сітуацыя ў абодвух краінах многім нагадвае 1937 год, за якім маячаць ГУЛАГі. Ці выпадковая такая сітуацыя, ці новая яна, і ці магло быць інакш?

Здавалася, што пасля абвяшчэньня незалежнасці ўсіх без выключэньня рэспублік былога СССР, падкрэсліваю – у тым ліку Расіяй, наступяць зьмены – ад таталітарнага камуністычнага рэжыму да свабоды асобы, забеспячэньня правоў чалавека, і г.д. Гэта значыць, нарэшце рэалізуюцца нормы, прапісаныя калісьці ў кодэксе камуністычнай маралі - які быў выдатнай шырмай таталітарнай палітыкі адзінай ў СССР партыі. Гэта былі на жаль толькі лозунгі, кшталту, "нынешнее поколение советских людзей будет жить пры коммунизме", якія партыйная наменклатура старалася ўбіць сваёй прапагандай у галовы рабочых і сялян.

Відавочна, што тыя змены, якія пачаліся з IУ З'езда народных дэпутатаў СССР (24 снежня 1990 года), а пазьней падоўжыліся ў часы Ельцына, прывабілі і задаволілі шмат інтэлектуалаў і інтэлігенцыі. "Гнілая" інтэлігенцыя паверыла, што такія зьмены ў 90-я быццам бы прыйшлі і могуць рэалізавацца. Як жорска яны памыліліся! Ідэалогія камуністычнай партыі фармальна знікла, аднак, еўразійская ідэалогія дыктатуры дзяржавы, якая засталася ад папярэдняй савецкай імперыі, дзе асоба – нішто, а дзяржава - ўсё, засталася і квітнее. І гэта не важна, у якой форме мы можам гэта бачыць сёньня – ачышчэньне вобраза дыктатара Сталіна ў Расіі, ці "пацешная" лінія Сталіна пад Мінскам.

Сёньня, дыктатары двух, так званых саюзных дзяржаў, згубіўшыя пульс планеты, спрабуюць набываць свой капітал\папулярнасць праз мінулае - праз спрэчных камуністычных лідэраў, ці, як апошні аргумент - праз ахвяры і заваёвы 2-й сусьветнай вайны, якія сімвалічна падымаюць усё вышэй на шчыт "несмяротныя палкі". Відаць, на іх думку, ахвярнасць Вялікай айчыннай вайны са стратамі мільёнаў воінаў і мірных грамадзян пакрывае тыя насільлі і здзек, якія чыніліся над іншымі мільёнамі людзей, нязгоднымі з лініяй камуністычнай партыі і таму загнанымі, прыніжанымі і загубленымі ў шматлікіх ГУЛАГах.

Першая спроба адмежавацца ад трагічных наступстваў дыктатуры камуністычных лідэраў – але не дзяржавы, і зваліць на іх віну ў няздольнасці павярнуцца тварам да людзей, была зроблена Хрушчовым у форме развянчаньня культа асобы Сталіна і яго бліжэйшага атачэньня. Гэта была свайго роду першая спроба пакаяньня за мільёны загубленых душаў, натуральна выкарыстаных для будаўніцтва камуністычнага ладу ў СССР і распаўсюджваньня ідэй камунізма па ўсім свеце.

Пасля распаду СССР больш сур'ёзны крок у гэтым напрамку зрабіў Прэзідэнт Расіі Ельцын. Выступаючы ў Кангрэсе ЗША 17 ліпеня 1992 года, ён зрабіў шэраг заяў, якія можна было зразумець як асуджэньне камуністычнага рэжыму і як пакаяньне за мінулае - Ельцын ганарыўся "вялікай дзяржавай, якая зрабіла свой выбар на карысць дэмакратыі і свабоды", "... расійскім народам, які знайшоў у сабе сілы, скінуць з плеч махіну таталітарнай сістэмы", адзначыў, што "камунізм не мае чалавечага твару", што "свабода і камунізм несумяшчальныя", і што "камуністычны ідал рухнуў і мы не дадзім яму ўваскрэснуць на нашай зямлі".

Жадаючы прымірыць расійскае грамадства ў адносінах да падзей 1917-га (Кастрычніцкая рэвалюцыя) і 1993-га (путч), калі Расія была на парозе грамадзянскай вайны, Ельцын ініцыяваў святкаваньне ў Расіі Дня грамадзянскага прымірэньня, прызначанага ў першы раз на 7 лістапада 1996 года, на Дзень Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Не ўсе ў Расіі прынялі яго падыходы – спробы пакаяньня, развіцьця дэмакратыі ("бярыце столькі свабоды колькі зможаце ўзяць", што да суб'ектаў Расійскай Федэрацыі), усталяваньня дыялога з развітымі краінамі, якія назіраліся пры Ельцыне - пасля яго адстаўкі былі адрынуты нео-імперскімі сіламі ў Маскве. Прэзідэнт Пуцін адмяніў сваім указам Дзень згоды і прымірэньня 26 лістапада 2001 года, і паступова перайшоў ад няўдзелу ў "G8" да канстатацыі факта распада СССР як "геапалітычнай катастрофы 20-га стагоддзя", да вайны з Грузіяй (2008) і з Украінай (2014 - працягваецца). Ніякага пакаяньня ... і ўсё больш ахвяр. Якая мэта?! – аднаўленьне імперыі з нечалавечым "лицом", патураньне далейшаму рабству, спрыяньне алігархіі?

Усё гэта робіцца на фоне таго, што былая савецкая/партыйная наменклатура і яе прыхільнікі\прыспешнікі падзялілі\прыхвацілі дзяржаўную ўласнасць у Расіі – гэта вам не жартачкі – у адной толькі Маскве жыве 71 доляравы міліярдэр (3.2% ад агульнай колькасці міліярдэраў у свеце - 2,208). У Беларусі такога не адбылося (яўна і адкрыта) з-за спецыфічнай пазіцыі "голаса народа" 1994 года і барацьбіта з карупцыяй - сп. А.Лукашэнкі. Ці ён быў хітрэйшы ці разумнейшы на той час, ці глыбіня яго маны была значна больш прыхаванай і выдасканаленай?

Калі ў Маскве і былі зроблены спробы пакаяньня, то ў Мінску найбольшае, што адбылося - гэта прыпыненьне дзейнасці Кампартыі БССР пасля жнівеньскага путча ГКЧП у 1991 годзе. Далей пры Кебічу, а затым увесь час пры Лукашэнку усе спробы прыцянуць увагу ўлад да ахвяр камуністычнага рэжыму і надаць у прыватнасці статус мемарыяла Курапатам сканчваліся рэпрэсіямі не толькі ў адносінах да абаронцаў народнага мемарыяла, а і да ўсяго нацыянальна-свядомага, што ёсць у Беларусі. Адсутнасць усіх відаў свабод ў Беларусі стала асабліва відавочнай пасля мінулагодніх прэзідэнцкіх выбараў і распачаўшайся Рэвалюцыі Надзеі-2020; дадайце здзекі, катаваньні, забойствы, гвалт і насільле. Калі казаць

пра беларускую культуру, то калі яна да 2020 года была загнана і працавала ў гета, то цяпер ужо гета вырываецца з корнем і дашчэнту выпальваецца фашыстоўскім, гнусным рэжымам. Пытаньне этнацыду беларусаў мусіць быць пастаўлена на павестку дня ААН.

Такім чынам, ніякага пакаяньня не адбылося ні ў адной з краін створанага Саюза – Беларусі і Расіі, а без гэтага немагчымы далейшы прагрэс грамадства. Палітыка ўтрыманьня рабоў ў гэтых дзяржавах толькі ўзмацняецца, прымаюцца ўсё новыя і новыя законы, якія абвяшчаюць любыя свабодныя памкненьні людзей тэрарыстычнай дзейнасцю, а іх саміх ізалююць ад грамадства ў турмы. Ёсць факты, якія сведчаць аб тым, што ў Беларусі падчас найбольш масавых пратэстаў у жніўні 2020 года пад Слуцкам лукашэнкаўскі рэжым збудаваў палявы канцэнтрацыйны лагер – відаць месц у турмах не хапала.

Лукашэнкаўскі рэжым настолькі акрэп, што яго ўжо не хвалююць 100- або нават 300-тысячныя калонны, якія з лёгкасцю загнаны бандытамі ў масках і існуючай нялюдскай і злачыннай сістэмай у двары, дзе ідзе сапраўдная зачыстка “дысідэнтаў”. Калі ў СССР іх было дзесяткі і з імі лёгка распраўляліся, то цяпер такіх сотні тысяч, аднак, сістэма настолькі ўдасканалілася, што і такая колькасць для яе не праблема. Ніякага жалю і пакаяньня за здзейсненыя злачынствы з боку антынацыянальнага ўрада не назіраецца. Відаць Лукашэнка і яго атачэньне уважаюць, што насельніцтва якое пражывае на тэрыторыі Беларусі лепш трымаць у рабстве, пазбавіўшы яго свабоды.

Такім чынам, мы назіраем, што ўсе парадкі, якія існавалі ў таталітарнай савецкай краіне працягваюць існаваць у іншых формах у абодвух краінах, Беларусі і Расіі. Дзяржава там па ранейшаму – усё, чалавек – ніштo. Для утрыманьня рабоў – несвабодных грамадзян - патрэбна сіла і жалезны парадак. Улады ў дзвюх краінах – нялюдскія аскепкі дыктатуры камуністаў – яшчэ існуюць на зямлі. Яны, як і кліка Пол-Пота, якая знішчыла адзін мільён чалавек за тры гады ў Кампучыі, як заўзятыя бальшавікі не могуць успрымаць іншадумства і таму душаць яго на караню. Ну не можа так быць вечна, каб падобных злачынцаў не знайшла справядлівая кара?!

Пошук ворагаў і нязгодных сярод свабодалюбівых грамадзян у Беларусі і Расіі з’яўляецца прамым адлюстраваньнем іхняй сумеснай знешняй палітыкі, якая сканцэнтравана не на імкненьні да інтэграцыі з развітымі краінамі, а на пошуках знешніх ворагаў, як бы блізка ці далёка ад іх межаў яны не знаходзіліся. Як вынік пастаянныя сумесныя мілітарныя вучэньні, узбраеньне і падрыхтоўка да вайны. Так атрымоўваецца, што вайна для іх - гэта адзіны выхад каб прыкрыць адсутнасць

свабоды, дэмакратыі і прагрэсу. Небяспека вайны, падаграваемая кіруючымі клікамі, вісіць над народамі Беларусі і Расіі.

У далёкай ці нават блізкай перспектыве такая палітыка прывядзе да эканамічнага краху гэтых дзяржаў і іх знікненьня – бо без свабоднай думкі ў грамадстве, навуцы, мастацтве - немагчымы прагрэс як у развіцьці тэхналогій, так і ў росце узроўню жыцьця шараговых грамадзян. Альтэрнатывай можа быць толькі змена курсу, якая раней ці пазьней але адбудзецца. Спыніць развіцьцё існуючага сцэнару могуць толькі Самі - беларускі народ і народы Расійскай Федэрацыі – і на гэта патрэбен час, адукацыя і цярпеньне. Народы для свайго ж дабра калісьці прымусяць урады пакаяцца за злачынствы і павярнуцца тварам да людзей, пакінуўшы неабмежаваныя і неапраўданыя геапалітычныя амбіцыі і замяніўны іх на праблемы, якія стаяць як у саміх гэтых краінах, так і перад усім чалавецтвам – беднасць, эпідэміі, клімат, тэрарызм.

## II. Пакаяньне і людзі

Змены, выкліканыя распадам СССР, заспелі большасць людзей знянацку. У гэтай частцы, мы пераважна адрасуем аналіз таго часу беларусам, аднак, безумоўна ён і ўскосна, і напрамую мае дачыненьне да грамадзян Расіі.

За выключэньнем нацыянальна-свядомых сіл у Беларусі, асноўная маса людзей настальгіравала па былой савецкай краіне. Вынікам такой настальгіі ў Беларусі ў 1994 годзе стала абраньне на пасаду прэзідэнта Лукашэнкі, папуліста, які абяцаў аднаўленьне былых савецкіх адносін як у краіне, так і далей – за яе межамі. Не адкладваючы надоўга ён ініцыяваў 14 мая 1995 года рэферэндум, вынікамі якога стала прыняцьце «новага», крыху падпраўленага чырвона-зялёнага дзяржаўнага сьцяга і адмена прынятых у 1991 годзе нацыянальных сімвалаў – бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» (на самай справе толькі 48.7% ад колькасці ўсіх, хто меў права голасу былі “за” новы лукашэнкаўскі сьцяг), наданьне рускаму языку статуса другога дзяржаўнага (53,9 %), і падтрымка курса Лукашэнкі на эканамічную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй (54%). Аднак, з улікам таго, што на рэферэндум прыйшлі толькі дзве трэці выбарцаў (64.8%), афіцыяльныя лічбы былі 75.1%, 83.2% і 83.3%, адпаведна. Пабачыўшы такія лічбы можна задумацца – а ці былі то сапраўдныя беларусы? А калі не, то якія яны? Ці пасьпелі яны задумацца, падняць свае галовы і пачуць нарэшце свой - тутэйшы голас? І ці вінны яны ў такіх выніках?

Усё ж, адчуўшы такім чынам атрыманую падрымку, Лукашэнка пайшоў далей - 2 красавіка 1996 года была дасягнутая дамоўленасьць пра ўтварэньне Супольнасці Расіі і Беларусі з палітычнай і эканамічнай інтэграцыяй абедзьвюх дзяржаваў. Заўважце, на рэферэндуме гаворка пра палітычную супольнасць не йшла. Як палітычная частка дамоўленасці, так і пытаньні выстаўленыя перад тым на рэфедэндум супярэчылі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і паказалі антынацыянальны твар Першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, рэпрэсіўная палітыка якога да ўсяго нацыянальна-свядомага на працягу ўжо амаль 27 год яго кіраўніцтва дасягнула найбольшай жорсткасці падчас Рэвалюцыі-2020. У краіне няма свабоды слова, сходаў, праў чалавека ... Свабода заменена дыктатурай практычна ва ўсіх сферах грамадства. У многім гэта адбывалася на фоне эканамічнай падтрымкі Расійскага ўрада і ўмяшаньня Рускай праваслаўнай царквы.

Ні распад СССР, ні тым больш стварэньне Саюза двух несвабодных дзяржаў Беларусі і Расіі не вызваліла большасць насельніцтва, асабліва сярод старэйшага пакаленьня, ад страху, які існаваў з часоў ліквідацыі эксплуатарскага класа буржуяў, багацейшага сялянства – кулакоў, эсэраў, нацыянал-дэмакратаў ..., ад страху, які да сёньня сядзіць у галовах людзей. Заклікі Ціханоўскага ў Беларусі і Навальнага ў Расіі – “нічога не баяцца” – хоць і падымаюць народы, аднак, для іх саміх скончыліся турмой. Канвейер не спыніўся – цяпер у Беларусі зноў на чарзе ў турмы нацыянальна-арыентаваныя людзі – новае пакаленьне нацыянал-дэмакратаў, у Расіі тое ж – удушэньне іншадумства і дэмакратычных рухаў. Ці можна вініць тую частку людзей, якія памятаюць чорныя НКВД-оўскія варанкі па начах і баяцца сёняшніх аўтазакаў у светлы дзённы час? Відавочна, што не ўсіх. Узгадайце, што і ў СССР, і ў Рэспубліцы Беларусь да апошняга часу палітычная культура была на вельмі нізкім узроўні. За адсутнасць яе, як і за адсутнасць дэмакратычных свабод у краіне віна ўскладаецца на нацыянальныя эліты. Ясна, што галоўным віноўнікам існуючага зладзейства і палітычнага крызісу з’яўляецца лукашэнкаўская кліка, якая не праяўляе ніякіх прыкмет пакаяньня ці віны. Аднак, ніхто не можа зняць віны і з нацыянальна-свядомай эліты.

Ці бачылі нацыянальна-арыентаваныя людзі такую пагрозу ад самага пачатку лукашызма і наколькі моцна і эфектыўна супраціўляліся яны дыктатуры? Так, супраціў Лукашэнку і змаганьне за новую дэмакратычную Беларусь былі. У Мінску падчас Чарнобыльскіх шляхаў на вуліцы выходзіла да 50.000 чалавек. Магу засведчыць, як удзельнік многіх пратэстных дэманстрацый, што столькі ж было на пратэстах супраць стварэньня так званага Саюза ў 1996 і 1997 гг. Аднак, на жаль, многія з іх закончыліся безвынікова для краіны і не прывялі да нацыянальнага развіцьця. Прыйшоўшая апатыя, ад’езд лідэраў БНФ, і сумныя вынікі лукашэнкаўскіх рэферэндумаў выклікалі ў той час хвалю эміграцыі многіх людзей. Аўтар гэтых радкоў таксама прыняў узвешанае на той час рашэньне пакінуць

краіну - вінюся цяпер перад беларусамі. Дэмакратычная апазіцыя ніяк да 2020 года не прырасла, а жорсткія рэпрэсіі злачыннага рэжыма амаль поўнасьцю пазбавілі раней не ангажаваных ў палітыку пратэстоўцаў мець яркіх, харызматычных лідэраў – большасць лідэраў апынулася ў турмах, і значная іх частка была вымушана пакінуць краіну ў складзе новай хвалі палітэмігрантаў.

Такім чынам, калі казаць па сёняшняму выніку, праз чвэрць стагоддзя існаваньня нялюдзскага рэжыма, то адказ на пытаньне аб эфектыўнасці дзеяньняў нацыянальна-свядомых сіл за гэты перыяд будзе несуцяшальным. Адной з галоўных прычын такога выніку з’ўляецца адсутнасць еднасці і агульнай стратэгіі сярод нацыянальна-свядомай эліты - за 30 год існаваньня Рэспублікі Беларусь і ў нашы дні аб гэтым шмат гаворыцца і пішацца. Аднак, не далей як у сакавіку гэтага года дайшло да “кіданьня катлетамі” ў бок нацыянальнага лідэра Святланы Ціханоўскай. Які сорам?!

Вельмі няшмат знойдзеш людзей, якія б спрабавалі правесьці аналіз зробленых памылак і такіх было адзінкі, да прыкладу А. Мілінкевіч, У. Мацкевіч. Прызнаць памылкі – значыць павініцца і дзеіць далей. Хоць і запозна, але гэта варта зрабіць абавязкова – лепей цяпер, чым ніколі. Не зрабіўшы падобны аналіз і не прыняўшы важныя стратэгічныя планы Беларусь страціць яшчэ адно пакаленьне (магчыма апошняе), з якім пакуль застаецца тэарэтычная магчымасць збудаваньня сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Нягледзячы на вельмі цяжкую цяперашнюю сітуацыю для нацыянальных сіл, дазволю нагадаць толькі некаторыя факты аб безадказнасці некаторай іх часткі (не як папрок, а як просьбу да ажыцьцяўленьня такога аналіза і адпаведных высноў):

- пачну з сябе: я вінен у тым, што калі мой кіраўнік яшчэ ў 70-я абражаў Коласа і Купалу, абзываючы іх п’яніцамі, я не падняўся і не спыніў яго;
- ёсць лідэры старой апазіцыі, якія гадамі як мантру цвердзяць, што калі б ... (?!) яны выйшлі ў другі тур выбараў, то абавязкова выйгралі б у Лукашэнкі;
- іншыя упэўнены, што яны такі і выйгралі, нягледзячы на адмоўныя вынікі апытаньняў, які праводзіў інстытут сацыялагічных даследаваньняў праф. Манаева;
- дзесяцігоддзямі некаторыя незалежныя выданьні цвердзяць без падстаў і аналізу рэальнасьці, што вось-вось - амаль на наступны дзень - рэжым Лукашэнкі рухне;
- ні ў 2010, ні ў 2015, ні ў 2020 гг. апазіцыйныя палітыкі не здолелі вылучыць адзінага кадыдыта – саперніка Лукашэнку ... (г.зн., загаддзя здаліся);

- дэкларатыўныя заявы дэмакратычных сіл амаль ніколі не былі падмацаваны канкрэтнымі дзеяньнямі ці праектамі, як, да прыкладу, адбылося пры падпісаньні Мемарандума у Вільні (12 лістапада 2012 года), які праходзіў пад эгідай Рады БНР;

- у апазіцыйным асяроддзі адкрыта культывуецца шпіёнаманія; і г.д., і г.д.

Памылак, у якіх не хочуць прызнавацца і тым больш павініцца, яшчэ больш – дадайце амбіцыі асобных палітыкаў старой і новай апазіцыі і канкурэнцыю між імі. Такое адчуваньне, што амбітнасць і эго кожнага з лідэраў адкладаюць убок вырашэньне лёсу беларускай нацыі, хаця б і пры іх шчырым жаданьні і перакананьні ў правільнасці сваіх памкненьняў.

Так бы сказаць - сёньня не адпаведны час для крытыкі. Тым больш калі яе ўспрымаць ад чалавека, які жыве ў эміграцыі. Аднак, гэта не крытыка, а спроба пераасэнсаваць тое што здзейснена, і падумаць аб стратэгіі на перыяд жыцьця наступнага пакаленьня – пакаленьня якое, як было ўжо сказана, магчыма ёсць апошняй, гістарычнай надзеяй выбудаваньня беларускай нацыянальнай дзяржавы. Безумоўна, што свой лёс вырашыць сам беларускі 12-мільёны народ; да 10 мільёнаў беларусаў у самой Беларусі я далучаю больш як 1.5 мільёнаў беларусаў дыяспары, многія з якіх выехалі па прычыне нязноснасці маральных і фізічных умоў існаваньня на радзіме, і якія выразна паказалі сваю падтрымку Рэвалюцыі-2020 у многіх краінах сьвету. Аднак, абавязак нацыянальна-свядомай эліты запаліць і трымаць маякі, якія будуць арыентаваць беларусаў у прасторы і ў часе.

Тое, што Лукашэнка прывёў краіну ў тупік - сёньня відавочна. Аднак і факт, што ён заўжды ідзе на крок наперадзе любых прапаноў нацыянальна-сьвядомых сіл. А хацелася б, каб было наадварот. Вось і сёньня 17 красавіка, калі пішуцца гэтыя радкі, анансавана канспіралагічная тэорыя арганізацыі забойства Лукашэнкі – вельмі нагадвае загадкавую гісторыю імітацыі яго забойства ў 1994 годзе падчас першай выбарчай кампаніі.

Таму гістарычная і маральная адказнасць і абавязак нацыянальна-сьвядомай эліты выпрацаваць і давесьці да насельніцтва такую прывабную стратэгію, якая была б ім прынята і ўвасоблена з цягам часу ў нацыянальную дзяржаву. Думаецца, такім мазгавы цэнтр мусіць быць створаны вакол нацыянальнага лідэра – Святланы Ціханоўскай. Магчыма ён і існуе, і магчыма распрацаваны каротка- і доўнатэрміновыя сцэнары – A, B, і C... Але пакуль не адчуваецца што так і ёсць - а яны (сцэнары) мусяць быць аб’яўлены публічна і данесены да большасці насельніцтва. Магчыма яны будуць рэалізаваны хаця б і праз 20-30 год - бо працэс адукацыі і прыняцьця такой стратэгіі беларусамі не можа быць хуткім з улікам таго стану, у якім знаходзіцца беларускае грамадства.

Думаецца, што трэба павініцца за памылкі-грахі, памірыцца між сабой прыхільнікам нацыянальнай ідэі і пачаць бы з чыстага ліста. Ніколі не позна пачынаць усё з пачатку. Напрацавана шмат добрых ідэй, якія, сабраныя ў адзінае, могуць прывесці да добрага і жаданага выніка. Прывяду да прыкладу “Стратэгію развіцьця беларускай нацыі”, прадстаўленую на старонках часопіса “Культура. Нацыя”. Мэтай прапанаванай “Стратэгіі” з’яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў і прадстаўнікі нацыяўтваральнага этнаса – беларусы. “Стратэгія” прадугледжвае, што у сваіх адносінах паміж людзьмі пры яе рэалізацыі варта прытрымлівацца “Кодэкса гонару” і што рэалізацыя “Стратэгіі” разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае).

Сярод асноўных палажэньняў “Стратэгіі” варта адзначыць наступныя:

- прытрымліваючыся раўнапраўных узаемаадносін з усімі суседнімі краінамі, лічыць ідэю аб трыадзінстве усходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе і шкоднай для развіцця беларускай нацыянальнай дзяржавы;
- падтрымліваць ідэю пераемнасці ў гістарычным развіцці беларускай дзяржаўнасці - дабівацца сусьветнага прызнаньня выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцці Вялікага Княства Літоўскага – вялікай еўрапейскай дзяржавы мінулага, на тэрыторыі якой сёньня пражываюць людзі сучасных незалежных краін, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны і Расіі;
- для папярэджаньня пагрозы страты незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь праз ваенныя, эканамічныя ці культурныя механізмы супрацьстаяць ідэалогіі “русского мира” і нео-еўразізма, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага шавінізму;
- не падтрымліваць афіцыйную ідэю таго, што Беларусь - праваслаўная краіна – на самай справе уплыў праваслаўнай царквы не перавышае 50% ад колькасьці вернікаў краіны;
- не падтрымліваць будаўніцтва рускамоўнай дзяржавы і адначасова працягваць пошук актыўнага ўзаемадзеяння з мясцовымі ўладамі ў рамках законаў у адносінах да мовы (садкі, класы, школы, дакументацыя), гісторыі (назвы вуліц, памятныя знакі) і па іншых пытаньнях;
- на сучасным этапе праводзіць асьветніцкую дзейнасць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, элітарнай і мас-культуры і традыцый беларускага народа (Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР, БССР, адраджэньне ў 90-х), не збаўляючы высілкаў па вызваленьні беларускай мовы з прыгнечанага стану.

Безумоўна, што выказаныя вышэй стратэгічныя, маральныя ідэі могуць быць дапоўненыя і палепшаныя. Прыняцьце іх зацікаўленымі сіламі і існуючыя магчымасці распаўсюду вельмі актуальныя менавіта цяпер, калі ўвесь нацыянальны рух загнаны у падпольле. Чым шырэй нацыянальныя ідэі будуць пасеяны, тым больш будзе шансаў, што яны паступова дасягнуць розных слаёў беларускага грамадства, якія яшчэ недастаткова зразумелі ў якое царства цемры іх зацягваюць.

*Abstract*

**Piotra Murzionak: Repentance in the "Union of Darkness"** *(editorial)*
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, p.6-15, www.sakavik.net)***

*Not in honor of the 25th anniversary of the Union of Belarus and Russia*. The article analyzes the state of society in Belarus and Russia in terms of the presence or absence of a critical perception of past mistakes made at the state level and at the level of a person or group of persons, in particular, the nationally conscious part of Belarusians. The consequences of not admitting such mistakes are considered and possible ways of correcting them are suggested, including repentance / confession of guilt.

*Резюме*

**Пётра Мурзёнак: Покаяние в «Союзе тьмы»**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, апрель 2021, с.6-15, www.sakavik.net )***

*Не в честь 25-летия Союза Беларуси и России*. В статье анализируется состояние общества в Беларуси и России с точки зрения наличия или отсутствия критического восприятия прошлых ошибок, допущенных на государственном уровне и на уровне человека или группы лиц, в частности, национально-сознательной части беларусского общества. Рассматриваются последствия непризнания таких ошибок и предложены возможные пути их исправления, в том числе через раскаяние / признание вины.

*Артыкулы*

**Віталь Зайка: Куды ідзе беларуская гістарыяграфія, або ці мажлівая беларуская тэлеалёгія**

***Анатацыя.*** *У артыкуле робіцца спроба разгледзець пытанеьне пра тое, чаму дасюль, сьведама або не, у беларускай гістарыяграфіі захоўваецца старая расейскацэнтрычная сістэма каардынатаў, чаму большасьць падзеяў і зьяваў разглядаюцца не з беларусацэнтрычных, а з іншых пунктаў аналізу, або гравітуючых да Расеі, або да абстрактных "агульначалавечых", дэнацыяналізаваных пазіцыяў, але не з пункту аналізу і разгляду інтарэсаў і памкненьняў насельнікаў беларускіх земляў. Гэтае пытаньне наўпрост зьвязанае з тэлеалёгіяй, сукупнасьцю мэтаў, якую перасьледуе стварэньне і разьвіцьцё гістарыяграфіі, у нашым выпадку - гістарыяграфіі беларускай. У дадзены час афіцыйная, зьвязаная з дзяржструктурамі гістарыяграфія Беларусі амаль цалкам падпарадкоўваецца канонам колішняй савецкай гістарыяграфіі й запазычвае новыя напрацоўкі расейскіх гісторыкаў, бальшыня зь якіх знаходзяцца пад уплывам шавіністычнай ідэалёгіі. З другога боку, шэраг гісторыкаў ды аўтараў на гістарычныя тэмы, што стаяць па-за афіцыйнай гістарыяграфіяй, некрытычна запазычваюць напрацоўкі й тэндэнцыі з левалібэральных крыніцаў у сёнешнім Вольным Сьвеце. Таксама абгрунтоўваецца патрэба самастойнага, беларусацэнтрычнага погляду на гістарычныя падзеі й зьявы ў Беларусі, які натуральна мусіць і можа мець незалежная краіна і суверэнная нацыя. Актуальнасьць фармаваньня беларусацэнтрычнай гістарыяграфіі й нацыянальна скіраванай гістарычнай памяці падцьвярджаюць падзеі нядаўняга і бягучага часу ў Беларусі, калі народ масава падняўся на пратэсты супраць фальсыфікацыі выбараў у Беларусі, і абраў нацыянальныя сымболі сваімі сымболямі пратэсту, а рэжым пусьціўся на фальсыфікацыі ды інсінуацыі, каб апаганіць гэтыя сымболі, абмазаць брудам гісторыю беларускага незалежніцкага руху.*

Беларускія землі маюць ужо больш як 1000 год пісанай, фіксаванай гісторыі. Назапашаныя крыніцы і зарэгістраваныя факты рэгулярна пашыраюцца, расьце корпус гістарычных і гістарыяграфічных працаў. Але дасюль яшчэ не зусім ясны прадмет вывучэньня беларускай гісторыі. З аднаго боку, існуе шэраг працаў і

папулярнай літаратуры, дзе ўсе падзеі й асобы, што ў нейкі спосаб датычныя Беларусі, напрыклад, залучаюцца ў склад беларускай гісторыі, з другога боку, пэўныя гіпэр-карэктныя навукоўцы пярэчаць залучэньню ў каноны беларускай гісторыі такіх падзеяў, як Грунвальдская бітва або паўстаньне 1831 году, і такіх асобаў, як Францішак Скарына або Кастусь Каліноўскі, бо згодна з іхнымі паглядамі, Скарына і Каліноўскі не маглі належаць да беларускай нацыі, таму што тая, маўляў, пачала ствараца не раней канца 19-га стагоддзя. Некаторыя дасьледчыкі гавораць пра паасобныя гісторыю гэбраяў у Беларусі, гісторыю расейскага панаваньня ў Беларусі, гісторыю БССР і г.д. - гэта значыць, яны стаяць за сукупнасьць дыскрэтных паасобных гісторыяў, якія разам нібыта могуць даваць адказ на пытаньне аб гістарычным мінулым беларускіх земляў. І над гэтым цёмнай хмарай вісіць вялікадзярджаўна расейская і савецкая гістарыяграфія, працягам каторых ёсьць сучасная афіцыйная пост-савецкая гістарыяграфія. Гэтая апошняя мэтанакіравана абыходзіць пытаньні, зьвязаныя з нацыянальнай беларускай тэматыкай, а ў тых выпадках калі яна закранае беларускі нацыяналізм часоў Другой сусьветнай вайны, у ход ідуць догмы й мэтады савецкай гістарыяграфіі, якія нічым не адрозьніваюцца ад мілітарызаванай прапаганды. Падчас масавых пратэстаў супраць фальсыфікацыі выбараў 2020 году і наступнага тэрарызаваньня рэжымам насельніцтва Беларусі, догмы савецкай прапаганды і новыя “напрацоўкі” лукашэнкаўскіх псэўда-гісторыкаў былі скарыстаныя для крымінлізацыі акцыяў непадпарадкаваньня і выкарыстаньня беларускіх нацыянальных сымболяў.

Зьявілася цэлая кагорта “разбуральнкаў мітаў” беларускай гісторыі, у тым ліку пра БНР і пра часы Вялікага Княства Літоўскага. Мікола Ермаловіч, чые працы абудзілі цікавасьць да ўласнай гісторыі, фактычна “беларусізавалі” Вялікае Княства Літоўскае ды выклікалі непараўналны прыліў энтузіязму і гонару за ўласную гісторыю, за ўласны народ - ён не ў пашане. Між тым, як пісалі клясыкі, “Міты - гэта тое, што трымае грамадства разам”. Чамусьці міты расейскія, тыя якімі наскрозь прасякнутыя ўсе пост-савецкія наратывы ў Беларусі, не выклікаюць сярод “міт-бастэраў” вялікага энтузіязму да разбурэньня.

Праз 30 год фармальна незалежнага існаваньня Рэспублікі Беларусь яе гістарыяграфія знаходзіцца ў стане хіба параўнальным да стану гістарыяграфіі расейскіх правінцыяў - якой Рэспублікі Башкортастан, ці Бураціі. Беларуская гісторыя разглядаецца з пазыцыяў, што базуюцца на ідэях і пастулятах расейскай гістарыяграфіі, якія часта зьяўляюцца шавіністычнымі й пагардлівымі ў адносінах да беларусаў, як насельнікаў на землях, што ўважаюцца “ісконі” расейскімі.

Але дзе знаходзіцца мэта гістарычных наратываў адносна Беларусі, якая звычайна завецца - *тэлеалёгія,* у чым яна? Ці намацваецца беларуская тэлеалёгія, і куды яна хіліцца? Ці спрыяюць гэтай тэлеалёгіі такія, скажам, “актуальныя” новыя працы як

росшукі пра ролю прафсаюзаў у індустрыялізацыі БССР, або заглыбленьне ў біяграфічныя дэталі з жыцьця паваенных першых сакратоў КПБ?

У афіцыёзнай гістарыяграфіі сучаснай Беларусі закладзеная створаная пераважна ў савецкія часы дэфармацыя гістарычнага наратыву ў адносінах зьяваў і падзеяў, датычных Беларусі - утварэньне беларускага нацыянальнага руху разглядаецца як вынік польскага палітыкаваньня супраць Расеі, БНР абвяшчаецца нямецкай інтрыгай, а Другая сусьветная вайна ў Беларусі падаецца як пераможнае змаганьне савецкіх партызанаў і Чырвонай арміі супраць фашыстаў ды купкі іхных памагатых-калябарантаў. Усё падзеі, усе асобы працягваюць разглядацца праз прызму каштоўнасьцяў, ацэнак ды інтарэсаў замежнай краіны - Расеі.

Дзе ў той афіцыйнай гістарыяграфіі хоць штосьці ўласна беларускае? Здавалася-б, кожны сумленны і прыстойны гісторык-прафэсіянал, кожны лягічны чалавек у Беларусі можа толькі падтрымоўваць беларусацэнтрычную гістарыяграфію ў Беларусі. Але, безумоўна, ня ўсё так гладка і проста. Да праблемаў чыста гістарыяграфічных дадаюцца праблемы палітычныя, а і наагул функцыянаваньне, фіксаваньне ды інтэрпрэтацыя гістарычнай памяці. У гэтай сувязі прыкладам пераўвасабленьня гістарычнай памяці ў гістарыяграфічным наратыве могуць быць выпадкі з Сьвятланай Алексіевіч і Рыгабэртай Мэнчу, набэліянткамі адпаведна зь Беларусі й Гватэмалы, што у сваіх творах адвольна карысталі інфармацыю аб гістарычных падззеях, ды мянялі яе ў адпаведнасьці са сваімі ідэялягічна матываванымі мэтамі.

Глянуўшы шырэй, на сусьветны прасьцяг, бачым як на вачох некалькіх генэрацыяў адбылася, напрыклад, у амэрыканскім гістарыяграфічным наратыве трансфармацыя зьместу Грамадзянскай вайны ў ЗША у змаганьне за зьнясеньне рабства, а ў гістарыяграфіі большасьці краінаў Захаду - трансфармацыя зьместу Другой сусьветнай вайны - як у значнай ступені змаганьне дзеля абароны і выратаваньня эўрапэйскіх гэбраяў, хоць гэты наратыў зьявіўся адносна нядаўна, у 1980-я гады. Беларускім гісторыкам варта ўважліва прыгледзецца да гэтых зьяваў, і адкласьці для сябе рацыянальныя зерняткі, адкінуўшы тэндэнцыйную і непрыдатную палову.

***

Што-ж на сабой справе мусім разумець пад беларускай гісторыяй або гісторыяй Беларусі, ці гэта тое-ж самае, ці не? І што мусіць быць прадметам беларускай гісторыі? Пэўныя паралелі можна намацаць у пытаньні пра тое, што ёсьць беларуская літаратура, і што ёсьць літаратура Беларусі, ці адно гэта і тое-ж. Ці зьяўляюцца творы Адама Міцкевіча і Уладзіслава Сыракомлі, Мэндалэ Мойхэр-Сфорым і Залмана Шнэвура фактам беларускай літаратуры, калі месца дзеяньня твораў- беларускія засьценкі й мястэчкі, дзеявыя асобы - мясцовыя жыхары, але і

мова, і нацыянальнае вызначэньне іх ня ёсьць беларускімі ў сучасным, сьцісла вызначаным, сэнсе?

Яшчэ адной важнай рысай для разгляду мусіць зрабіцца сыстэма каардынатаў, гэта значыць разгляд матывацыяў і ацэнка дзейнасьці гістарычных актораў праз прыкладаньне да іх аналізу ды мэтадалёгіі, што лічаць цэнтар вагі ды важнасьці разьмешчаным менавіта ў межах самой Беларусі або дакладней - беларускіх земляў. Адмаўляючыся пры гэтым ад паглядаў на беларускія землі як заўсёдную частку нечага большага, і як усяго толькі сэгмэнт больш значнай, істотнай, інтэгральнай гістарычнай геаграфічнай цэласьці, але не каштоўнасьць і мэту самую ў сабе.

Праца па гісторыі Бэльгіі, напісаная з пазыцыяў француcкіх, ёсьць найперш фактам францускай гістарыяграфіі, і можа ўважацца бельгійскай гістарыяграфіяй за факт другасны. Падобна гэтаму, нямецкія працы пра Аўстрыю (г. зн. працы пра Аўстрыю ў кантэксьце нямецкай гісторыі) ёсьць факты гістарыяграфіі нямецкай, а працы аўстрыйскія пра Славенію, у кантэксьце гісторыі Аўстрыі - факты аўстрыйскай гістарыяграфіі. Абсалютна гэткім жа чынам працы па гісторыі Беларусі могуць уважацца за першасныя факты беларускай гістарыяграфіі толькі ў тым выпадку, калі яны напісаныя з пункту гледжаньня пазыцыі беларускіх насельнікаў, ацэньваючы ў першую чаргу падзеі й матывацыю актораў у сувязі з іхнымі лякальнымі, прывязанымі да месца, да жыцьця на беларускіх землях, інтарэсамі.

На сёнешні дзень у беларускай гістарычнай навуцы існуюць некалькі лягераў, якія апэруюць несумяшчальнымі, або цяжка сумяшчальнымі, катэгорыямі й прыкладаюць адрозныя крытэры да гістарычных падзеяў і асобаў. Пытаньне “настрыфікацыі” *беларускага* ў гісторыі зьяўляецца адкрытым, мэтодыка і катэгарыйны апарат застаюцца ў працэсе фармаваньня.

Вывучэньне Беларусі ў Вольным сьвеце таксама застаецца ў зародкавым стане, і па-за невялікай колькасьцю працаў пераважна нямецкіх навукоўцаў гісторыя Беларусі ўяўляе сабой экзатычную дысцыпліну, новатвор, такі сабе кшталт невялікага астэроіду, што зьявіўся на гістарычным небасхіле пасьля каляпсу плянэты “СССР”, і разглядаецца толькі ў кантэксьце існаваньня гэнай плянэты.

У сувязі з гэтым варта зьвярнуць увагу на тэрміналёгію. Што, пры апісаньні гістарычных падзеяў і асобаў, можна ўважаць за беларускае і за беларусаў. Калі пачаць з этна-геаграфічнага акрэсьленьня краіны ў розныя гістарычныя эпохі, найбольш слушным падецца найменьне “беларускія землі”. Часьцяком чуюцца пярэчаньні збоку гіпэр-карэктных апанэнтаў супраць таго, каб называць, скажам, мову створаных на беларускіх землях і пераважна кірылічных летапісаў, статутаў,

прывілеяў ды іншых дакумантаў, перакладаў Бібліі - беларускай або старабеларускай. У якасьці аргуманту выстаўляецца тое, што марфалягічныя і лексычныя рысы не тоесныя сучанай беларускай мове, і што самыя аўтары называлі яе інакш. Тое-ж тычыцца і, скажам, пераважнай большасьці насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага часоў Скарыны, або насельніцтва, што трапіла пад першы разбор Рэчы Паспалітае. Гэты сялянскі акіян, што меў выспачкі - гарады і мястэчкі, з прыцярушваньнем у выглядзе шляхты й гэбраяў: ці ён можа быць названы беларускім, калі самыя ягоныя прадстаўнікі называлі сябе інакш?

Між тым назовы “старабеларуская мова”, “старажытная беларуская мова” для мовы кірылічных і некаторых лацінічных пісьмовых помнікаў часоў Вялікага Княства Літоўскага не зьяўляюцца нелягічнымі. Тое-ж і для назову “прота-беларуская мова” для, скажам, беларускай рэдакцыі старaславянскай мовы, а й нават сымбалічна - мовы, напрыклад, Сьв. Кірылы Тураўскага. Вялікае Княства Літоўскае мае ня менш падставаў звацца “Старабеларуская дзяржава”, чымся, напрыклад, Бізантыя - звацца сярэднявечнай грэцкай дзяржавай, або Харэзм - старажытнай туркмэнскай дзяржавай. Нягледзячы на гарантаваны супраціў навукоўцаў, найперш з іншых краінаў, што гістарычна мелі дачыненьне да Вялікага Княства Літоўскага, аргумэнтацыя на карысьць беларускасьці выглядае найбольш лягічнай і пасьлядоўнай.

І, безумоўна, насельніцтва беларускіх земляў мае ўсе гістарычныя, генэтычныя і лягічныя падставы быць называным старажытнымі беларусамі, старабеларускім або, у ранейшыя часы, прота-беларускім этнасам.

Пры гэтым трэба быць гатовымі да рэцэпцыі пэўнага анахранізму, але гэта ня будзе зьявай гратэскавай і/або унікальнай, пасьля таго як тысячагадовая Усходняя Рымская імпэрыя “рамеяў” стала называцца Бізантыяй, і яе падданыя - адпаведна бізантыйцамі, або пасьля як Пэрсыя стала Іранам, усходнія албанцы-асецінамі, кара-кіргізы - казахамі, а Грузія плянуе пачаць міжнародную кампанію па замене сваёй назвы ў сусьветным ужытку на “Сакартвэла”.

Падобным чынам мае сэнс разгледзець “нацыянальную” прыналежнасьць выбітных гістарычных асобаў, што паходзілі з беларускіх земляў або мелі да іх дачыненьне, як, напрыклад, князі Вітаўт і Ягайла, гетман Сапега, асьветнік Будны, генэрал Касьцюшка, пісьменьнік Баршчэўскі, мастак Шагал, філязоф Лоскі. Неабходна выпрацаваць шэраг крытэраў, якія-б прыкладаліся да высьвятленьня ступені заангажаванасьці дадзенай асобы ў беларускую гісторыю.

Дарэчы, адной з першых задачаў сапраўды беларускай гістарыяграфіі мусіла-б зрабіцца супастаўляльнае аналізаваньне і асэнсаваньне гістарычнага шляху

сумежных і су-абшарных нацыяў і этнасаў, перадусім украінцаў, палякаў, гэбраяў-літвакоў і літоўцаў.

Скончыўшы з пытаньнем тэрміналёгіі, варта было-б зьвярнуцца да пытаньня мэтодыкі, цэнтру вагі й каардынатаў. Калі пагледзець на гістарычную анамастыку, што зафіксаваная ва урбаністычных назвах сёнешняй Беларусі, відавочна што цэнтар вагі сучаснай беларускай гістарычнай сьведамасьці, прынамсі ў яе афіцыйным выяўленьні, застаецца па-за межамі сучаснай Беларусі. Чаго вартыя хаця-б назвы і помнікі, што засталіся ад 74-гадовага камуністычнага панаваньня ў Беларусі, амаль 30 год пасьля зьнікненьня камунізму, пераважна бяз усялякіх зьменаў.

Безумоўна, савецкі перыяд гісторыі Беларусі ўтрымлівае шмат кантравэрсыйных і складаных тэмаў, але ён варты пільнага разгляду і аналізу, бо сытуацыя існаваньня і разьвіцця беларускай нацыі ў несвабодзе пры Саветах дакладна адлюстроўваецца ў грамадскай і палітычнай сытуацыі ў сучаснай Беларусі, і мэтадалягічныя і факталягічныя знаходкі пры разглядзе гісторыі БССР могуць быць стасаваныя і для аналізу найноўшага часу і сучаснасці, да падзеяў, інстытутаў і асобаў у сёнешняй РБ.

У міжчасе беларуская сытуацыя ўскладненая магутным сілавым полем з Расеі, амаль кожная тэма зь беларускай нацыянальнай гісторыі ў той ці іншы спосаб уступае ва ўзаемадачыненьні з расейскай гісторыяграфіяй, праз паток кнігаў, перыёдыкаў і сеціўных публікацыяў, праз пра-расейскую адукацыю, супольную сістэму абароны дысертацыяў, непараўнальныя рэсурсы, што выдаткоўваюцца ў Расеі на зьвязаныя з гісторыяй справы й рэчы.

У Расеі выдатна разумеюць значаньне гісторыі для фармаваньня нацыянальнага сьветагляду, характару ўзаемадачыненьняў грамадзянаў, ляяльнасьці да краіны і дзяржавы, эмацыйнай мабілізацыі ў выпадку палітычнай патрэбы. Таксама разумеюць у Расеі й той уплыў, які можна аказваць на былыя савецкія рэспублікі, трансмітуючы расейскія гістарыяграфічныя мадэлі і міты навонкі Расеі. Фактычна канфлікт з Украінай быў цалкам абгрунтаваны праз фікцыйныя бяздоказныя абвінавачаньні ў “фашызме” і прыцягнутыя за вушы, перакручаныя гістарычныя зьвесткі з часоў Другой сусьветнгай вайны і паваеннага антысавецкага супраціву ў Заходняй Украіне. Тады спрацавалі даволі прымітыўныя і аглабельныя абвінавачаньні, якія праз расейскую тэлевізію і масавыя сродкі трансмітавалі таксама і ў Беларусь. Для больш адукаваных і абазнаных у гісторыі існуюць іншыя каналы індактрынацыі - сярод іх арганізацыя “Гістарычная праўда” (сайт http://www.istpravda.ru/bel/), што публікуе, прэпараваныя і адмыслова дазуючыя праўду, замоўчваньні й хлусьню, манаграфіі, зборнікі артыкулаў, зборнікі дакумантаў па тэме Другой сусьветнай вайны на абшары Ўсходняй Эўропы і

былога СССР, праводзячы пра-расейскую, шавіністычную лінію досыць субтыльным, дыскрэтным чынам, і маніпулюючы эмоцыямі, зьвязанымі з трагічнымі падзеямі. Варта паўзірацца якія піруэты вапісваюць яны вакол такіх падзеяў як змова Молатава-Рыбэнтропа і расстрэл у Катыні. І афіцыйныя арганізацыі, навукоўцы ў Беларусі ахвотна супрацоўнічаюць у гэтым вялізным фальшэрскім праекце.

Гэтак-жа з пазыцыі, разьмешчанай звонку межаў Беларусі, разглядаецца і беларуская гісторыя 20-га стагоддзя. Падзеі бальшавіцкай рэвалюцыі датычна Беларусі “натуральна” прэзэнтуюцца праз тагачасную бальшавіцкую афіцыйную прапаганду, што не падпала амаль ніякай рэвізіі, а падзеі Другой Сусьветнай вайны ў Беларусі дасюль афіцыйна лічацца “Вялікай Айчыннай Вайной [Савецкага Народу]”, з ужываньнем сталінісцкага назову, хоць значная колькасьць беларусаў ды іншых жыхароў Беларусі не лічыла Саветы сваёй “айчынай”.

Безумоўна, такая прэзэнтацыя і рэцэпцыя гісторыі Беларусі ёсьць вынікам захаваньня палітычна-ідэалягічнага *статусу-кўо* часоў позьняга савецкага ладу, да якога краіну і яе гістарычную навуку збольшага павярнулі Лукашэнка і ягоныя дарадцы пасьля нядоўгае “гістарыяграфічнае вясны” канца 1980-х - пачатку 1990-х гадоў. І безумоўна, такое становічша ня будзе вечным. Сапраўды нацыянальная гістарыяграфія ў беларускай незалежнай дзяржаве, якая цяпер знаходзіцца пад уціскам, безумоўна выйдзе на шырокі прасьцяг, і запануе, раней ці пазьней.

Пытаньне ў тым, якой стане гэтая вызваленая беларуская гістарыяграфія, па якім шляху яна пойдзе. Якой мэце будзе служыць, шлях для якой тэлеалёгіі будзе праставаць. Натуральным узорам, як і ва ўсе амаль часы, было-б звяртаньне да гістарычнай навукі на Захадзе, у Вольным сьвеце. Але прыгледзімся зараз, што адбываецца на Захадзе, і як выглядаюць справы ў гістарычнай навуцы і выкладаньні гісторыі ў тых краях.

Найпершае, што кідаецца ў вочы - гэта тое, што ў трактаваньні гісторыі, яе напісаньні й выкладаньні адбыліся велізарныя, вызначальныя зьмены.

Ненацыянальная гісторыя зь яе націскам на прэзэнтаваньне дзеяньняў тых хто меў уладу і прымаў рашэньні, зь яе дэманстраваньнем дасягненьняў краіны й цывілізацыі - абʼўляецца проста немаральнай. Цяпер націск робіцца на разгляд меншасьцяў ды маргіналізаваных групаў, і ўсіх несправядлівасьцяў, што яны перанесьлі збоку прыўладных групаў. Прычым гістарычныя падзеі разглядаюцца без уліку прынятых у той час паняцьцяў і настрояў, і маральная ацэнка даецца з пазыцыяў бягучага моманту 21-га стагоддзя, больш таго - з пазыцыяў левалібэральных, радыкальных тэорыяў. І гэта акурат тое, што немажліва абараніць перад простай аргумэнтацыяй на падставе лёгікі й здаровага сэнсу. Менавіта дзеля

гэтага гістарычныя дыскусіі ў сучасных заходніх акадэмічных структурах штучна абмяжоўваюцца і закрываюцца. Гэтыя інстытуцыі ў падаўляючай бальшыні складзеныя з прыхільнікаў левалібэралізму і тых, што падтрымліваюць яго па розных прагматычных прычынах. І вось такая ідэалягізаваная гісторыя ствараецца, і пашыраецца, і выкладаецца ў школах і вышэйшых навучальных установах, выкарыстоўваецца журналістамі, адлюстроўваецца ў мастацкіх творах, становіцца грамадскімі пастулятамі.

Новая хваля ў гістарыяграфіі выліваецца ў "штудыі ідэнтычнасьці" й "міждысцыплінныя (міжсэкцыйныя) штудыі". Назіраецца адмова ад нармальнага выпрабаванага катэгарыйнага і мэтадыястычнага апарату, адбываецца адвольнае стварэньне тэорыяў, што працуюць на "дабрачыннасьць", "сацыяльную роўнасьць", і пасьля пад іх падгінаюцца і падстрыгаюцца фактаграфічныя дадзеныя. У выніку ўся заходняя цывілізацыя апынаецца загрузлай у грахах, перадузятасьцях, і перакосах, у тым ліку—у "эўрацэнтрызме". Уся дасюлешняя гісторыя, створаная на Захадзе, і напісаная, на думку прагрэсістаў, "здохлымі белымі мужамі", і пра "здохлых белых мужоў", аб'яўляецца імі хібнай і памылковай, а таксама - непрыдатнай для выкладаньня ў новым, мультыкультуральным і шматрасавым грамадстве. *Агістарычны* і *анахранічны* падыход да разгляду і аналізу гістарычных падзеяў робіцца ўсё больш адметнай рысай штудыяў, якія прэтэндуюць на навуковасьць, і асабліва - на прагрэсыўнасьць.

Левыя акадэмічныя ідэі - тыя ж панурыя марксыстоўскія трызьненьні, зь якім добра абзнаёміліся за часы камуністычнага панаваньня, - цяпер аб'ехалі цэлы сьвет і вяртаюцца з іншага боку, прыбраныя ў новыя, фэцкія шаты - але ад тога ня менш панурыя. Таталітарнасьць, несвабода - тое, што высылае наперад тыя ў новых шатах ідэі. Розьніца пакуль у тым, што за "хібныя" гістарычныя пагляды раней пазбаўлялі свабоды й жыцьця, а цяпер, покуль што - толькі пасадаў ды фінансаваньня, што, дарэчы, працуе таксама досыць эфэктоўна на абмежаваньне акадэмічнай свабоды і плюралізму паглядаў.

І разам з тым новая генэрацыя дасьледчыкаў і акадэмікаў, некрытычна запазычваючы з захаду тэорыі, якімі хворы цяпер Захад - імкнецца інсталяваць іх у Беларусі, каб і ў нашай гаротнай старонцы было ня горай, "як у людзей". А тое, што гэтая рэч ёсьць нядобрая і хворая, і яна - хоць паходзячы з Захаду - ня ёсьць прадстаўленьне ідэяў Захаду, Вольнага сьвету, але абэрацыя, патаптаньне гэтых ідэяў - ім не відавочна і наагул нябачна.

Можа часам падацца, што як "у людзей" пачынаюць зрынаць помнікі заснавальнікам і правадырам Амэрыкі, гэта цалкам рэзануе для беларусаў з патрэбай зрынаньня помнікаў Леніну, Калініну ды іншым камуністычным бонзам

савецкіх часоў, што на тры амаль дзесяцігоддзі перажылі каляпс камунізму. Але паралель тут хібная і некарэктная, бо Дж. Вашынгтон і Т. Джэфэрсан, а нават Робэрт Лі і "Каменная Сьцяна" - Джэксан былі патрыётамі сваёй зямлі й баранілі яе, а не ўтапісцкай навалаччу што агнём і мечам усталёўвала таталітарную нялюдзкую сістэму.

З другога боку, на беларускую гістарыяграфічную сцэну выяжджае пакурочаная гістарычная квазі-тэорыя сучасных "ідэнтытэт-штудыяў" і "разнастайнасьці", што стала дамінуючай у грамадскіх навуках Захаду за апошнія 5-10 год. Карані гэтай зьявы, прыйшоўшай з Вольнага Сьвету і цяпер дэфармуючай яго, палягаюць у тым самым сумна знаёмым марксізме, які збольшага працягвае панаваць у грамадскіх навуках у Беларусі. Як айфоны, хіпстарскія фрызуры і фалафель, тая новапрыйшоўшая лявацкая мэтадалёгія грамадскіх навукаў робіцца паступова рэальнасьцю, фэцкай моднай прысутнасьцю ў Беларусі, а яе апанэнты выстаўляюцца як адсталыя нецікавыя неактуальныя рэтраграды, і часам як мала адрозныя ад тых прафэсыяналаў-гісторыкаў, што абслугоўваюць патрэбы цяперашняга аўтарытарнага кіраўніцтва.

Разам з тым заходняя прагрэсысцкая гістарычная навука можа ўтрымліваць элемэнты, мэтадычныя напрацоўкі, што пры пэўных умовах вартыя больш уважлівага разгляду і мажлівага дастасаваньня для разгляду і аналізу зьяваў і працэсаў беларускай гісторыі. Прыкладамі могуць быць "субалтэрн"-тэорыя з галіны разгляду каляніялізму, або пост-структуралісцкія мэтады ў аналізаваньні самага рознага кшталту гістарычных тэкстаў. Вартай і надзвычай каштоўнай ёсьць вусная гісторыя, і праца па зьбіраньні як мусіць быць нармалізаваная і пастаўленая на парадак дня і навуковых установаў, і асобных навукоўцаў і аматараў гісторыі.

Адным словам, шмат што можа ўгноіць глебу беларускай гістарыяграфіі, і самыя кур'ёзныя тэорыі могуць утрымліваць сэгмэнты, прыдатныя для аналізу гістарычных падзеяў. Але галоўнай і вызначальнай справай застаецца акрэсьленьне нацыянальнага кірунку для беларускай гістарыяграфі, і перанясеньне пачатку сістэмы каардынатаў беларускай гісторыі, і яе тэлеалёгіі - у Беларусь.

*пришел Кутузов*
*бить французов.*

Но лучшую характеристику ему дал А.С. Пушкин в стихотворении «Полководец». Рассказывая о военной галерее Зимнего дворца, где представлены портеры героев войны 1812 года, он пишет:

*…Но в сей толпе суровой*
*Один меня влечет всех больше. С думой новой*
*Всегда остановлюсь пред ним – и не свожу*
*С него моих очей. Чем долее гляжу,*
*Тем более томим я грустию тяжелой.*
*Он писан во весь рост. Чело, как череп голый,*
*Высоко лоснится, и, мнится, залегла*
*Там грусть великая. Кругом – густая мгла;*
*За ним – военный стан. Спокойный и угрюмый,*
*Он, кажется, глядит с презрительною думой.*
*Свою ли точно мысль художник обнажил,*
*Когда он таковым его изобразил,*
*Или невольное то было вдохновенье, –*
*Но Доу[22] дал ему такое выраженье.*

*О вождь несчастливый! Суров был жребий твой:*
*Все в жертву ты принес земле тебе чужой.*
*Непроницаемый для взгляда черни дикой,*
*В молчанье шел один ты с мыслию великой,*
*И, в имени твоем звук чуждый невзлюбя,*
*Своими криками преследуя тебя,*
*Народ, таинственно спасаемый тобою,*
*Ругался над твоей священной сединою.*
*И тот, чей острый ум тебя и постигал,*
*В угоду им тебя лукаво порицал...*
*И долго, укреплен могущим убежденьем,*
*Ты был неколебим пред общим заблужденьем;*
*И на полупути был должен наконец*

[22] Александр I пригласил для написания портретов в Военную галерею английского живописца Джоржа Доу.

Портреты из этой галереи, его работы предлагаются вашему вниманию почти во всех экскурсиях. Биография художника дана в приложении.

*Безмолвно уступить и лавровый венец,*
*И власть, и замысел, обдуманный глубоко,—*
*И в полковых рядах сокрыться одиноко.*
*Там, устарелый вождь, как ратник молодой,*
*Свинца веселый свист заслышавший впервой,*
*Бросался ты в огонь, ища желанной смерти…*

Каким же он был, этот Барклай?
Михаил Богданович Барклай де Толли происходил из древнего шотландского баронского рода. Его предки в начале XVII века из-за религиозных преследований переселились в Германию, а затем – в Прибалтику, дед был бургомистром Риги, отец служил в русской армии и вышел в отставку в чине поручика.

Сам Барклай воспитывался с 3-х лет в семье своего дяди — бригадира русской армии Е. фон Вермелена. По обычаю того времени в 1767 году был записан на службу гефрейт-капралом в Новотроицкий кирасирский полк, а действительную службу начал с 1776 в рядах Псковского карабинерного полка, уже имея чин вахмистра. В 1778 Барклай де Толли получил первое офицерское звание — корнета, а с 1783 по 1790 занимал адъютантские должности у ряда генералов. Участвовал во многих войнах. Был храбр, отважен и исполнителен.

Военно-административные способности Барклая де Толли по достоинству оценил император Александр I. Два предвоенных года он занимал должность военного министра, именно на него была возложена вся подготовка предстоящей войны с наполеоновской Францией. За это время Барклай успел провести ряд важных мероприятий: строительство инженерных сооружений, создание тыловых баз, создание разведывательных органов, реформу полевого и высшего военного управления. При нем стали вводиться в практику новые принципы боевой подготовки войск – обучение меткой стрельбе и действиям на пересеченной местности. Он сам ездил по Европе после завоевания ее Наполеоном. Основываясь на личных наблюдениях и полученных из разных источников разведданных, предложил оперативный план, рассчитанный на затягивание военных действий по времени и территории страны. Именно его план, хотя и вызвал непонимание у многих горячих голов в армии и недовольство двора, оказался единственно правильным и привел к победе.

Барклаю де Толли ставили в вину его нерусское происхождение и обвиняли не только в трусости, но и предательстве. Уступая место главнокомандующего, Михаил Богданович писал царю: "Избегая решительного сражения, я увлекал неприятеля за собой и удалял его от его источников, приближаясь к своим, я

ослабил его в частных делах, в которых я всегда имел перевес. Когда я почти довел до конца этот план и был готов дать решительное сражение, князь Кутузов принял командование армией".

В Бородинском сражении ему подчинялся центр и правый фланг. По мнению многих современников, в этот день он искал смерти и во время битвы появлялся на самых опасных ее участках. Он несколько раз лично водил в атаку кавалерию, под ним было убито четыре лошади, рядом погибли 2 адъютанта и было ранено 9 офицеров. «С ледяным хладнокровием, которого не мог растопить и зной битвы, втеснялся он в самые опасные места», – вспоминал о нем Федор Глинка. «У него не иначе как жизнь в запасе», – вторил ему Михаил Милорадович. 21 октября 1812 года за Бородино Барклай был удостоен Военного ордена Святого Великомученика и Победоносца Георгия 2-го класса.

На совете в Филях Барклай первым подал голос в пользу отступления без боя: «Горестно оставить столицу, но если мы не лишимся мужества и будем деятельны, то овладение Москвою приготовит гибель Наполеону». Но когда армия расположилась у Тарутино, 4 октября Барклай де Толли оставил армию. Последней каплей, переполнившей чашу терпения этого всегда спокойного и рассудительного человека, стало то, что М.И. Кутузов передал из его армии в аръергард генерала Милорадовича 30000 человек. При этом самого Барклая де Толли даже не известили о таком решении, что было равносильно публичному оскорблению. Кутузов потом оправдывался тем, что это генерал Коновницын, совсем замотавшись, забыл передать его распоряжение, но эти притворные заверения не убедили Михаила Богдановича, и он немедленно сдал командование и уехал из армии. Приехав в Бекгоф, свое имение в Лифляндии, Михаил Богданович заболел и слег в постель. «Я твердо решился лучше впасть в бедность, от которой я не избавился во время моей службы, нежели продолжать службу... Я надеюсь, однако, что беспристрастное потомство произнесет суд с большей справедливостью».

К 130-летию войны, в 1947 году на Бородинском поле были установлены бюсты командующих армиями. Скульптурные портреты М.Б. Барклай де Толли и П.И. Багратиона создал Заир Азгур. В 2007 году бронзовый монумент скульптора Владимира Суровцева поставили в городе Черняховске Калининградской области. Фигуры Барклая де Толли и Багратиона есть среди 109 выдающихся персон России на памятнике «Тысячелетия России» в Новгороде, а также на горельефе памятника Кутузову у здания музея «Бородинская панорама».

**Tatyana Kenko: Belarus, 1812; Two Rivers. Nioman. The Beginning; Vilnius. Summer. Patriotic or Civil War?** ***(abstract)***
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 27-57, www.sakavik.net)***

Next year it will have been 220 years since the start of the War of 1812. Most authors who write about this war centre on the battles at Smolensk and Borodino, Napoleon's presence in Moscow, him being driven out of Russia. In short, they centre on events in Smolensk and Moscow Gubernias (regions). But it was on Belarusian soil that the initial and final actions of this campaign ensued. How did the population of Belarus react to Napoleon? Why was it that the first army division which entered Vilnius was under the command of Domenic Radzivill? Why did Napoleon decide to terminate his 1812 Campaign in the middle of July at Vitsebsk? In the course of three articles ("Belarus, 1812; People and Events," "Two Rivers. Nioman. The Beginning," and "Vilnius. Summer. Patriotic or Civil War?") author Tatyana Kenko bypasses any attempt to retell the course of battles and struggles so as to tire out her readers with a multiplicity of dates and numbers. Rather, she exposes pertinent information in the form of an excursion and one's viewing of exhibits along the way which serve to reproduce scenes, moments of sculptural and architecture importance, also histories of towns and cities involved.

**Тацьцяна Кенька: Беларусь, 1812; Дзве ракі. Нёман. Пачатак; Вільня. Лета. Вайна Айчынная ці грамадзянская?** ***(рэзюме)***
***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 27, красавік 2021, 27-57, www.sakavik.net )***

У наступным годзе спаўняецца 220 гадоў з дня вайны 1812 года. У апісаньні падзей гэтай вайны звычайна большасць аўтараў спыняецца на Смаленскай і Барадзінскай бітвах, знаходжаньні Напалеона ў Маскве, выгнаньні яго з межаў Расіі. Гэта значыць тых, якія праходзілі ў Смаленскай і Маскоўскай губернях. Але менавіта на беларускіх землях праходзілі пачатковыя і канчатковыя дзеяньні гэтай кампаніі. Як успрымала з'яўленьне Напалеона насельніцтва Беларусі? Чаму першым палком, які ўступіў у Вільню, быў полк пад камандаваньнем Даменіка Радзівіла? Чаму Напалеон у сярэдзіне ліпеня вырашыў скончыць «кампанію 1812 года» ў Віцебску? Аўтар у трох артыкулах «Беларусь, 1812: Людзі і падзеі», «Дзве ракі. Нёман. Пачатак», і« Вільня. Лета. Вайна Айчынная ці грамадзянская?» не імкнецца падрабязна распавядаць аб ходзе баёў і бітваў, каб не стамляць чытачоў шматлікімі датамі і лічбамі. Дадзеная інфармацыя пабудавана ў выглядзе экскурсіі і яе экспанатамі сталі рэпрадукцыі карцін, скульптур, архітэктура і гісторыя гарадоў.

**Патэрсан Франко Коста: Ці можна назваць слабой беларускую ідэнтычнасць?**

Патэрсан Франко Коста - даследчык у галіне міжсеміятычнага перакладa, Федэральны Універсітэт штата Баія (UFBA), Бразілія.

***Анатацыя.*** *Галоўнае задача гэтага міждысцыплінарнага даследавання - прааналізаваць аспекты, якія стаяць за меркаваннем немалой колькасці аўтараў пра тое, што беларуская нацыянальная ідэнтычнасць слабая альбо нават не існуе. Асноўныя абмеркаваныя аспекты: сацыялагічныя, палітычныя і эканамічныя. З сацыялагічнай перспектывы, грунтуючыся на тэорыі Робіна Данбара, чалавечы прагматызм і сацыялагічныя абмежаванні паказваюцца як магчымыя прычыны няведання пра краіны ў цэлым, у тым ліку і пра Беларусь; у палітычным аспекце, прытрымліваючыся мыслення Квамэ Нкрумы, праблематызуецца, што меркаваная слабасць беларускага нацыянальнага дыскурсу звязана з цяперашнім аўтарытарным рэжымам, падначаленым былой метраполіі; і ў эканамічнай сферы, прымаючы развагі Ірыны Бугровай як зыходны пункт, праблематызуецца залежнасць, выкліканая рэжымам як частка імперыялістычнага / неакаланіяльнага парадку дня. У гэтым кантэксце з улікам тэхнічнага ўнёску спецыялістаў у галіне эканомікі і інжэнерыі адзначаецца, што Беларусь мае вялікі эканамічны і энергетычны патэнцыял, які можна развіваць у спрыяльных палітычных умовах. Нарэшце, даследаванне схіляецца да аргументу, што праблемы ідэнтычнасці і культуры, якія часта выкарыстоўваюцца для аспрэчвання існавання і жыццяздольнасці беларускай нацыі, у рэчаіснасці зыходзяць з эканамічных і палітычных чыннікаў. Зыходзячы з гэтага, прапануюцца парады дзеля змены сітуацыі ў кантэксце пратэстаў 2020-2021 гг.*

***Ключавыя словы:*** *Беларусь; Культурныя даследаванні; Нацыянальная ідэнтычнасць; Дэкаланізацыя.*

## Уводзіны

Уявіце сабе краіну без назвы і афіцыйнай мовы. Яе сцяг скапіраваны са сцяга кампаніі, а валюта мае самую пашыраную назву, агульную з дзясяткамі іншых краін. Народ настолькі раздроблены і няроўны, што людзі часта выкарыстоўваюць тлумачальныя дадаткі для апісання сябе, а дыскурс ідэнтычнасці арыентаваны на нібыта вялікае мінулае, пра якое ніхто дакладна не ведае, калі яно адбылося, і ёсць

мноства аргументаў, што яго насамарэч ніколі не існавала. Яе рэжым, крохкі і фрагментаваны, зводзіцца да ўсяго дзвюх груповак, якія чаргуюцца ва ўладзе, а ў яе культуры, кулінарыі і звычаях практычна няма нічога сапраўды аўтэнтычнага. Ці магчыма існаванне такой краіны? А як наконт стварэння яе ідэнтычнасці? Безумоўна, гэта была б самая слабая краіна ў свеце з пункту гледжання ідэнтычнасці, з пастаяннай рызыкай захопу і анэксіі большым суседам.

Для тых, хто яшчэ не здагадаўся, пра якую краіну я кажу, вось яшчэ адзін прыклад, магчыма, нават больш сімвалічны. Гэтая краіна, у залежнасці ад таго, каго спытаць, знаходзіцца або не знаходзіцца ў Еўропе, яна не мае афіцыйнай мовы, хаця яе герб поўны слоў на мове былога каланізатара, адкуль да таго ж паходзіць назва яе асноўнай тэрыторыі, як быццам гэта проста яго працяг. Цяжка сказаць, што гэтая краіна мае ўласную назву, бо гэта літаральна яе геапалітычнае апісанне, спіс геаграфічных назваў, які лянуецца выйсці за межы двух найбуйнейшых яе складнікаў. Яе сцяг - гэта набор мясцовых сцягоў, накладзеных адзін на адзін з мэтай частковай рэпрэзентацыі яе нацыянальнасцей, найбуйнейшая з якіх гістарычна запазычыла для сваёй тэрыторыі назву мясціны ў іншай заморскай краіне, размешчанай за 700 км. Можна сказаць, што гэтая этнічная група размаўляе на крэольскай мове з германскай базай (⅓), лацінскай лексікай (⅔) ды ўплывам незлічоных іншых моў. Некаторыя кажуць, што на гэтай крэольскай мове таксама гавораць у першай згаданай краіне, але паміж імі няма ні пісьмовай, ні вуснай адпаведнасці.

З іншага боку, ёсць краіна, размешчаная ў самым цэнтры Еўропы, якая з'яўляецца адной з заснавальніц ААН, мае сваю назву і мову, чыя культура, багатая і самабытная, з'яўляецца спадчынай старажытнай гісторыі яе тэрыторыі, радзімай бліскучых розумаў і магілкамі некаторых з найвялікшых імперый у свеце. Яе валюта ўнікальная, і сцяг таксама. Фактычна, артыкул “краіна” ў слоўніку мог бы мець яе за ўзорны прыклад. “Амерыка” - гэта не краіна, “Велікабрытанія” - не краіна. Таксама як “Злучаныя Штаты” і “Злучанае Каралеўства” - Бразілія, напрыклад, калісьці была і тым, і іншым. Беларусь, са свайго боку, з'яўляецца краінай абсалютна ва ўсіх адносінах. Чаму тады толькі ў выпадку апошняй сапраўднасць яе нацыянальнай ідэнтычнасці ставіцца пад сумнеў некаторымі асобамі і ўнутры, і за яе межамі? Існуе бясконцая колькасць адказаў на гэтае пытанне, таму я маю намер, наколькі дазваляе гэтая прастора, падысці да яго з сацыялагічных, эканамічных і палітычных аспектаў, сабраўшы некалькі разважанняў, якія могуць не з'яўляюцца новымі, але разам могуць зрабіць пэўны унёсак у дыскусію вакол гэтай невычэрпнай тэмы. Усе пераклады ў гэтым артыкуле зробленыя аўтарам.

**1. Сацыялагічныя аспекты**

Згодна з тэорыяй Робіна Данбара (2010), брытанскага антраполага, які спецыялізуецца на эвалюцыйнай псіхалогіі, наш мозг здольны распазнаць прыблізна да 150 чалавек. Гэта не азначае, што мы не можам пазнаёміцца з большай колькасцю людзей або запомніць больш імёнаў, але пасля гэтай колькасці мы пачынаем усё менш і менш ведаць пра іх і пра адносіны паміж імі. Аднак, калі мы разглядаем міжнародную супольнасць як глабальную вёску, дзе кожная краіна была б прадстаўленая адной асобай, гэтая колькасць зніжаецца да некалькіх дзясяткаў. Асобы, якія складаюць гэтыя дзясяткі, у сваю чаргу адрозніваюцца ў залежнасці ад геапалітычнага кантэксту кожнай з іх. Гэта дапамагае нам зразумець сведчанне Вольгі Ермалаевай Франко, беларускі, якая жыве ў бразільскім горадзе Саўвадоры. Перш чым іміграваць і пабрацца шлюбам з аўтарам гэтага артыкула, Вольга, паводле яе слоў, ніколі не адчувала вялікіх цяжкасцей з тлумачэннем, адкуль яна. Ва ўсіх суседніх краінах ёй дастаткова было сказаць "Беларусь", і ўсё было зразумела. Аднак тут не бракуе збянтэжаных твараў, якія спрабуюць уключыць яе ў (часткова) загадзя ўсталяваную ідэю ў сваіх галовах, бо чалавечы розум, падобна, такім чынам апрацоўвае новую інфармацыю: звязваючы яе са старой. Хоць гэта досыць карысная эвалюцыйная рыса, якая дапамагла нам дайсці да цяперашняга стану развіцця, але такая дынаміка можа перашкаджаць навучанню, калі не падключаецца крытычнае мысленне, з таго моманту, калі нічога новага не інтэрналізуецца.

Чаму людзі часта ігнаруюць пераважную большасць краін і нацыянальнасцей? Што ж, у адрозненне ад невялікіх супольнасцей, да якіх мы прызвычаіліся ад самага пачатку, глабалізаваны свет узнік параўнальна нядаўна і па-ранейшаму з'яўляецца ў асноўным абстрактнай і нават уяўнай канцэпцыяй, паводле Андэрсана (2006), альбо глакалізаванай, паводле Робертсана (2018). Цытуючы беларускага інтэлектуала Паўла Данейку: "Функцыя народу – выжываць, жыць, быць такім, які ён ёсьць" (Булгакаў, 2006, с. 134) - то бок, большасць людзей заклапочаная тым, каб дажыць да канца месяца, і для гэтага ёй не трэба ведаць, ні дзе знаходзіцца Беларусь, ні якая яе сталіца, ні на якой мове размаўляе яе народ, таму гэтая інфармацыя неістотная і нават непатрэбная.

Па праўдзе кажучы, здзіўленне, якое пераследуе Вольгу і значную частку яе суайчыннікаў па ўсім свеце, паказвае на значна большую праблему. У апытанні, праведзеным інстытутам "Ipsos/Pulso Brasil" (França, 2007), каля 50% насельніцтва Бразіліі не можа знайсці ўласную краіну на мапе свету. Таму не дзіўна, што з іншымі краінамі карціна яшчэ горшая: толькі 3% апытаных здолелі знайсці Францыю, у той час як 84% не ведалі пра тое, што Аргенціна, як і Францыя, мяжуе з Бразіліяй. Такім чынам, ці можна чакаць, што бразільцы будуць ведаць што-

небудзь пра Беларусь, калі большасць з іх нават не ведае, дзе сама знаходзіцца? Аднак гэтая праблема характэрная зусім не толькі для Бразіліі і не датычыцца выключна краін, якія развіваюцца. Калі падобныя дадзеныя могуць падацца беларускай грамадскасці шакіруючымі ці нават забаўнымі, дык нагадаем, шмат хто ў Беларусі не ведае, што ў Рэспубліцы Беларусь ёсць эксклаў Расійскай Федэрацыі - Санькова-Мядзвежжа - напрыклад. Карацей кажучы: значная частка “слабасці”, якая прыпісваецца беларускаму дыскурсу ідэнтычнасці і канструяванню яе нацыянальнасці - гэта проста адлюстраванне няведання і прагматызму, уласцівых чалавечай прыродзе. Мы ніколі не даведаемся ўсяго, і мусім засяродзіць увагу на пэўных рэчах, ігнаруючы іншыя, калі хочам выжыць. Тым не менш, дыскусія пра ідэнтычнасць мае найважнейшае значэнне як для тых, хто лічыць сябе элітай, так і для насельніцтва ў цэлым, на першы погляд апатычнага.

1.1 Меркаванні інтэлектуальных эліт

Беларуская сацыёлаг Нэлі Бекус (2010) спасылаецца на шэраг крыніц, якія тым ці іншым чынам ставяць пад сумнеў беларускую ідэнтычнасць: працы такіх аўтараў, як Дэвід Марплз, Джордж Сэнфард, Эд Джоселін, Колін Лоўсан, Разалінд Марш, Кэтлін Міхаліска, Рычард і Бэн Крамптаны, Карэн Давіша, Брус Пэрат, Томас Віндэрл, Рышард Радзік, Цімаці Снайдэр, сярод іншых, у большай ці меншай ступені адлюстроўваюць канструкцыю беларускай нацыянальнасці як слабую і няўстойлівую. У Беларусі яна таксама спасылаецца на інтэлектуалаў, такіх як Алена Карасцелева, Анатоль Астапенка і Сяргей Дубавец, да якіх можна дадаць, напрыклад, імёны накшталт Святлана Алексіевіч, Ірына Бугрова, Андрэй Вардамацкі, Святлана Калінкіна, Кася Камоцкая, Вячаслаў Кебіч, Жанна Літвіна, Анатоль Лябедзька, Уладзімер Улаховіч, Валеры Фралоў, сярод іншых інтэлектуалаў, апытаных у кнізе “Беларусь: ні Эўропа, ні Расея. Меркаванні беларускіх эліт” (2006).

Я не маю на ўвазе, што гэтыя асобы вераць ці нават абараняюць аргумент аб тым, што беларускі дыскурс ідэнтычнасці абсалютна слабы альбо адсутны. Улічваючы складанасць прадмета, немагчыма - я б нават сказаў, што непажадана - пазіцыянаваць сябе занадта цвёрда, бо кансенсус паказвае на цякучасць і шматлікія тлумачэнні самога паняцця дыскурсу ідэнтычнасці. Пры гэтым, асабліва што да меркаванняў нацыянальнай інтэлігенцыі, можна назіраць наступны спектр: ад тэндэнцыі адмаўляць альбо нават не заўважаць пэўную беларускую ідэнтычнасць, праз частковае прызнанне яе існавання з агаворкамі альбо сцвярджэнне, што гэты працэс толькі пачынаецца, да самых спрыяльных меркаванняў, як, напрыклад, Алеся Бяляцкага, Вінцука Вячоркі і Яўгена Бабосава, для якіх, падаецца, гэтае пытанне не столькі пра нацыянальную ідэнтычнасць, якая добра вызначаная і цесна звязаная з беларускай мовай, колькі пра ідэнтыфікацыю беларускага народа з

аўтарытарным рэжымам. У сувязі з гэтым, мне здаецца, што калі такі пункт гледжання быў далёка не пашыраным у 2006 годзе, палярызацыйны характар пратэстаў 2020 года, безумоўна, паставіў яго ў цэнтр дыскусій, як мы ўбачым далей.

**2. Палітычныя аспекты**

Як і кожны жыхар глабальнай вёскі, згаданай у першым раздзеле, кожная краіна, што існуе сёння, перажыла велізарную паслядоўнасць падзей. Каб зразумець кожную з іх, дзе яна знаходзіцца і як жыве, неабходна прааналізаваць іх гісторыю, і Беларусь не выключэнне. Шмат што з таго, што сёння адбываецца ў Беларусі, з'яўляецца прамым наступствам яе каланіяльнага мінулага, што ставіць яе ў кантэкст, аналагічны многім іншым калоніям, якія сталі незалежнымі ў XX стагоддзі, напрыклад, у Афрыцы.

Квамэ Нкрума, панафрыканскі рэвалюцыянер і першы прэзідэнт Ганы, у сваёй кнізе “Класавая барацьба ў Афрыцы” (1970) апісвае сцэнар, да болю падобны да сучаснай Беларусі: “Большасць узброеных сіл і паліцыі Афрыкі з'явілася ў межах каланіяльнага рэпрэсіўнага апарата. Мала хто з іх сябраў далучыўся да нацыянальна-вызваленчай барацьбы. У большасці сваёй яны выкарыстоўваліся для правядзення паліцэйскіх аперацый супраць гэтай барацьбы”

[1] (с. 41). Гісторыя паказвае нам, што ў 1994 г. пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь заняў не беларускі, а савецкі грамадзянін, з пункту гледжання лаяльнасці. Гэта магло адбыцца толькі ў краіне, дзяржаўны апарат якой не толькі застаўся нязменным пасля абвяшчэння незалежнасці, але і быў па сутнасці варожым да тых, хто за яе змагаўся. Гэта шмат у чым тлумачыць, чаму рэпрэсіі супраць дэманстрантаў, фальсіфікацыі і маніпуляцыі на выбарах сталі пастаяннымі ў Беларусі з часоў першых прэзідэнцкіх выбараў (Федута, 2005, с. 256, 309, 311-312, 637; Навумчык, 2006, с. 125; Consilium, 2020), паколькі апарат застаецца практычна тым жа, як і пры старым рэжыме.

У гэтым кантэксце звяртае на сябе ўвагу асабліва шакавальная падзея: чалавек, які не размаўляе на адзінай - літаральна адзінай - дзяржаўнай мове краіны, мае права балатавацца на найвышэйшую адміністрацыйную пасаду. На момант прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. у адпаведнасці з канстытуцыяй у Беларусі была і магла быць афіцыйнай толькі і выключна беларуская мова. Такім чынам, натуральна, што той, хто быў гатовы балатавацца ў прэзідэнты, мусіў размаўляць - пераважна альбо

[1] “The majority of Africa's armed forces and police came into existence as part of the colonial coercive apparatus. Few of their members joined national liberation struggles. For the most part, they were employed to perform police operations against it.”

выключна - на гэтай мове падчас выбарчай кампаніі і пасля абрання. Мы ведаем, што гэта не толькі не адбылося, але і адзначаецца, што для многіх людзей у Беларусі ў гэтай сітуацыі няма нічога шакавальнага - і гэта з'яўляецца часткай праблемы.

Я не сцвярджаю, што кандыдацтва ў прэзідэнты Беларусі мусіць быць дасяжным толькі для беларускамоўных моналінгваў, што практычна немагчыма пасля стагоддзяў уплыву расійскай мовы. Як казаў Францішак Багушэвіч: “Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю” (Осіпова, 2009, с. 90), - то бок, натуральна і нават пажадана, каб кандыдаты таксама вольна валодалі украінскай, польскай, літоўскай, латыскай і расійскай, а таксама ідыш і англійскай, сярод іншых, пры ўмове, што яны размаўляюць па-беларуску з беларускім народам. Любому мовазнаўцу вядома, што мова пачынае паміраць, калі носьбіты перастаюць яе ўжываць паміж сабой, як Багушэвіч таксама папярэджваў: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі” (тамсама). Дазволіўшы выбарчыя кампаніі на расійскай мове, беларуская дзяржава працягнула сумную традыцыю каланіяльнай спадчыны і, пакінуўшы ў баку беларускую мову, пакінула дэмакратычную і незалежную рэспубліку пад пагрозай смерці.

Не дазваляйце сябе падмануць: мова - гэта палітыка. Што мова не мае значэння, кажуць тыя, што адчуваюць сябе прадстаўленымі дамінуючым палітычным дыскурсам, у дадзеным выпадку, расійскамоўнага каланіяльнага паходжання. Гэтыя людзі першымі паскардзяцца, калі адчуюць, што іхняй мове нешта пагражае, нават уяўна. Няма і не можа быць беларускай нацыі без беларускай мовы, што, безумоўна, вядзе да непазбежна дэкаланіяльнай гістарычнай свядомасці. Натуральна чакаць, што чалавек, які размаўляе па-беларуску, атаясамліваецца з Пагоняй, бел-чырвона-белым сцягам, Днём Волі і Захадам. І наадварот, чалавек, які гаворыць па-расійску і публічна пагарджае беларускай мовай, нават калі гэта яго родная мова, нязменна будзе звяртацца да Масквы і грунтаваць сутнасць свайго быцця на расійска-савецкай спадчыне. Маючы поўныя паўнамоцтвы, зусім не дзіўна, што апошні зруйнаваў дэмакратычныя каштоўнасці і ўсталяваў аўтарытарны расійскамоўны рэжым з неасавецкай сімволікай, даўшы новае жыццё каланіяльнаму апарату. Паводле Нкрумы, гэты апарат складаецца з ваеннай, паліцэйскай і бюракратычнай эліты, арганізацый, створаных старой метраполіяй для абароны сваіх інтарэсаў, і выжыванне і дабрабыт яе сябраў залежаць ад падтрымання старой структуры. Такі хаўрус спалучае карыснае з прыемным для тых, хто кіруе гэтай агіднай сістэмай: бюракраты плануюць, а ваенныя і паліцыя выконваюць, як мы і бачым сёння.

Акрамя таго, што ў цяперашні час Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у свеце, дзе КДБ працягвае працаваць пад той самай назвай, толькі ў Беларусі гадавіна

Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца святам, і гэта больш чым сімвалічна. Дарэчы, хапае і іншых памятных дат, што супадаюць з савецкімі: Дзень міліцыі і Дзень абаронцы Айчыны, а таксама новы Дзень Незалежнасці, усталяваны на антыканстытуцыйным рэферэндуме ў 1996 годзе. У тым годзе, дарэчы, ледзь не адбыўся першы ў гісторыі Беларусі імпічмент. Аднак, як кажа нам беларускі палітолаг Аляксандр Фядута, "імпічмент не адбыўся. Яму перашкодзіў... беларускі парламент. Менавіта Вярхоўны Савет звярнуўся да кіраўніцтва Расіі з просьбай выступіць у якасці трацэйскага суддзі ў спрэчцы беларускіх галін улады, што і зрабіла катастрофу непазбежнай"[2] (с. 309). Карацей кажучы: Лукашэнка быў прадказальнай катастрофай, а ўстановы, якія маглі сарваць яго планы, былі больш лаяльнымі да інтарэсаў метраполіі, якая іх спарадзіла, - нягледзячы на гераічныя намаганні некаторых - чым да беларускага народа, які яны павінны абараняць.

2.1 Мы супраць іх

Кожнае чалавечае грамадства заснавана на дыхатаміі, якую можна назваць "мы супраць іх". Гэтае "мы" можа быць, напрыклад, сям'ёй, групай альбо сацыяльным класам, нацыяй ці расай, адрознай ад іншых. Гістарычна гэтая дыхатамія служыла асновай для размежавання нацый і плацдармам канфліктаў, якія прывялі да ўздыму і падзення незлічоных дзяржаў. Сёння можна падзяліць краіны свету на дзве катэгорыі, згодна з гэтай дыхатаміяй: тыя, дзе яна працуе ўнутрана, гэта значыць "мы супраць іх" адносіцца да слаёў самога грамадства, у пэўным унутраным (неа)каланіялізме; і тыя, дзе гэта праяўляецца знешне, гэта значыць, краіна аб'ядноўваецца супраць іншых у знешнім (неа)каланіялізме. Вядома, гэта нельга разумець літаральна - чалавечыя грамадствы складаныя, і кожная краіна ў большай ці меншай ступені будзе праяўляць асаблівасці абедзвюх катэгорый. Акрамя таго, гэты антаганізм мае незлічоную колькасць праяў, і ўзброеная барацьба з'яўляецца толькі адной з іх.

Беларусь, як і Бразілія і многія іншыя былыя калоніі, адносіцца да першай катэгорыі, паколькі яе дыхатамія "мы супраць іх" перакладаецца як урад супраць уласнага народа, што, у дадзеным выпадку, сімвалізуецца дуэллю сцягоў - традыцыйнага супраць неасавецкага. Што да доўгай гісторыі першага, як сімвала супраціву імперыі, беларускі гісторык Андрэй Катлярчук звяртае ўвагу: "Пад гэтым сцягам беларусы два разы ў XX стагоддзі прыходзілі да дэмакратыі – 1918 год і 1991 год! Два разы ён быў сімвалам дэмакратычнай рэвалюцыі. Цяпер гэта трэці раз" (2021). Гэта наўпрост супярэчыць усяму, што сімвалізуе другі сцяг,

[2] "(...) импичмент не состоялся. Ему помешал... белорусский парламент. Именно Верховный Совет обратился к руководству России с просьбой выступить в качестве третейского судьи в споре белорусских ветвей власти, что и сделало катастрофу неизбежной."

натхнёны савецкім дыскурсам, як тлумачыць гісторык: “пад гэтым сцягам [чырвона-зялёным] ішла прымусовая калектывізацыя Заходняй Беларусі, вынішчаліся апошнія згуртаванні антысавецкага супраціву, катавалі беларускую моладзь” (тамсама). Быццам бы гісторыя паўтараецца, сёння мы з велізарным шкадаваннем бачым, што беларускую моладзь ізноў катуюць пад такім самым сцягам, у той час як на бел-чырвона-белы сцяг, паводле Катлярчука, вядзецца паляванне, што “ілюструе развал дыялогу паміж дзяржавай і грамадзянскай супольнасцю”[3] (2020).

Так сама, як я сцвярджаю, што Лукашэнка быў прадказальнай трагедыяй, развал, пра які кажа Катлярчук, мусіў адбыцца рана ці позна, і абедзве падзеі цесна пераплеценыя з меркаваннем, што Беларусь мае слабую нацыянальную ідэнтычнасць. Як рэжым, заснаваны на няўдалым дыскурсе краіны, якой нават ужо не існуе, можа быць моцным? Як можна паважаць кіраўніка дзяржавы, які пагарджае ўласным народам і яго мовай на карысць іншага? Узяўшы пад кантроль беларускія ўстановы, дыктатар не ўмацаваў краіну, наадварот, ён падарваў яе асновы да такой ступені, што некалькі разоў яму даводзілася звяртацца да нацыяналістычнага дыскурсу, каб былая метраполія не праглынула яго, як у выпадку з ягонымі рэдкімі выступамі па-беларуску і прысабечваннем дасавецкай спадчыны. Ягоная прамова пра блізкасць да былой метраполіі па сваёй сутнасці няпраўдзівая і служыць толькі замацаванню яго пазіцыі крамлёўскага дыванка, бо, у рэшце рэшт, ніводны каланізатар ніколі не ўбачыць у каланізаваным роўнага сабе, як ілюструе Фядута (2005, с. 604):

*Сяргей Глазьеў доўга распісваў мне ўсе вабноты ўваходжання Беларусі ў Саюз. Але на пытанне, ці не разглядае ён магчымасці таго, што прэзідэнтам Саюза стане Аляксандр Лукашэнка, Глазьеў тады (па-мойму, у 1996 годзе) проста рассмяяўся: - Гэтага не можа быць! Гэтага не можа быць! [...] Куды ж яму - “нярускаму” - Расіяй правіць?*[4]

Практычна ўсе народы свету перажылі альбо яшчэ перажываюць пэўны каланіяльны досвед, але справа ў наступным: чым больш (былы) каланізатар істотны для каланізаванага, тым менш фактычна незалежны апошні. У гэтым і заключаецца вялікая слабасць рэжыму: з таго часу, як Лукашэнка прыйшоў да ўлады, ён не шкадуе намаганняў у павялічэнні значнасці былой метраполіі для

[3] “(...) illustrates an ongoing collapse of the dialog between the state and civil society.”

[4] “Сергей Глазьев долго расписывал мне все прелести вхождения Беларуси в Союз. Но на вопрос, не рассматривает ли он возможность того, что президентом Союза станет Александр Лукашенко, Глазьев тогда (по-моему, в 1996 году) просто рассмеялся: — Этого не может быть! Этого не может быть! [...] Куда ж ему — «нерусскому» — Россией править?”

свайго народа, выкарыстоўваючы аргумент пра брацкія народы. І ўся праблема "слабой беларускай ідэнтычнасці" вынікае з гэтай блізкасці да Расіі, як адзначае Пётра Мурзёнак, дзеяч беларускай дыяспары ў Канадзе: "пагроза незалежнасці-паглынання ідзе з усходу, з боку "русского міра". Так атрымалася, маем такога суседа! Добра было б перасяліцца ад яго на нейкі асобны востраў, калі б гэта было магчыма... А так трэба шукаць падыходы, каб абараніцца" (2019).

Тое, што Беларусь і Расія не раздзеленыя акіянам, не замінае ім быць надзвычай рознымі краінамі. Дыскурс аб "братэрскай любові" паміж імі хавае эканамічныя інтарэсы імперыялістычнага парадку, як адзначае беларуская палітолаг Ірына Бугрова (Булгакаў, 2006, с. 127):

*Калі вы заўважылі: як толькі расейская палітыка мяняецца ў бок ціску на Беларусь, адразу ж мяняецца і беларуская грамадзкая думка ў бок большай дыстанцыі ад Расеі. Гэта гаворыць, у прынцыпе, пра тое, што беларусы не гатовыя да такіх цесных саюзных дачыненьняў. І, трэба сказаць, наперакор афіцыйнай прапагандзе не адчуваюць такой ужо калясальнай братэрскай любові. Гэта містыфікацыя!*

Калі Бранская і Смаленская вобласці падобныя да Беларусі, дык гэта таму, што гэта гістарычна беларускія землі. Насамрэч любыя прыгранічныя рэгіёны мусяць мець больш падабенстваў, чым адрозненняў. Аднак па меры паглыблення, Расія робіцца ўсё больш чужой, з беларускага пункту гледжання, і я кажу не толькі пра такія рэспублікі, як Дагестан і Ўдмуртыя, альбо пра гіганцкую Саху. Нават "славянскія" рэгіёны Расіі адрозніваюцца ад таго, што можна было б лічыць "славянскім" у Беларусі, Славакіі ці Чарнагорыі, і гэта спадчына досведу кожнага з гэтых і іншых народаў на працягу стагоддзяў, які папярэднічаў эфемернай інтэграцыі, перажытай імі ў камуністычны перыяд. Выключыце расійскую мову і савецкую спадчыну з Беларусі, і Расія стане такой самай замежнай - альбо аддалена знаёмай - як, напрыклад, Польшча альбо Балгарыя. Калі гэта здаецца складаным, проста паглядзіце на новы рубель - адну са спроб Лукашэнкі прысабечыць беларускі нацыяналістычны дыскурс, каб пазбегнуць лёсу простага губернатара суб'екта РФ альбо цалкам быць знішчаным ўсходнім рэжымам. Гэта паказвае моц нацыяналістычнага дыскурсу, сімвалізаванага бел-чырвона-белым сцягам і Пагоняй. Ён заснаваны на мінулым не падпарадкавання, а пратаганізму з уласнай мовай і культурай, значна ранейшым за 1917 год.

Аднак, нават з улікам перавагі гэтай ідэнтычнасці, суверэнітэт Беларусі не цалкам гарантаваны. Як ужо згадвалася раней, дыскурс пра блізкасць "брацкіх народаў" хавае эканамічныя інтарэсы рэжымаў так званай Саюзнай дзяржавы. Без перарывання гэтай эканамічнай залежнасці Беларусь ніколі не пакіне зоны ўплыву

Масквы. Толькі моцная і ўстойлівая эканоміка можа даць краіне поўную сілу абараніць свой суверэнітэт, як мы ўбачым у наступным раздзеле.

**3. Эканамічныя аспекты**

Хоць эканоміка сама па сабе не мае большага значэння, чым сацыялагічныя і палітычныя аспекты, яе роля ўспрымаецца як цэнтральная ва ўмацаванні дыскурсу ідэнтычнасці краіны на міжнародным узроўні. Менавіта дзякуючы сваім велізарным эканамічным здабыткам, "безыменныя" краіны, пра якія я распавядаў ва ўводзінах, не толькі выжылі і захавалі суверэнітэт, але і здабылі сусветную вядомасць, і, як следства, мала хто ставіць пад сумнеў сапраўднасць іх дыскурсаў ідэнтычнасці. Важнасць эканомікі ў пабудове моцнага дыскурсу ідэнтычнасці не з'яўляецца чымсьці новым, як сведчыць Бугрова (Булгакаў, 2006, с. 126). Паводле яе, першым фактарам, культурным альбо нацыянальным, у дыскурсе ідэнтычнасці насамрэч кіруе фактар эканамічны. Ня этнакультурны, не культуралягічны, а менавіта эканамічны! Праз эканамічны фактар узьнікае нацыянальна, этнічна цікавы элемэнт – тып вядзеньня гаспадаркі беларусаў. Гэта пытаньне формы эканомікі, гэта пытаньне разьвіцьця нейкіх лякальных супольнасьцяў на нейкім узроўні і г. д. Праз эканоміку зьяўляецца і адраджаецца тое, што зьвязана з этнасам і культурай.

Вядомым прыкладам таго, наколькі эканамічны фактар істотны для пабудовы ідэнтычнасці краіны, з'яўляецца Швейцарыя, якая нават не мае сталіцы і дзе менш за 1% насельніцтва размаўляе на нацыянальнай мове. Тым не менш, паколькі гэта адна з найзаможнейшых краін свету, яе ідэнтычнасць не толькі *не* ставіцца пад сумнеў, але яна яшчэ і служыць узорам развіцця, а яе назва выкарыстоўваецца для падкрэслення важнасці іншых краін у адпаведных рэгіёнах (паўднёваамерыканская "Швейцарыя", афрыканская, блізкаўсходняя, паўднёваўсходнеазіяцкая і гэтак далей). Як і Беларусь, Швейцарыя не мае выхаду да мора, а яе крытычна больш абмежаваныя тэрыторыя і прыродныя рэсурсы, маглі б быць падставай для поўнага правалу, калі прымяніць той самы беларускі аргумент - каланіяльны ўплыў - для ацэнкі яе патэнцыялу. Але, у адрозненне ад Беларусі, Швейцарыя мае дэцэнтралізаваны ўрад, а таксама празрыстыя і эфектыўныя ўстановы, якія развіваюць і рэгулююць моцную і глабалізаваную эканоміку.

Можна запярэчыць, нібыта гэта звязана з відавочнай "старажытнасцю" швейцарскіх устаноў, у той час як Беларусь з'яўляецца "маладой" краінай. Хоць такое мысленне не пазбаўлена логікі, маем прыклад старажытнай Эфіопіі, трагічна асацыяванай з нестабільнасцю і голадам, у адрозненне ад маладой Германіі, моцна разбуранай падчас найвялікшай вайны ў гісторыі і ўз'яднанай толькі ў 1989 г., якая

сёння з'яўляецца найбуйнейшай эканомікай у Еўропе. Аўстралія нядаўна змяніла тэкст свайго гімна (Gershon, 2021), які апісваў яе народ як "малады", замяніўшы гэты тэрмін на "адзіны", з павагі да цывілізацый, якія жывуць там па меншай меры 65 000 гадоў, але не гэта стала прычынай яе развіцця. Тым часам бразільскі гімн працягвае апісваць нас як "гіганта, які спіць", як частку так званага "новага свету", чыя веліч яшчэ наперадзе. Але, калі Бразілія, што мае больш чым 500-гадовую гісторыю пад гэтай назвай, 200 з якіх з'яўляючыся незалежнай дзяржавай, спрабуе апраўдаць галечу сваёй "маладосцю", дык што казаць пра Канаду, якая з'яўляецца часткай таго самага "свету" і, толькі нядаўна адсвяткаваўшы 150 гадоў, усё яшчэ знаходзіцца пад эгідай брытанскай кароны?

Калі ад узроста краіны, а таксама яе тэрыторыі, прыродных рэсурсаў, як і колькасці і аднастайнасці насельніцтва, не абавязкова залежыць узровень эканамічнага развіцця (гл. Сінгапур), можна разглядаць гэты аргумент як хлусню, якая служыць для апраўдання гістарычнай сацыяльна-эканамічнай няроўнасці, што будзе замінаць, як сцвярджае Бугрова, таму, каб з'явіўся "нацыянальна, этнічна цікавы элемэнт", здольны аб'яднаць народ дзеля ўласнага дабрабыту. Як мы бачылі ў папярэднім раздзеле, такі сцэнар не выпадкова адбываецца ў Беларусі, дзе існуюць моцныя палітычныя інтарэсы як унутры, так і па-за межамі краіны, якія дзейнічаюць для таго, каб беларускія ўстановы працягвалі працаваць менавіта так, як працуюць, на карысць некаторых і на шкоду многіх. У такім выпадку, як змяніць гэтую сітуацыю?

3.1 Да эканамічнай і энергетычнай незалежнасці

Як сцвярджае Бугрова, праз "эканоміку зьяўляецца і адраджаецца тое, што зьвязана з этнасам і культурай". Гэта не азначае, што эканамічны прагрэс - рашэнне ўсіх праблем, але ў тым, што ад эканомікі залежыць выжыванне народа і стабільнасць яго ўрада, мала хто будзе сумнявацца. Хоць прапаганда Лукашэнкі і спрабуе пераканаць людзей у адваротным, менавіта эканамічны крызіс быў вырашальным фактарам вымірання Савецкага Саюза. Гэтак жа, як сведчыць беларускі палітолаг Рыгор Астапеня (2020), "беларуская эканоміка ўжо была ў дрэнным стане да выбараў, але сітуацыя будзе значна пагаршацца"[5], што паказвае на магчымы для рэжыма Лукашэнкі канец, падобны да развалу дзяржавы, якой ён так захапляецца.

Падобна таму, як эканамічныя, сацыяльныя і палітычныя праблемы ўзніклі ў Беларусі не ўчора, доўгатэрміновыя рэформы, неабходныя для прагрэсу краіны, не адбудуцца за адну ноч. Аднак ва ўмовах хаосу, у які дыктатар увёў краіну пасля

[5] "The Belarusian economy was already in bad shape before the election, but the situation is going to get much worse."

адмовы прызнаць сваю паразу Святлане Ціханоўскай на прэзідэнцкіх выбарах 2020 года (Вясна, 2020), неабходна таксама прадумаць больш тэрміновыя эканамічныя меры, у кароткатэрміновай і сярэднетэрміновай перспектыве: з мэтай аказання дапамогі найбольш уразлівым слаям насельніцтва і прадухілення яшчэ большай трагедыі. У гэтым напрамку, акрамя дзеянняў, якія Ціханоўская і Народнае Антыкрызіснае Ўпраўленне ўжо праводзяць са сваімі саюзнікамі ў ЕС і Паўночнай Амерыцы, неабходна прадугледзець, як гэтыя саюзнікі могуць дапамагчы ў барацьбе з аўтарытарызмам і парушэннямі правоў чалавека, здзейсненымі рэжымам Лукашэнкі. У якасці адпраўной кропкі Астапеня паказвае на сем спосабаў, як Захад можа дапамагчы Беларусі ва ўмовах цяперашняга крызісу:

I. Прызнаць новую рэальнасць: Лукашэнка страціў любую легітымнасць, якую ён мог бы мець, так што большасць беларускага народа больш не бачыць у ім лідэра, і міжнародная супольнасць павінна гэта прыняць.
II. Не прызнаваць Лукашэнку прэзідэнтам: без прызнання міжнароднай супольнасці дыктатар страціць любую фінансавую падтрымку, якая дапамагла б яму захаваць уладу. Неабходна патрабаваць новых празрыстых выбараў, што можа адбыцца толькі пры міжнародным ціску.
III. Прысутнічаць на месцы: Важна, каб міжнародныя органы, такія як ААН і АБСЕ, а таксама НДА і дыпламатычныя місіі іншых краін уважліва сачылі за сітуацыяй. Чым большая міжнародная бачнасць, тым менш жорсткімі будуць рэпрэсіі і тым больш стымулаў для мірных перамоваў.
IV. Абвясціць пакет эканамічнай падтрымкі дэмакратычнай Беларусі: Астапеня абараняе рэалізацыю своеасаблівага плана Маршала па выхадзе Беларусі з крызісу. Паводле яго слоў, нягледзячы на тое, што гэтая фінансавая падтрымка павінна суправаджацца дэмакратычнымі рэформамі, важна, каб беларускі ўрад быў вольны нават весці перамовы з Расіяй, каб прыцягнуць нават самых праўсходніх палітыкаў.
V. Увесці мэтавыя палітычныя і эканамічныя санкцыі: Больш жорсткія і мэтавыя санкцыі неабходныя як для вышэйшага камандавання дыктатара, так і для кампаній, якія вядуць з ім бізнес. Аўтар таксама прапануе увесці тэрміны, пасля якіх санкцыі будуць яшчэ больш жорсткімі. Гэтая мера разлічанае на тое, каб пераканаць саўдзельнікаў Лукашэнкі павярнуцца супраць яго.
VI. Падтрымаць НДА ў расследаванні заяў пра катаванні: Не маючы законных рэсурсаў для пераследу злачынстваў, учыненых дзяржаўнымі службовымі асобамі супраць мірнага насельніцтва, неабходна забяспечыць для беларускіх НДА партнёрства з замежнымі ўстановамі для дакументацыі злачынстваў, каб можна было прыняць адпаведныя меры, як толькі ўзнікнуць спрыяльныя ўмовы.
VII. Падтрымаць вядомых ахвяр рэжыму: Кампаній салідарнасці з ахвярамі рэжыму, нягледзячы на іхнюю безумоўную карысць, недастаткова, каб дапамагчы ўсім, улічваючы сур'ёзнасць сітуацыі. Такім чынам, неабходна большая фінансавая

падтрымка ахвярам, арганізацыям і праваабаронцам, якія змагаюцца супраць рэжыму.

Дапусцім, што гэтыя і іншыя меры прымяняюцца паспяхова, і людзі канчаткова перамагаюць тыранію. Што цяпер? Ці скончацца праблемы ў краіне? Далёка не так. Як аднойчы сказаў вядомы алжырскі пакутнік Ларбі Бэн М'іды (Cinematic Rating, 2020), “Пачаць рэвалюцыю няпроста. Працягнуць яе складаней, але толькі пасля нашай перамогі пачнуцца сапраўдныя цяжкасці”[6]. Гісторыя паказвае нам, што ўлада не пакідае вакуума. Неўзабаве пасля звяржэння аўтарытарнага рэжыму, калі не будуць прыняты сур'ёзныя меры, утворыцца іншы, як гэта адбылося ў шэрагу былых савецкіх рэспублік. Невыпадкова гэтыя постсавецкія аўтарытарныя рэжымы, як у Цэнтральнай Азіі і на Каўказе, атрымліваюць субсідыі ад Расіі - найбуйнейшай эканомікі рэгіёна. Для барацьбы з гэтай тэндэнцыяй, як адзначае Астапеня, неабходна садзейнічаць пашырэнню інтэграцыі з ЕС, асабліва на фінансавым узроўні, але будучыня, у якой Беларусь залежыць ад міласціны еўрапейскай супольнасці, таксама не пажаданая. Акрамя таго, пагодзімся, што ніхто проста так не ахвяруе мільёны еўра, не чакаючы нічога ўзамен, а Беларусь дакладна не валодае вялікай гандлёвай сілай, акрамя свайго стратэгічнага становішча паміж Захадам і Усходам, якое таксама не з'яўляецца яе выключнай перавагай. Такім чынам, толькі дыверсіфікаваная і глабалізаваная нацыянальная эканоміка, а, значыць, не залежная толькі ад таго ці іншага прадукту / пакупніка, можа стварыць глебу для вядзення перамоў з суседнімі дзяржавамі на ўласных умовах. Алекс Крэмер, кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі, яшчэ да цяперашняга крызісу адзначаў гэты напрамак (World Bank, 2019):

*Вельмі важна ўмацаваць канкурэнтаздольнасць і, такім чынам, экспартаваць больш прадукцыі ў больш шырокае кола краін (...). Далейшае паляпшэнне дзелавога асяроддзя і інтэнсіфікацыя рэструктурызацыі кампаній, асабліва дзяржаўных, дапамаглі б вытворцам уводзіць інавацыі і больш экспартаваць. У адваротным выпадку, адзіны спосаб урэгулявання дзяржаўнай пазыкі - скарачэнне дзяржаўных выдаткаў і падвышэнне падаткаў.*[7]

З прычын, разгледжаных у папярэднім раздзеле, мы ведаем, што змены, рэкамендаваныя Крэмерам, ніколі не будуць прыняты ўрадам Лукашэнкі.

---

[6] "يصعب على الشعب ...أن يبدأ ثورة ...ويصعب أكثر مواصلتها والأكثر صعوبة أن ينتصر ،ولكن بعد ذلك ...بعد الإنتصار تبدأ الصعوبات الحقيقية"

[7] “It is essential to strengthen competitiveness and, thus, export more products to a wider range of countries (...). Further improving the business environment and intensifying the restructuring of companies, especially state-owned companies, would help producers innovate and export more. Otherwise, the only way to address public debt is to cut government spending and raise taxes.”

Гандляваць з больш шырокім колам краін і, такім чынам, менш залежыць ад Расіі? Рэструктураваць дзяржаўныя кампаніі і заахвочваць прыватныя? Уводзіць інавацыі? Працей змяніць беларускі ўрад, чым увесці гэтыя меры пры цяперашнім, і менавіта гэта мусіць адбыцца ў ідэале. Беларусь мае велізарны патэнцыял эканамічнага росту, як паказваюць некаторыя з самых прыбытковых стартапаў, практычна ўсе яны працуюць за мяжой менавіта праз адсутнасць спрыяльнага бізнес-асяроддзя ва ўласнай краіне.

Дапусцім, што народ перамагае, Ціханоўская вядзе мірны дэмакратычны пераход, і наступнае кіраўніцтва краіны праводзіць рэформы, якія прыводзяць да росквіту беларускай эканомікі. Гэта, вядома, з невялікай дапамогай ЕС і НАТА, каб прадухіліць прысутнасць непажаданых гасцей. І ўсё ж будзе істотная праблема, якую давядзецца вырашаць новаму ўраду: энергетычная залежнасць. Не сакрэт, што значная частка ўплыву Крамля на Беларусь звязана з нафтай і прыродным газам, неабходнымі для выжывання насельніцтва. Такім чынам, расейцам дастаткова падняць кошты, каб задушыць беларускую эканоміку. Але ці так залежыць Беларусь ад Расіі?

Вядома, што ў Беларусі няма вялікіх запасаў нафты і прыроднага газу. Аднак, паводле даследавання Каўнаскага універсітэта, яе “геаграфічнае становішча мае шэраг пераваг у шырокім выкарыстанні большасці аднаўляльных крыніц энергіі і біяэнергіі”[8] (Raslavičius, 2012, с. 5399). Інвестыцыі ў гэтую сферу - гэта не проста выбар, але неабходнасць не толькі з мэтай дасягнення энергетычнай самадастатковасці, але і з-за сусветнай тэндэнцыі памяншэння спажывання выкапнёвага паліва, якое, акрамя забруджвання навакольнага асяроддзя, па-ранейшаму ставіць цэлыя краіны ў залежнасць ад ваганняў цэн на міжнародным рынку, як гэта адбылося ў перыяд з 2006 па 2010 год, калі кошт прыроднага газу, які Беларусь імпартавала з Расіі, павялічыўся больш чым на 350% (с. 5401).

Падобна таму, як каланізаваная ментальнасць, якую падтрымлівае рэжым Лукашэнкі, часта прымушае сам беларускі народ думаць пра сябе як пра “маленькую”, “маладую” ці нават “нязначную” краіну, каб на нявызначаны час утрымліваць яе ў арбіце былой метраполіі, тое самае можна сказаць і пра міф, што ў Беларусі няма аднаўляльных крыніц энергіі. Нават вобраз “краіны пад шэрым небам” хавае велізарны патэнцыял для атрымання сонечнай энергіі, паводле таго ж даследавання:

[8] “(...) geographic location has several advantages for extensive use of most of the renewable energy (RE) and bioenergy sources.”

*Мяркуецца, што сёння больш за 40% усіх дахаў будынкаў і 15% іх вонкавых бакоў прыдатныя для усталявання фотаэлектрычных прыбораў. (...) Навукоўцы і прадпрымальнікі, што займаюцца эксперыментальнай вытворчасцю сонечных модуляў не сумняюцца, што для вытворчасці сонечнай электраэнергіі гэтага цалкам дастаткова для Беларусі. Даследаванне паказала, што Германіі (дзе узровень асветленасці ніжэйшы, чым у Беларусі), якая да канца 2010 года мела больш за 16 ГВт фотаэлектрычнай электраэнергіі, убудаванай у сваю сетку, яшчэ далёка да перавышэння абмежаванняў сеткі.*[9]

Акрамя гэтага неверагоднага патэнцыяла, паводле даследавання, Беларусь можа атрымліваць значна больш энергіі з іншых крыніц. Паводле афіцыйных дадзеных, у краіне прыблізна 1840 участкаў, прыдатных для стварэння ветрапаркаў, патэнцыял якіх мог дасягнуць 1,6 ГВт (з якіх да 2010 года былі выкарыстаныя толькі 2 МВт), з магчымасцю павялічэння ў 700 разоў цягам наступнага дзесяцігоддзя. Аднак не дзіўна, што больш чым праз дзесяць гадоў гэтая колькасць дасягнула ўсяго 10 МВт (Niu & Korneev, 2021, с. 64). Падобная сітуацыя і з вытворчасцю гідраэлектраэнергіі: у 1960-х гадах было падлічана, што гідраэнергетычны патэнцыял Беларусі перавышае 7 ГВт (2012, с. 5407), з якіх у цяперашні час выкарыстоўваецца толькі 6 МВт (2021, с. 63); а біяпаліва з вялізным патэнцыялам росту, які, паводле ацэнак, складаў 2500% для біягазу і біядызельнага паліва (2012, с. 5401) - перажывае стагнацыю і адсутнасць значных інвестыцый праз дзесяць гадоў (2021, с. 64).

Усё гэта прыводзіць да пытання: чаму рэжым Лукашэнкі так мала ўкладвае ў аднаўляльныя крыніцы энергіі, якія могуць садзейнічаць дасягненню энергетычнай незалежнасці краіны, акрамя аховы навакольнага асяроддзя? Ён меў для гэтага сродкі, і прычына не ў недахопе грошай - Астравец таму пацверджанне. Калі адказ на гэтае пытанне здаецца відавочным, лепш запытацца ў наступнага ўрада, спадзяюся, сапраўды дэмакратычнага: што вы можаце зрабіць, каб змяніць гэтую сітуацыю?

**Заключныя меркаванні**

Пабудова нацыянальнасці народа - гэта бясконцая праца, і яго нацыянальныя дыскурсы будуць настолькі ж шматлікімі, як і асобы, якія ўваходзяць у яго альбо разважаюць пра яго цягам стагоддзяў. Ніводная краіна ў свеце не можа пахваліцца

[9] "It is estimated that today more than 40% of all building roofs and 15% of all building exterior sides are suited for PV applications. (...) Scientists and entrepreneures from pilot production of solar modules have no doubts that produce electricity from the sun it is quite appropriate in BY. The study found that Germany (the light level is lower than in Belarus), which by end 2010 had more than 16 GW of photovoltaic electricity integrated into its network, is still a long way from exceeding grid limitations. [sic]"

подобный древнему Иерусалимскому храму. Отсюда и название – Новый Иерусалим. Были переименованы ближайшие к монастырю места: "река Иордан" – Истра, "гора Фовор" – возвышенность близ берега реки, "Гефсиманский сад" – соседняя роща… Однако патриарх не стремился к точному воспроизведению памятника архитектуры первых веков нашей эпохи. Староиерусалимский храм втиснут в скалу, Новоиерусалимский – стоит свободно. В палестинском храме 29 приделов, в русском – 14. Мраморная отделка заменена цветными изразцами, выполненными белорусскими умельцами под руководством Степана Иванова, прозванного за мастерство Полубесом.

В отличие от Западной Европы и Княжества, где типографии могли содержать частные лица и издавать книги по собственному усмотрению, в России XVI-XVII веков монополия на издание книг принадлежала только церкви. В стране была одна типография, подчиненная патриарху, и она работала только на потребу церкви: из 483 названий книг, выпущенных за сто лет, только 13 носили относительно светский характер. Поэтому патриарх и позаботился забрать новую типографию под свой надзор. Но своенравный и себялюбивый Никон не поладил с царем Алексеем. Бывший патриарх отправился в ссылку, а типография осталась бесхозной. Её перевезли в Москву, в Патриарший приказ и … забыли.

Белорусская типография была задействована вновь для печатания трудов Симеона Полоцкого – последнего в ряду крупных деятелей белорусской культуры эпохи Возрождения и первого русского профессионального писателя. Приехав добровольно в Москву в 1664 году, он указом царя был назначен в специально открытое училище для подъячих Приказа Тайных дел, а затем стал наставником старших детей Алексея. С 1665 года Полоцкий занимает неофициальный чин придворного поэта.

По "Псалтыри" училось грамоте в России несколько поколений учеников, а Михаил Ломоносов назвал ее вместе с "Грамматикой" Смотрицкого (тоже, кстати, учёного ВКЛ) "вратами своей учёности". Но все светские труды Полоцкого церковь не разрешала к печати. Только после смерти Алексея новый царь Федор – воспитанник Симеона нарушил вековой обычай и вспомнил о заброшенной типографии. Полоцкий стал активно готовить труды к печати, но в разгар хлопот заболел и скоропостижно скончался. Его ученику и последователю Сильвестру Медведеву удалось издать только первые два тома. После этого типографию закрыли. Больше сведений о ней нет.




*Современный вид. Справа от входа памятная доска, посвященная Спиридону Соболю.*

Сам же Крутицкий богоявленский мужской монастырь существовал до октября 1917 года. В 80-е годы микрорайон Заднепровье подступил к стенам этих старых помещений. И быть бы им снесенными, если бы не вмешалась специальная экспедиция археологов объединения "Белреставрация" и Института истории АН БССР. Уникальный памятник архитектуры белорусского барокко и книгопечатания сохранили. А в 1998 году, как уже было сказано в начале беседы, увековечен памятной доской.



Изготовил барельеф Игорь Голубев. Он закончил Белорусскую Академию искусств только в 1990 году, но его работы уже хорошо известны. В центре Минска в Троицком предместье двигается к Свислочи вечный странник Язеп Дроздович, а перед Красным костелом "Архангел Михаил побеждает змея". Замечательный белорусский художник и композитор Наполеон Орда держит на колене палитру. В руке у него перо, а на дорожной сумке выгравирована лира. Таким "узнали" своего знаменитого земляка в 1997 году жители Иванова – райцентра Брестской области. Оршанцы могут похвастаться несколькими

работами скульптора. В 1992 году здесь открыли памятник Владимиру Короткевичу, в 1994 – памятник воинам, которые погибли в Афганистане. Годом раньше появился памятный знак жертвам сталинских репрессий. И, наконец, мемориальная доска, изображающая Спиридона Соболя, служит для посетителей Кутейнской лавры ключом к познанию нашей славной истории. Смотрит на своих потомков великий человек, живший более 3,5 веков назад в эпоху Возрождения. Смотрит и как бы призывает сделать все, что в человеческих силах для нового возрождения Беларуси. Страна с достойным прошлым, может и должна стать страной с замечательным будущим. Может! Если каждый сделает для нее хотя бы малую часть совершенного Спиридоном Соболем!



Послесловие. В 2014 году в монастыре торжественно открыли памятный знак ПЕРВОМУ В МИРЕ БУКВАРЮ.
Тогда же в библиотеку монастыря поступило факсимильное издание "Букваря " Спиридона Соболя 1631 года. В 2017 году музей истории Могилева приобрел изданную им в 1632 году книгу «Апостол», изданная в 1632 году.

**Tatyana Kenko: The history of Spiridon Sobol and printing press manufactured by him at Kuteynski Monastery located initially in The Grand Duchy of Litva and later in the 17th century within lands under the rule of the Russian Duchy *(abstract)***
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 163-171, www.sakavik.net)***

Among attractions of the ancient city of Orsha one will find Kuteynski Monastery, also termed as Kuteynskaya Lavra. One of the most notable initiatives of the monastery's staff was the production of a printing press and its subsequent printing of Orthodox Church materials. This institution became particularly well-known following its printing of Spiridon Sobol's "Bukvar" (reading primer), which in world catalogues is noted not only as an educational publication, but also as an innovative methodology in a teaching people to read. The first primer came from the region of Orsha.

**Татьяна Кенько: История Спиридона Соболя и созданной им типографии в Кутейнском монастыре в Великом Княжестве Литовском и государстве Российском в XУII столетии** ***(резюме)***

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, апрель 2021, 163-171, www.sakavik.net)***

В Орше, среди достопримечательностей этого древнего города, обратите внимание на кутеинский монастырь, называемый также Лаврой. Одним из значительных начинаний монастырских служителей было создание типографии и издание православной литературы. Особенно прославилась типография после выхода в 1631 году "Букваря" Спиридона Соболя, который в каталогах мира значится не только как учебное издание, но и новым видом первоначального обучения чтению. С ОРШАНСКОЙ ЗЕМЛИ ПОШЁЛ ПО ЗЕМЛЕ ПЕРВЫЙ БУКВАРЬ.

*Краязнаўства*

**Ігар Пракаповіч: Вадзяныя млыны ў Пастаўскім краі**

***Анатацыя.*** *Аўтар займаўся даследаваньнем вадзяных, млыноў існаваўшых у Пастаўскім краі у ХУІІІ-ХХ стагоддзях. На падставе апісаньня 28 вадзяных млыноў праведзена іх сістэматызацыя па шэрагу паказчыкаў: канструкцыйныя асаблівасці, тэхналагічныя працэсы, памеры дамбаў і шлюзаў, гаспадары, час дзеяння, стан захавання. На аснове матэрыялаў, якія былі сабраныя падчас комплексных экспедыцый складзены даведнік і буклет, распрацаваны два турысцка-экскурсійныя маршруты, створана інтэрактыўная карта, якая размешчана ў сетцы інтэрнэт.*

Краязнаўства на Пастаўшчыне развіваецца дынамічна і разгалінавана. Даследчыкі-аматары вывучаюць падзеі сівой даўніны, часоў войн і ліхалеццяў, гісторыі вёсак і мястэчак, творчыя здабыткі творцаў нашага краю. Але застаецца шэраг тэм, якімі да апошняга часу амаль ніхто не займаўся. Да іх адносіцца і гісторыя млынарства на Пастаўшчыне.

Наогул, пра млыны сучаснаму чалавеку вядома мала, бо амаль усе яны спынілі сваю дзейнасць пасляваенным часам. Энергія малых рэк, якая выкарыстоўвалася для памолу збожжа, была заменена больш эфектыўнай электраэнергіяй, што выпрацоўваюць цеплавыя і гідраэлектрастанцыі. У выніку многія млыны былі зруйнаваны, іншыя значна пашкоджаны або разбураны; ацалелі толькі адзінкі – тыя, што былі прыстасаваны для нейкіх іншых патрэб.

У XVIII-першай палове XX стагоддзя млыны адыгрывалі ролю своеасаблівых лакальных цэнтраў эканамічнага і грамадскага жыцця. Некаторыя з іх прапаноўвалі даволі шырокі набор паслуг: размол збожжа на простую муку і пыталь, выраб круп, валенне сукна, распілоўка дрэва на тартаках, выцісканне алею, выраб паперы. Бедныя сяляне для ўласнага спажывання малолі муку звычайна ў невялікіх ручных жорнах; у вялікіх сем’ях і ў заможных гаспадароў была патрэба ў памоле значных аб’ёмаў збожжа, вырабу сукна або дошак. Таму паездка “у млын” у штодзённым колазвароце выглядала як вельмі важная сямейная падзея. Там чалавек вырашаў не толькі некаторыя свае гаспадарчыя праблемы, але і атрымліваў інфармацыю пра

падзеі ў вакольных вёсках. Млынары шмат чаго ведалі, таму не дзіўна, што ў легендах і паданнях яны надзяляліся незвычайнымі здольнасцямі.

Вадзянымі млынамі вучні пастаўскай гімназіі – удзельнікі краязнаўчага гуртка “Terra incognita” зацікавіліся ў 2017-2019 гадах падчас вывучэння прыродна-гістарычнага комплекса “Крыжоўкі” і распрацоўцы па яго тэрыторыі турысцка-экскурсійнага маршрута. Адзін з цікавейшых аб’ектаў – рэшткі млына каля вёскі Пятроўшчына. Збор матэрыялаў пра яго дазволіў зрабіць апісанне ўнікальнай гідратэхнічнай сістэмы, часткай якой гэты млын і з’яўляецца.

З пачатку 2020 года ўдзельнікі гуртка пачалі збор звестак пра іншыя вадзяныя млыны Пастаўшчыны. Першапачаткова мелася ўрывачная інфармацыя пра 7 такіх аб’ектаў, да пачатку лета іх колькасць павялічылася да 28. Вывучэнне літаратурных крыніц і інтэрнет-рэсурсаў па тэме дало нязначныя вынікі, што сведчыць пра тое, што даследаваннем вадзяных млыноў у нашым краі ні навукоўцы, ні мясцовыя краязнаўцы не займаліся. Найбольш грунтоўнае апісанне ўдалося знайсці для млына ў Паставах, асобныя звесткі – пра млыны ў Томішках і Казлоўшчыне. Пра астатнія аб’екты ў крыніцах ёсць толькі кароткія паведамленні пра месцазнаходжанне і ў некаторых выпадках – пра ўласнікаў і спецыялізацыю.

Пра млыны другой паловы XVIII стагоддзя найбольш інфармацыі ўтрымліваецца ў апісаннях парафій за 1784 год, якія пакінулі тагачасныя плябаны. Гэтыя звесткі былі апрацаваны і пададзены ў магістарскіх працах Адама Свідэрскага і Барталамея Гаўрыльчыка (Беласток, 2005). У апісаннях асобныя раздзелы прысвечаны млынам, дарогам, мастам, што дае ўяўленне пра іх размяшчэннне і некаторыя характарыстыкі.

Інфармацыйныя звесткі пра наяўнасць млыноў у некаторых населеных пунктах маюцца ў кнізе “Памяць. Пастаўскі раён”, аднак падрабязных характарыстык (акрамя Пастаўскага млына) не падаецца. Частку матэрыялаў удалося атрымасць з кніг мясцовых краязнаўцаў пра асобныя паселішчы нашага краю і падчас гутарак з аўтарамі: Мікалай Арэх (Голбія, Стары Двор), Франц Хоміч (Дунілавічы), Іосіф Зямчонак (Варапаева, Дунілавічы, Парыж), Алесь Гарбуль (Лынтупы, Раманішкі, Томішкі), Анатоль Курак (Томішкі, Трабуцішкі, Скрунды), Янусь Малец (Хрыстова).

Картаграфічны аналіз мясцовасці быў праведзены на аснове карт рознага часу. У працы выкарыстоўваліся: "трохвёрстка" расійскіх ваенных тапографаў (канец XIX ст.), расійскія карты 1865 і 1874 гадоў, польскія карты 30-х гадоў XX стагоддзя, карта РККА 1938 года, вайсковая карта 1971 года маштабу 1:100000.

Сучасны стан былых вадзяных млыноў вывучаўся падчас правядзення краязнаўчых экспедыцый малымі групамі ў фармаце аўтавандровак. У чэрвені 2020 года было зладжана чатыры паездкі па раёне, вынікам якіх стала абследаванне амаль усіх месц, дзе раней знаходзіліся млыны. У асобных вёсках праводзілася апытанне мясцовых жыхароў.

У экспедыцыях, якія ладзіліся пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі І. М. Пракаповіча, удзельнічалі вучні пастаўскай гімназіі Іван Апанасевіч, Кацярына Семенас, Юлія Дунец, Анастасія Кажарновіч. На аснове матэрыялаў краязнаўчых экспедыцый і сабраных звестак з розных крыніц інфармацыі з'явілася магчымасць зрабіць апісанне ўсіх вадзяных млыноў Пастаўскага раёна, якія дзейнічалі ў XVIII-XX стагоддзях. Усяго іх налічвалася 28.

Вадзяны млын – будынак на беразе ракі або праточнага возера для памолу збожжа, механізмы якога працуць ад энергіі руху вады. Галоўная функцыя млына – памол зерня, якое малолася на муку двух відаў: грубая і дробная (пыталь). Некаторыя млыны маглі выпрацоўваць электраэнергію (млыны ў Хрыстове і Манькавічах). Таксама пры млыне маглі дзейнічаць: лесапілка, сукнавальня, а пры млыне ў Паставах працавалі паперня (для вырабу грубай паперы) і алейня (для ціску алею).

Ніжэй падаецца сціслая характарыстыка вывучаных вадзяных млыноў (іх пашыранае апісанне маецца ў падрыхтаваным даведніку І. Пракаповіч, І. Апанасевіч, К. Семенас "Вадзяныя млыны Пастаўшчыны" (2020).

Млын у Акелах размяшчаўся на рацэ Караліноўка, дзейнічаў у сярэдзіне XIX стагоддзя: ён пазначаны на карце 1865 года. Матэрыялаў пра дакладны час пабудовы, яго гаспадара і канструкцыйныя асаблівасці пакуль што не выяўлена. На цяперашні час ад гэтай гідратэхнічнай сістэмы засталіся толькі асобныя элементы: зарослы стаў, рэшткі дамбы, узвышэнне, на якой стаяў будынак млына, бетонныя сценкі шлюза.

Млын у Алешыне размяшчаўся на рацэ Заражанка. У выданні "Słownik geografichny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich" (1886) падаецца інфармацыя пра тое, што ў фальварку Алешын на той час меліся карчма, млын і тартак (лесапілка). На месцы млына ў 1959 годзе была пабудавана міні-ГЭС.
Млын у Бярозаўцы знаходзіўся на рацэ Мядзелцы. Ён належаў Тызенгаўзам. Цяпер ад былой гідратэхнічнай сістэмы амаль нічога не засталося, толькі рэшткі паляў былога моста.

Млын у Варапаеве размяшчаецца на рацэ Заражанцы (Галбяіцы). Пабудаваны ў 1870 годзе, працаваў да 1942-га. У канцы XX стагоддзя знаходзіўся ў паўразбураным стане. Рупнасцю новага ўласніка Л.І.Іваніна ў 1993 годзе адноўлены і цяпер з'яўляецца славутасцю Варапаева.

Млын у Голбіі размяшчаўся на рацэ Галбяіца. Ён існаваў у другой палове XIX стагоддзя. Цяпер ад млына амаль нічога не засталося. Некалькі элементаў былых канструкцый былі выцягнуты з ракі падчас рамонту моста.

Млын у Задзеўі размяшчаўся на рацэ Дзявіца (цяпер у межах Пастаў). У апісанні задзеўскай парафіі за 1784 год яе плябан Ваўжынец Ігнат Манстовіч засведчыў: "Млын дворны задзеўскі паміж поўначчу і ўсходам на рацэ Дзявіцы без ставу і мосту, бо вада адлягла да возера. Запруда, або спуст на рацэ Дзявіцы ніжэй мосту пры млыне задзеўскім паміж поўначчу і ўсходам за чвэрць мілі вялікай ад касцёла". З гэтых запісаў вынікае, што ўжо на той час млын быў у заняпадзе.

Млын у Паставах стіць на рацэ Мядзелка. Дата пабудовы мураванага млына дакладна не вызначана, але на падставе вядомых звестак можна лічыць, што ён быў узведзены прыблізна ў 30-50-я гады XIX стагоддзя, калі завяршалася будаўніцтва палаца Тызенгаўза. З 1994 па 1998 год праводзілася рэстаўрацыя млына. У 1998 годзе ў адноўленым будынку адкрыўся Дом рамёстваў. Разам з млыном дзейнічала паперня, некаторы час тут выраблялі алей.

Млын у Юньках размяшчаўся на рацэ Лучайка. У апісанні Пастаўскай парафіі за 1784 год, якое пакінуў пастаўскі плябан, пісар дэканату свірскага ксёндз Ян Антоні Шуле, згадваецца млын са ставам у Юньках. На картах XIX – XX стагоддзяў, якія былы прааналізаваны, ні млын, ні стаў не пазначаны. Ад былой гідратэхнічнай сістэмы на сённяшні дзень засталася дамба, якая, магчыма, была падвышана пазней пры будаўніцтве сучаснай дарогі, і забалочаны поплаў Лучайкі на месцы былога става.

Млын у Манькавічах стаіць на рацэ Мядзелка. Першыя згадкі пра млын у Манькавічах сустраюцца ў апісанні пастаўскай парафіі за 1784 год, якое пакінуў ксёндз Ян Антоні Шуле. У гістарычных крыніцах згадваецца, што ў 1886 годзе ў мястэчку дзейнічаў вадзяны млын з сукнавальняй. Ад былой гідратэхнічнай сістэмы засталася дамба даўжынёй каля 180 метраў і два шлюзы: былой запруды (12 м) і млыновы (5 м шырыні). Падмурак былога млына мае памеры 15 х 20 метраў.

Млын у Смыччы размяшаўся на рацэ Аржоўка. Звесткі пра млын, які існаваў тут у другой палове XVIII стагоддзя, утрымліваюцца ў апісанні Лучайскай парафіі, якое пакінуў ксёндз Мікалай Бендзкоўскі. Там падаецца наступная інфармацыя: "У Лучайскай парафіі меліся млыны ў Старым Двары, які належаў Агінскаму, і ў Смыччы, які быў уласнасцю Кошчыца".

Млын у Пятроўшчыне размяшчаўся на рацэ Мядзелка. Млын дзейнічаў "пры Польшчы" і ў пасляваенны час. Па словах жыхаркі в. Кабайлы Таразевіч Веры Фамінічны, млын згарэў і не аднаўляўся. Млын з'яўляецца галоўным элементам унікальнай гідратэхнічнай сістэмы "Мядзелка-Варанец". На сённяшні дзень ад былой гідратэхнічнай сістэмы застаўся падмурак млына і пратока, якую актыўна асвойваюць бабры.

Млын у Нохаўшчыне размяшчаецца на рацэ Караліноўка. Ён быў збудаваны ў другой палове XIX стагоддзя па ініцыятыве тагачаснага ўласніка маёнтка Каралінова, вядомага мастака і медальера Альфрэда Ромэра, які ў 70-80-я гады праводзіў карэнную рэканструкцыю сядзібнага комплексу. Тагачасная планіроўка гэтай гідратэхнічнай сістэмы захавалася да цяперашняга часу.

Млын у Томішках размяшчаецца на рацэ Лынтупка. Ён пабудаваны ў 1903 годзе, у Другую сусветную вайну яго ўзарвалі партызаны. Пасля вайны быў адноўлены, але мука тонкага памолу ўжо не выраблялася. У 60-я гады XX стагоддзя млын перарабілі ў лесапільню. Цяпер у выніку размыва запруды і шлюза вада з вадасховішча поўнасцю спушчана.

Млын у Трабуцішках стаяў у сутоках рэк Олскна і Лынтупка, дзейнічаў у канцы XVIII стагоддзя. Ён належаў пані Гільзеновай. Зараз ад былой гідратэхнічнай сістэмы засталося балота на месцы былога става, рэшткі дамбы, некалькі вялікіх камянёў каля рэчышча, даўняя драўляная балка, урослая ў маладое дрэўца.

Млын у Сурвілішках стаяў на пратоцы, якая злучае два возеры, знешні выгляд і канструкцыйныя асаблівасці пакуль што не выяўлены. Па рэштках былой дамбы праходзіць дарога і перакінуты сучасны мост. У рэчышчы яшчэ захаваліся два рады драўляных паляў запруды і некалькі слупоў. Пратока пад мостам загрувашчана валунамі, якія былі, верагодна, вымытыя з муроў былога млына. Дзейнічаў у XIX – пачатку XX стагоддзя.

Млын у Лынтупах стаяў на рацэ Лынтупка. Па інвентарызацыі 1591 года ў мястэчку была плошча і дзве вуліцы – "Да млына" і "Да сяла Судоўскага". Гэта інфармацыя сведчыць пра тое, што ў канцы XVI стагоддзя млын ужо дзейнічаў,

хоць і невядома які. У пазнейшых крыніцах звестак пра лынтупскі млын не сустракаецца.

Млын у Раманішках размяшчаўся на рацэ Пеляцэ. Паводле выдання “Słownik geografichny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich” (1882 г.), на месцы вёскі быў двор Даўгялаў, які знаходзіўся каля става на рацэ Пеляка. Наяўнасць запруды ўскосна сведчыць, што на той час млын ужо дзейнічаў.

Млын у Пяляцэ стаіць на рацэ Пеляка.  Па словах мясцовага жыхара Станіслава Альфонсавіча Цюкшы (1937 г.н.), млын на Пеляцэ пабудаваў у 30-я гады XX стагоддзя Сельвестр Бялевіч, які прыехаў з-пад Свіра і выкупіў у Даўгалаў каля 30 гектараў зямлі. На цяперашні час захавалася дамба даўжынёй каля 30 метраў, размыты шлюз з рэшткамі сцен і вымытымі валунамі, гнілыя пашкоджаныя драўляныя канструкцыі, іржавыя часткі механізмаў, жорнавы камень. Стаў спушчаны і паступова зарастае хмызняком.

Млын у Рудні стаяў на безыменнай рачулцы – левым прытоку ракі Смычыцы. На карце 1865 года у Рудні пазначаны млын, каля якога праходзіла лясная дарога. Знешні выгляд і канструкцыйныя асаблівасці пакуль што не выяўлены.

Млын у Старым Двары. У энцыклапедыі “Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów sławianskich” (1885 г.) падаецца наступная інфармацыя: “Стары Двор, фальварак над двумя азёрамі,..., мае 38 жыхароў каталіцкага веравызнання, бровар, млын вадзяны і тартак; уласнасць Эдварда Мастоўскага”. На цяперашні час рэшткаў былога вадзянога млына амаль не засталося. Часткова захаваліся фрагменты дамбы, па якой ідзе лінія электраперадачы.

Млын у Міхаліне стаіць на рацэ Заражанка. У выданні “Słownik geografichny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich” (т.VI, 1885) маюцца звесткі пра тое, што ў прыватным фальварку Міхаліна, які ляжыць над ракой Заражанкай, быў раней вадзяны млын і фабрыка сукна. Ад былой гідратэхнічнай сістэмы засталіся шматлікія камяні і счарнелыя драўляныя палі ў рэчышчы Заражанкі, а таксама рэшткі пабудоў і падмуркаў, якія складзены валунамі.

Млын у Дунілавічах быў уладкаваны на рацэ Заражанцы. Па звестках з кнігі “Памяць. Пастаўскі раён” у 1866 годзе ў Дунілавічах дзейнічаў вадзяны млын з сукнавальняй. У 1920-я гады ў мястэчку працавалі лесапільны і цагельны заводы, млын, кузня, пiларама. Цяпер ад млына засталіся толькі падмуркі і некаторыя жалезабетонныя канструкцыі.

Млын са ставам у Крыкалах размяшчаўся ў паўночна-ўсходняй частцы парка ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя. Ён быў уладкаваны на ручаіне, якая бярэ пачатак з крыніц у глыбіні парка. На млынку малолі збожжа для ўласнай гаспадаркі. Зараз ад млына засталіся толькі рэшткі ў выглядзе камянёў і паляў счарнелага дрэва.

Млын у Казлоўшчыне. На заходняй ускраіне вёскі на рацэ Ласіцы з часоў Друцкіх-Любецкіх амаль поўнасцю захаваўся вадзяны млын. Ён быў збудаваны ў 1859 годзе, аб чым сведчыць камень з надпісам на ўваходзе. Гэта было тым часам, калі Казлоўшчынай валодаў Ігнацый Друцкі-Любецкі. Абсталяванне аднаўлялася ў 1920-я і 1950-я гады. На сённяшні дзень гідратэхнічная сістэма захавалася часткова. У добрым стане знаходзяцца будынак млына, насыпная дамба, сценкі шлюза.

Млыны ў Нoрыцы стаялі на каналах між ставоў Норыцкага сядзібна-паркавага ансамбля, у якія вада пастyпала з невялікага балота. Яны дзейнічалі з канца XVIII да другой паловы XIX стагоддзя. Млыны былі невялікія і працавалі нерэгулярна з прычыны малога напору вады. Цяпер на месцы былых млыноў стаяць шлюзавыя сістэмы, якія рэгулююць рух вады праз ставы.

Млын у Хрыстове спачатку (у канцы XIX стагоддзя) быў вадзяным, стаяў на невялікай рачулцы, а пазней з прычыны недахопу вады млын зрабілі паравым (газагенератарным). Ён знаходзіўся ў паўночнай частцы вёскі каля былога господскага двара (фальварка). Уласнікамі яго былі Зямчонкі. На цяперашні час на месцы былой гідратэхнічнай сістэмы засталіся толькі камяні ды зараслае балота на месцы былога става.

Млын у Кацюрышках быў уладкаваны ў маляўнічым месцы, дзе сыходзяцца плыні ракі Камайкі і безыменнага ручая ў першай палове XX стагоддзя (пазначаны на польскай карце 1930 г). Ад былой гідратэхнічнай сістэмы засталася дамба даўжынёй каля 40 метраў і вышынёй да 4-6 метраў, значна размытыя сценкі шлюза, шматлікія валуны ў рэчышчы, падмурак і склеп млына, падмуркі іншых пабудоў, рэшткі сада.

На падставе апісанняў вадзяных млыноў Пастаўшчыны была праведзена іх сістэматызацыя па шэрагу паказчыкаў: канструкцыйныя асаблівасці, тэхналагічныя працэсы, памеры дамбаў і шлюзаў, гаспадары, час дзеяння, стан захавання. На жаль, у выніку таго, што частка млыноў на цяперашні час поўнасцю знішчана, а сведкаў і літаратурных крыніц адшукаць не ўдалося, вызначыць іх некаторыя характарыстыкі не атрымалася.

Усе вывучаныя млыны будаваліся з мэтай памолу збожжа. Большасць з іх (18) была ўзведзена на буйнейшых рэках раёна (Заражанака-Галбяіца (5), Мядзелка (4), Караліноўка (2), Лынтупка (2), Пеляка (2). На меншых рэках (Ласіца, Камайка, Шурыца, Аржоўка) мелася па 1 млыне. Даволі значны млын стаяў на пратоцы паміж Сурвілішскімі азёрамі. Астатнія млынкі былі невялікія, працавалі перыядычна, бо выкарыстоўвалі ваду з ручаёў, якія жывіліся вадой з крыніц (Скрунды, Хрыстова, Крыкалы) або азёр (Рудня, Задзеўе). Асобна вылучаюцца два невялікія млынкі, якія дзейнічалі на пратоках паміж ставамі маёнтка Норыца.
Некаторыя вадзяныя млыны з’яўляліся значнымі гідратэхнічнымі сістэмамі, паколькі разам з памолам збожжа ажыццяўляліся і іншыя тэхналагічныя працэсы. Найбольш разнастайныя функцыі выконваў млын у Паставах, дзе малолі зерне, распілоўвалі драўніну, выраблялі алей і паперу. На млынах у Манькавічах, Казлоўшчыне і Дунілавічах стаялі генератары, якія выпрацоўвалі электраэнергію, прычым, першыя два былі ўзведзены ў маёнтках, якія належалі князю У.Друцкаму-Любецкаму. Пры млынах у Алешыне, Казлоўшчыне, Паставах, Пеляцэ, Томішках, Хрыстове дзейнічалі тартакі (лесапільні). У мястэчках Варапаева, Дунілавічы, Манькавічы і вёсцы Міхаліна на энергіі вады працавалі валюшні (сукнавальні).

Гады пабудовы некаторых млыноў невядомыя, але самым старым вадзяным млыном на Пастаўшчыне быў, напэўна, млын у Лынтупах: ён існаваў ужо ў XVI стагоддзі. У XVII стагоддзі. з’явіліся гідрасістэмы ў Манькавічах, Паставах, Юньках, Старым Двары. Праз стагоддзе вадзяныя млыны працавалі ў Голбіі, Дунілавічах, Бярозаўцы, Норыцы, Смыччы, Міхаліне і Трабуцішках. З цягам часу некаторыя з іх прыйшлі ў заняпад, бо ў гэтых арэалах з’яўляліся новыя, больш дасканалыя і эфектыўныя гідрасістэмы. Так млыну ў Лынтупах на змену прыйшоў млын у Трабуцішках, Юнькаўскі млын таксама паступова змарнеў, бо побач былі Паставы. У XIX стагоддзі млыны пабудавалі ў Алешыне, Варапаеве, Казлоўшчыне, Крыкалах, Нохаўшчыне, Пеляцэ, Пятроўшчыне, Раманішках, Рудні, Скрундах. У XX стагоддзі яны з’явіліся ў Томішках, Кайранішках і Сурвілішках. На той час агульная іх колькасць на Пастаўшчыне складала 14. На працягу XX стагоддзя млыны паступова згортвалі сваю дзейнасць, прыпыняліся і прыходзілі ў заняпад. З другой паловы стагоддзя імі ўжо ніхто не карыстаецца, некаторыя млыны толькі захаваліся як славутасці нашага раёна.

На аснове матэрыялаў, якія былі сабраныя падчас комплексных экспедыцый, былі складзены даведнік і буклет, распрацаваны турысцка-экскурсійныя маршруты, створана інтэрактыўная карта, якая размешчана ў сетцы інтэрнэт.
Ніжэй падаецца кароткая характарыстыка распрацаваных прадуктаў.

1. Даведнік “Вадзяныя млыны Пастаўшчыны” і буклет.

Даведнік створаны на аснове літаратурных крыніц, звестак сеткі інтэрнэт і матэрыялаў комплексных краязнаўчых экспедыцый. Поўнакаляровае выданне мае аб’ём 60 старонак фармату А-5, уключае 27 карт і 3 аўтарскія картасхемы, 57 арыгінальных каляровых і 6 старых фотаздымкаў. Кніга надрукавана ў Пастаўскай друкарні накладам 50 асобнікаў. Даведнік у фармаце pdf выстаўлены на сайтах Пастаўскай гімназіі, газеты “Пастаўскі край”, Пастаўскай раённай бібліятэкі, Нацыянальнага парка “Нарачанскі”.

2. Інтэрактыўная карта “Вадзяныя млыны Пастаўшчыны”.

Распрацавана на аснове матэрыялаў падрыхтаванага даведніка і папяровых версій картасхем. Карта выстаўлена на сайтах Пастаўскай гімназіі, газеты “Пастаўскі край”, Пастаўскай раённай бібліятэкі, Нацыянальнага парка “Нарачанскі”.

3.Турысцка-экскурсійныя маршруты “Вадзяныя млыны Пастаўшчыны”.

На аснове матэрыялаў краязнаўчых экспедыцый і падрыхтаванага даведніка распрацаваны два турысцка-экскурсійныя маршруты: Усходняе кола і Заходняе кола. Схемы маршрутаў падаюцца ў даведніку і выстаўлены на сайтах Пастаўскай гімназіі, газеты “Пастаўскі край”, Пастаўскай раённай бібліятэкі, Нацыянальнага парка “Нарачанскі”.




*Карта вадзяных млыноў у Пастаўскім краі*

**Табліца 1. Характарыстыка вадзяных млыноў Пастаўшчыны**

| Млын | Вадаток | Крыніцы інфармацыі | Час дзеяння | Стан захавання | Уладальнік |
|---|---|---|---|---|---|
| Акелы | Караліноўка | Карты | ? - сярэдзіна XIX | Разбураны, каля ракі захаваліся рэшткі дамбы. | ? |
| Алешына | Заражанка | *Słownik geografichny … | XIX - XX | На месцы млына ў 1959 годзе была пабудавана міні-ГЭС. | Святаполк-Мірскія |
| Бярозаўка | Мядзелка | ** Świderski A. Dekanat Świrski | ?-XVlll | Поўнасцю знішчаны | Тызенгаўзы |
| Варапаева | Заражанка | Памяць. Пастаўскі раён | XlX-XX | У 1993 годзе адноўлены і цяпер з'яўляецца славутасцю Варапаева. | у 1993 годзе- Л.І. Іванін |
| Голбія | Галбяіца | *** Gawrylczyk B. Dekanat Polocki, M. Арэх | XVlll-XlX | Поўнасцю знішчаны | ? |
| Дунілавічы | Заражанка | *** Gawrylczyk B. Dekanat Polocki, Памяць. Пастаўскі раён | XVlll-XX | Разбураны, засталіся толькі падмуркі | Янішэўскія |
| Задзеўе | Дзявіца | ** Świderski A. Dekanat Świrski | ?-XVlll | Поўнасцю знішчаны | ? |
| Казлоўшчына | Ласіца | Успаміны мясцовых жыхароў | XlX-XX | Поўнасцю захаваўся | Ігныцый Друцкі-Любецкі |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кацюрышкі | Камайка і бязыменны ручай | Карты | ?-XX | Амаль поўнасцю знішчаны | ? |
| Крыкалы | Ручай з крыніцы | Успаміны мясцовых жыхароў | XlX | Засталіся толькі рэшткі | Абрамовічы, Тышкевічы |
| Лынтупы | Лынтупка | ** Świderski A. Dekanat Świrski | XVI | Поўнасцю знішчаны | ? |
| Манькавічы | Мядзелка | ** Świderski A. Dekanat Świrski | XVll-XX | Разбураны | Кельпшы, Тадэвуш Жаба |
| Міхаліна | Заражанка | * Słownik geograficzny …, Памяць. Пастаўскі раён | XVlll-XX | Разбураны | Карэцкія? |
| Норыца | Каналы ў Норыцы | *** Gawrylczyk B. Dekanat Polocki , * Słownik geograficzny … | XVlll-XlX | Амаль поўнасцю знішчаны | Сулістроўскі я, Лапацінскія |
| Нохаўшчына | Караліноўка | * Słownik geograficzny … | XlX | разбураны | Альфрэд Ромэр |
| Паставы | Мядзелка | Інвентар Пастаўскага графства 1728 г | XVll-XX | адрэстаўраваны | Ян Юры Зяновіч |
| Пеляка | Пеляка | * Słownik geograficzny … | XlX-XX | разбураны | Даўгялы, Бялевіч |
| Пятроўшчын а | Мядзелка | Успаміны мясцовых жыхароў | XlX-XX | разбураны | Друцкія-Любецкія? |
| Раманішкі | Пеляка | * Słownik geograficzny … | XlX | поўнасцю знішчаны | Даўгялы |
| Рудня | Ручай з возера | Карты | XlX | Амаль поўнасцю знішчаны | ? |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Скрунды | Ручай з крыніцы | Успаміны мясцовых жыхароў | XlX-XX | Амаль поўнасцю знішчаны | Абрамовічы, Канткоўскія |
| Смыччо | Аржоўка | *** Gawrylczyk B. Dekanat Polocki | XVlll | Амаль поўнасцю знішчаны | Кошчыц |
| Стары Двор | Шурыца | * Słownik geografichny … | XVll | Амаль поўнасцю знішчаны | Агінскі |
| Сурвілішкі | Пратока паміж азёрамі | Успаміны мясцовых жыхароў | XX | Амаль поўнасцю знішчаны | Чаховічы |
| Томішкі | Лынтупка | Інтэрнет, успаміны мясцовых жыхароў | XX | Часткова захаваўся | Ухтоў |
| Трабуцішкі | Лынтупка | ** Świderski A. Dekanat Świrski | XVlll-XlX | Амаль поўнасцю знішчаны | Гільзены |
| Хрыстова | Ручай з крыніцы | Я.Малец "Таямніца Хрыстова" | XX | Амаль поўнасцю знішчаны | Зямчонкі |
| Юнькі | Лучайка | ** Świderski A. Dekanat Świrski | XVll | Амаль поўнасцю знішчаны | ? |

* Słownik geografichny królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich, t. I. – Warszawa, Druc „Wieku”, 1880. – 960 c.

** Świderski A. Dekanat Świrski w 1784 roku w świetle opisów plebanów. Praca magisterska napisana pod kierunkiem prof. dr hab. Jozefa Maroszka. – Bialystok, 2004.

*** Gawrylczyk B. Dekanat Polocki w świetle opisów parafij z 1787 roku. Praca magisterska napisana pod kierunkiem prof. dr hab. Jozefa Maroszka. – Bialystok, 2005.



*Млын у Томішках*

**Ihar Prakapovich: Water-driven Mills in Pastauski Region** ***(abstract)***
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 172-185, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

The author studied the existence of water-driven mills in Pastauski Region from the 18th to 20th centuries. Based on descriptions of 20 such mills, the author centres his study on the system used in specific construction methods for the mills, technical processes that were applied, their dumps and gateways. Also, the author deals with the subjects of who ran the mills, at what times and the condition of their ongoing maintenance. Thanks to the materials that were gathered during complex expeditions, a manual and booklet were created featuring two tourist expedition paths. Also, an interactive map was created that can be accessed on the internet.

**Игорь Прокопович: Водяные мельницы в Поставском районе** ***(резюме)***
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, апрель 2021, 172-185, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

Автор исследовал 20 водяных мельниц 18-20 вв. в Поставском районе. Представлено описание методов их строительства, технических процессов, и шлюзов. Кроме того, автор даёт информацию о владельцах, времени и условиях обслуживания мельниц. Благодаря материалам, собранным в ходе экспедиций, были составлены руководство и буклет с описанием двух туристических экспедиционных маршрутов. Кроме того, была создана интерактивная карта, доступ к которой можно получить в интернете.

*Новыя кнігі*

**Лявон Карповіч Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі. Знаёмства са зьместам Бібліі і яго алюстраваньнем у мастацтве** (2021; 342 стар., ISBN: 978-5-0053-2627-0).

На сайце Ridero з'явілася новая кніга Лявона Карповіча «Біблейскія гісторыі Старога Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі». Раней у 2019 годзе была выдадзена кніга «Біблейскія гісторыі Новага Запавету, ілюстраваныя паштовымі маркамі» **(**680 стар., 593 іллюстрацыі; ISBN: 9785449619587).

Новую кнігу, як і папярэднюю, варта паглядзець тым, каго цікавіць Біблія, мастацтва і філатэлія. Кніга ўнікальная па тэматыцы і зместу. Яна можа быць цікавай, як дарослым, так і дзецям. На яе старонках каля 90 артыкулаў і каля 800 ілюстрацый. Гэта мініяцюры з выявамі твораў вялікіх мастакоў ад Мікеланджэла, Рафаэля, Бацічэлі… да Босха, Далі і Шагала… Аўтар дзеліцца досведам спробы пазнаньня сэнсу Бібліі і адначасова знаёміць з мастацкімі творамі, якія адлюстроўваюць біблейскія гісторыі. Некаторыя артыкулы з кнігі надрукаваныя асобна. Напрыклад: «Зачараваны Бібліяй. Песня песняў Марка Шагала» (http://niva.bialystok.pl/issue/2020/15/art_08.htm), «Подзвіг Юдзіф і… Скарына» (вэб-часопіс «Культура. Нацыя», №26, снежань 2020, 76-87; www.sakavik.net), «У свеце было чатыры найпрыгажэйшыя жанчыны…», напісана разам з Рут Маркус (Тэль-Авіў) (https://krynica.info/be/2017/05/23/u-svece-bylo-chatyry-najjprygazhehjjshyya-zhanchyny/).

Лявон Карповіч хоча падзяліцца з чытачом сваімі развагамі і запрашае адгукнуцца на зварот Францішка Скарыны вывучаць Біблію «Каб быў дасканалым Божы чалавек». А яшчэ Лявон спасылаецца на Кірыла Андэрсэна, які папярэднічае кнігу «Біблейскія легенды» словамі: «Не засталося ніводнага імя, ні адзінай падзеі, згаданай у Бібліі, якое не было б шматкроць перакладзена на мову паэзіі, музыкі, фарбаў і філасофіі. Аднак прыходзіць наступнае пакаленне і выяўляе скарбы Бібліі ніколькі не збяднелымі і кожны раз адкрывае іх для сябе наноў, быццам гэта не адна і тая ж кніга, а велізарная, бясконцая бібліятэка».

Кнігу можна паглядзець, спампаваць электронны ці заказаць папяровы варыянт на сайце Ridero і ў інтэрнэт-крамах:
https://ridero.ru/books/bibleiskiya_gistoryi_staroga_zapavetu_ilyustravanyya_pashtovymi_markami/

***New book advertisement:*** Lyavon Karpovich recently published "Biblical stories of the Old Testament, illustrated with postage stamps. Familiarity with the content of the Bible and its illustration in art" (2021; 342 pages, ISBN: 978-5-0053-2627-0).
***(web-magazine "Kultura. Natsyja ", issue 27, April 2021, 186-187, www.sakavik.net)***

***Объявление о новой книге:*** Лявон Карпович "Библейские сюжеты Ветхого Завета, иллюстрированные почтовыми марками. Знакомство с содержанием Библии и ее иллюстрацией в искусстве» (2021; 342 страницы, ISBN: 978-5-0053-2627-0). ***веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 186-187, www.sakavik.net)***

**Пётра Мурзёнак: Змест рукапісу кнігі Раісы Жук-Грышкевіч “Запісы пра Беларускае грамадства другой паловы 20-га стагодзьдзя ў Канадзе”**

Рукапіс азначанай кнігі Раісы Жук-Грышкевіч атрымаў з яе рук разам з суправаджальным пісьмом. Фактычна рукапіс уяўляе сабой збор матэрыялаў, якія маглі б стаць асновай для новай кнігі, якую, як напісана аўтарам на першай старонцы рукапісу, “трэба разглядаць, як другую частку кнігі ‘Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча’. Абедьве кнігі даюць агульны вобраз грамадскага й культурнага жыцьця беларусаў Канады другой паловы 20-га стагодзьдзя. Даюць вобраз, што й як думалі, што чынілі беларусы Канады ў другой палове XX стагодзьдзя”. З пісьма Р.Жук-Грышкевіч вынікае, што копіі гэтага рукапісу былі высланы таксама ў “Slavic Studies, Elizabeth Dafoe Library, University of Manitoba, болей нікому”. Мне невядома, ці публікаваліся матэрыялы з гэтага рукапісу.

Улічваючы важнасць матэрыялаў і магчымую цікавасць з боку даследчыкаў, рэдакцыя часопіса “Культура. Нацыя” вырашыла падаць зьмест рукапіса, уключаючы назвы артыкулаў, аб’ём, даты іх напісання і месца прэзентацыі ці публікацыі. Большасць матэрыялаў у рукапісе падаюцца пад эгідай Каарынацыйнага камітэта беларусаў Канады (ККБК, Belarusan Canadian Coordinating Committee). Зьмест матэрыялаў падаецца ў той пасьлядоўнасьці, як гэта прадстаўлена ў рукапісе (у асноўным у храналагічным парадку).

**Раіса Жук-Грышкевіч “Запісы пра Беларускае грамадства другой паловы 20-га стагодзьдзя ў Канадзе”**

***Зьмест рукапіса (усяго 280 старонак)***

1.**Др. Франьцішак Скарына - да 500 годзьдзя ад ягонага нараджэньня** (7 стар.). Даклад прачытаны ў 1985 годзе ў залі Беларускага рэлігійна-грамадскага цэнтру ў Таронта на сьвяткаваньні 500 угодкаў ад нараджэньня доктара Франьцішка Скарыны.
2.Тытульная старонка **“Беларускі памятны крыж”**, асьвечаны 5 верасьня 1988 году (1 стар.).

3.Бібліятэка “Наша Ніва”, №1, 1994. “Жыцьцё Прэзідэнта”. Кароткі артыкул з газеты **аб выхадзе кнігі “Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча”** (1993, 797 с.) (1 стар.).

4.**Здымак сям’і Кацярыны Стаўбунік** з подпісам (Вільня, 1937) (1 стар.).

5.Адказ А.Мальдзісу, А.Петрушкевічу, А.Лецку на “Зварот да суайчыньнікаў ...”, ліпень 1992 года. **Матэрыял пра сям’ю К. Стаўбунік** (7 стар.).

6.**Роля беларускай эміграцыі ў Канадзе** (10 стар.). Даклад Р.Жук-Грышкевіч, прачытаны на Другім Кангрэсе Міжнароднай ассацыяцыі беларусістаў у Мінску, 16-18 травеня 1995 года.

7.**Культура беларускага замежжа - Канада** (18 стар.). Даклад на канферэнцыю Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”, Мінск, 1996.

8.**Роздум над: Культура беларуска-польскага сумежжа** (4 стар.) (з нагоды канферэнцыі ў Берасьці, напісана 19 сакавіка 1998 г., Бэры, Канада).

9.**На парозе 21-га стагодзьдзя: Да гісторыі Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады** (6 стар.). Камунікат №14 (54 ад 1990), сьнежань 2000.

10.**Арганізацыйнае жыцьцё беларускае эміграцыі** (4 стар.). Камунікат №1 (67 ад 1990). Люты 2002.

11.**Да гісторыі Згуртаваньня беларусаў Канады** уключна з рэзалюцыяй 37-га з’езда Згуртаваньня беларусаў Канады і інфармацыяй пра з’езд (8 стар.). Камунікат №7 (38 ад 1990). Лістапад 1999.

12.**Творы ўздыму духу й творчай энэргіі - праявы цывілізацыі** (7 стар.). На ІІІ кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, 22-25 траўня 2000 года ў Мінску (напісана ?? 4 верасьня 2000 года).

13.**Творы ўздыму духу й творчай энэргіі - праявы цывілізацыі** (6 стар.) Копія са зборніка (гл. папярэдні п.12, тое ж рукапісны матэрыял). ІІІ кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, 22-25 траўня 2000 года ў Мінску (с.240-245).

14.**Піер Эліёт Трудо - былы прэм’ер Канады** (6 стар.). Камунікат №10 (50 ад 1990). Кастрычнік 2000.

15.**Памяці ахвяр генацыду ў Беларусі** (6 стар.). Даклад прачытаны ў Беларускім рэлігійна-культурным цэнтры ў Таронта. Імпрэзу ладзіў ККБК, 1 красавіка 2001 года.

16.**Гімназія імя Адама Міцкевіча ў Пружане** (10 стар.). Пісала на просьбу Этнаграфічнага музэю ў Пружанах на 80-я угодкі гімназіі. Бэры, 15 студзеня 2002 года.

17.**Поўстагодзьдзе сустрэчам беларусаў Паўночнае Амерыкі. Да гісторыі сустрэчаў БПА** (4 стар.). Камунікат №4 (70 ад 1990?), жнівень 2002.

18.**Усім беларусам сьвету прывітаньні з 85-мі ўгодкамі Акту 25 сакавіка** (2 стар.). За кіраўніцтва ККБК. Камунікат №1 (75 ад 1990), сакавік 2003.

19.**Адкрыты ліст да беларускага народу** (2 стар.) ад Івонкі Сурвілла. Люты 2003.

20.**На 100-я угодкі ад нараджэньня Вінцэнта Жук-Грышкевіча** (4 стар.). Бэры, Канада, студзень 2003.
21.Копія артыкула з “Czasopis”, 1/2003. Helena Kozlowska **Rozstrzelana inteligencja** (4 pp., Polish).
22.**На 10-я угодкі першага з’езду беларусаў сьвету ў Менску, у ліпені 1993** (8 стар.). Напісана 23 травеня 2003.
23.**Памяці Ўладыкі Мікалая** (4 стар.). Прачытана на памінках Уладыкі Мікалая ў Беларускім РГЦ ў Іаронта (Бэры, Канада, 18 чэрвеня 2003).
24.**Хрыстос нарадзіўся і - славім яго!** (6 стар.). Камунікат №7 (81 ад 1990), сьнежань 2003. **Інфармацыя пра 39-ты з’езд ЗБК. Сход сяброў Канадзкага сэктару Рады БНР** (29 лістапада 2003).
25.**На 100-я угодкі ад нараджэньня Вінцэнта Жук-Грышкевіча** (дубль, 5 стар.). Бэры, Канада, студзень 2003.
26.**Беларуская рэдакцыя радыя “Вызваленьне” – “Свабода” (успаміны)** (8 стар.). Бэры, Канада, 28 красавіка 2002 году. Камплект сшыткаў-папак радыёперадач за перыяд 1954-1958гг. знаходзіцца ў дзяржаўным архіве Канады.
27.**Залаты юбілей беларускай рэдакцыі ладыя “Вызваленьне” – “Свабода”** (3 стар.). Камунікат №1 (82 ад 1990), травень 2004.
28.**Памяці Валянціны Пашкевіч** (5 стар.). Бэры, 4 красавіка 2004 года. Спачуваньні ад Олі і Юльянкі Грыцук. Светрай памяці – Янка Баран.
29.**15-я ўгодкі Таварыства беларускае мовы й 50-я ўгодкі жыцьця старшыні ТБМ яго міласьці спадара Алега Трусава** (6 стар.). Камунікат №2 (83 ад 1990), ліпень 2004. Зацемкі: Усіх нас дучыць бацькаўшчына; 500 гадоў сьвятому мястэчку; Успаміны (памятны крыж).
30.**Womens history month – 1998. Гісторыі Задзіночаньня беларускіх жанычн Канады – 1965** (6 стар.).
31.**Тытульны ліст. Пра выдатных беларускіх жанчын Канады і ЗША другой паловы 20-га стагоддзя – Валянціну Пашкевіч і Натальлю Арсеньневу** (1 стар.). Далей ідуць матэрыялы пра іх.
32.**1000-я ўгодкі ад смерці Полацкае княжное Рагнеды. 85-я угодкі жыцьця Валянціны Пашкевіч. 85-я угодкі ад смерці Алёйзы Пашкевіч Цёткі** (6 стар.). Камунікат №1 (55 ад 1990), студзень 2001.
33.**Даклад В. Пашкевіч (1966, па-польску). З нагоды 50-годзьдзя ад смерці паэткі Цёткі** (6 стар.).
34.**Здымак. Беларускі студэнцкі саюз у Вільні (1938-1939).** Каля 30 чалавек, з подпісам.
35.**Беларускі студэнцкі саюз у Вільні** (7 стар.). Бэры, Канада, 14 красавіка 2002.
36.**2 здымкі з подпісамі і імёнамі – Беларускія скаўты ў ДР лагеры Ватэнштэт, Нямеччына.**

37.**Праграма (ангел., бел.) – 51 угодкі БНР** (2 стар.). Таронта, 23 сакавіка 1969 года.
38.**85-я угодкі жыцьця Валянціны Пашкевіч** (3 стар.).
39.**Пісьмо В. Кіпелю (у справе выданьня слоўніка)** (2 стар.). 2110 амер. Даляраў залучаны на выданьне.
40.**2000 – год Франьцішка Багушэвіча** (6 стар.). Камунікат №6 (46 ад 1990), ліпень 2000.
41.**Інфармацыя пра В. Пашкевіч з Энцыклапедыі "Беларуская мова" і каляровы здымак Валянціны Жукоўскай-Пашкевіч (1916-2004)** (2 стар.).
42.**Памяці Валянціны Пашкевіч (1916-2004)** (5 стар.).
43.**Пісьмо Але Орса-Рамана** (аб ахвяраваньні 1000 амер. даляраў Беларускаму гуманітарнаму ліцэю у знак памяцт В. Пашкевіч).
44.**Падзяка Беларускага гуманітарнага ліцэю за ахвяраваньне.**
45.**Пісьмо Але Орса-Рамана** (аб ахвяраваньні 5000 амер. даляраў В.Булгакаву на выданьне збора твораў Адама Станкевіча; у знак памяцт В. Пашкевіч).
46.**На стагодзьдзе Натальлі Арсеньневай** (6 стар.). Камунікат №4 (78 ад 1990), верасень, 2003.
47.**Мае успаміны пра Натальлю Арсеньневу-Кушаль** (12 стар.) уключна з вершам паэткі "Крыж" і яе перакладам "Люрдаўскай песьні. Апублікава "Беларускі кнігазбор, 2002.
48.**Найвыдатнейшая постаць, якую дало беларускаму народу другое тысячагодзьдзе – пра доктара Ф. Скарыну** (8 стар.). Камунікат №8 (39 ад 1990), сьнежань 1999.
49.**Франьцішак Скарына лекар** (5 стар.; на падставе прац д-ра В. Тумаша).
50.**478-я ўгодкі друку на беларускай зямлі** (4 стар.). Камунікат №1 (41 ад 1990), студзень 2000.
51.**Мае ўспаміны пра доктара Вітаўта Тумаша** (6 стар.). Бэры, Канада, 22 студзеня 2000 году. Апублікавана, "Беларускі гістарычны агляд", Менск, 2002.
52.**Раіса Жукоўская – Жук-Грышкевіч (аўтабіяграфічна)** і верш-прысвячэньне ад Вольгі Іпатавай (5 стар.).
53.**Мае успаміны – Канадыйскі перыяд** (успаміны, пазначана Р.Ж-Гр. як неапрацаныя матэрыялы да біяграфіі Вінцэнта Жук-Грышкевіча) (11 стар., пісана пасьля смерці Вінцука ў 1989 г.).
54.**Карта Беларусі і інфармацыя пра Беларусь на анг. мове** (5 стар, 1 мая 2000 г.).
55.**Інфармацыя аб беларусах у Канадзе на анг. мове** (3 стар, 3 лютага 1997 г.).

**Piotra Murzionak: Contents of the manuscript of Raisa Zhuk-Grishkevich's book "Records about the Belarusian society of the second half of the 20th century in Canada"**

***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 188-192, www.sakavik.net)***

The content of the manuscript (280 pp., 55 documents), including titles of the articles, volume, dates of their writing and the place of presentation or publication. Most of the materials in the manuscript are submitted under the auspices of the Belarusian Canadian Coordinating Committee. The content of the materials is presented in the order as it is presented in the manuscript (mostly in chronological order).

**Пётра Мурзёнак: Содержание рукописи книги Раисы Жук-Гришкевич «Записи о белорусском обществе второй половины XX века в Канаде»**

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 188-192, www.sakavik.net)***

Представлено содержание рукописи (280 стр., 55 документов), включая названия статей, объем и даты их написания, место презентации или публикации. Большая часть материалов рукописи представлена под эгидой Белорусско-канадского координационного комитета (БКК). Содержание материалов представлено в том порядке, в котором они представлены в рукописи (чаще всего в хронологическом порядке).

*Літаратура*

**Міхась Кенька: Стихи Виты Штивельман в переводах на белорусский язык**
**Вершы Віты Штывельман у перакладах на беларускую мову**

***Вита Штивельман – Торонто, Канада***

Поэтесса, переводчик, эссеист, основатель и руководитель EtCetera - клуба физиков и лириков. Вита - автор двух книг, многочисленных публикаций и поэтических спектаклей, обладатель диплома им. Шолом Алейхема, лауреат и член жюри международных литературных конкурсов, основатель и ведущая популярных радио-программ «Разговор о стихах» (Радио Плюс), «Закон звезды и формула цветка» (Радио Мегаполис). Проекты EtCetera включают международный ежегодный фестиваль еврейской культуры, Canadian Cultural Mosaic, а также благотворительные и образовательные программы.

Соавторство в фильмах
• «Дом Рембрандта» (по одноимённому стихотворению)
• «Штетл» (аудиоряд)

Награды
• От Кнессета Израиля за вклад в еврейскую культуру
• От муниципалитета Торонто за вклад в культурную жизнь города
• От Canadian Ethnic Media Association за литературно-этнический проект In Flanders Fields

**Віта Штівельман - Таронта, Канада**

Паэтка, перакладчык, эсэіст, заснавальнік і кіраўнік EtCetera – клуба фізікаў і лірыкаў. Віта – аўтар дзвюх кніг, шматлікіх публікацый і паэтычных спектакляў, уладальнік дыплома ім. Шолам Алейхема, лаўрэат і сябра журы міжнародных літаратурных конкурсаў, заснавальнік і вядучая папулярных радыё-праграм «Гутарка пра вершы» (Радыё Плюс), «Закон зоркі і формула кветкі» (Радыё Мегаполіс). Праекты EtCetera ўключаюць міжнародны штогадовы фестываль яўрэйскай культуры, Canadian Cultural Mosaic, а таксама дабрачынныя і адукацыйныя праграмы.

Суаўтарства ў фільмах
• «Дом Рэмбрандта» (па аднайменным вершы)
• «Штетл» (аудыёрад)
ўзнагароды
• Ад Кнэсета Ізраіля за ўклад у яўрэйскую культуру
• Ад муніцыпалітэта Таронта за ўклад у культурнае жыццё горада
• Ад Canadian Ethnic Media Association за літаратурна-этнічны праект In Flanders Fields

***Домовой***

*В нашем доме поселился домовой.*
*Он морочит нас и прячет по углам*
*всё, что нужно и не нужно нам с тобой:*
*письма, ножницы, ключи и всякий хлам.*

*Он поскрипывает лестницей в ночи,*
*гасит свечку, если дела больше нет.*
*Он тихонечко вздыхает и ворчит,*
*если каши не оставить на обед.*

*Дом наш старый – проседают этажи.*
*Мы же всё-таки недавно здесь живём.*
*Может он-то – домовой – всегда здесь жил.*
*И останется, когда мы все уйдём.*

**Дамавік**

У нашым доме пасяліўся дамавік.
Ён нас дурыць і хавае па кутах
ўсё, што трэба, да чаго ты звык.
лыжкі, ножніцы – знікаюць на вачах.

Ён парыпвае масніцамі ўначы,
гасіць свечку, бач, жартуе дзед.
Ён ціхенька уздыхае і бурчыць,
калі кашы не пакінуць на абед.

Дом стары ў нас, ужо дах падгніў.
А мы ўсё ж нядаўна тут жывём.
Можа, гэты дамавік заўжды тут жыў.
І жыць будзе, пакуль цэлы дом.

***Зима***

*Снежный сугроб пахнет как ломоть арбуза.*
*И хрустит как арбуз, только не во рту, а в моих варежках.*
*Синица и воробей что-то обсуждают,*
*вплетаются в чёрное кружево веток.*
*Потом улетают*
*в небесно-матовую плюшевость.*
*Всё это так, потому что меня вернули в детство.*

**Зіма**

Снежны сумёт пахне як луста кавуна.
І храбусціць як кавун, толькі не ў роце, а ў маіх рукавіцах.
Сініца і верабей пра нешта зюкаюць,
уплятаюцца ў чорныя карункі галінак.
потым ляцяць
у нябесна-матавую плюшавасць.
Усё гэта так, таму што мяне вярнулі ў дзяцінства.

*******

*...но никуда от счастья нам не деться,*
*серебряный поток не прекратится.*
*Гадаешь на восходе и закате* -
*то кажется: родился ты в сорочке,*
*то кажется: обижен ты судьбой.*

*Судьба* - *она прикинется индейкой*
*или другой какою-нибудь птицей.*
*Роняет перья, как меняет платья.*
*И помни, что судьба не ставит точку,*

***

... але нікуды нам ад шчасця не падзецца,
сярэбраны паток не супыніць.
Варожыш на ўзыходзе і заходзе –
І мроіцца: ў кашулі нарадзіўся,
здаецца: так, пакрыўдзіў цябе лёс..

Лёс – ён прыкінецца індычкай
ці можа іншай якой-небудзь птушкай.
Губляе пёры, як мяняюць сукню.
І памятай, што лёс не ставіць кропку,
а ставіць заўжды толькі кропку з коскай.

***11 строчек***

*Хлебнув горя и радости,*
*захлебнувшись волной слов,*
*растеряв сто друзей,*
*растеряв сто рублей,*
*однажды я исчезну насовсем.*

*А через двести лет ты,*
*не зная ничего обо мне,*
*не зная даже моего имени,*
*скажешь, как говорила я, -*
*на что похожа капля росы.*
*Не на слезу, не на бриллиант, - на что?*

**11 радкоў**

Глынула ўжо я радасці і гора,
захлыналася хваляй слоў,
Пагубляла ўжо сто сяброў,
Распусціла больш за сто рублёў,
І аднойчы знікну назусім.

А гадоў праз дзвесце ўжо і ты,
не ведаючы нічога пра мяне,
не ведаючы нават майго імя,
скажаш, як казала я,
– На што падобная кропля расы?
Не на слязінку, не на дыямент, – на што?

***Бабушкин шкаф***

*Когда человек умирает, его вещи подлежат разборке.*
*Хочешь не хочешь, а разбирать надо.*
*Выкинуть – это действие, оставить себе – тоже.*
*Вот что не требует действия, это сесть и начать рассматривать.*
*Мне совершенно не нужна старая губная помада.*
*Но среди мелких вещей есть, например, орден войны и орденская (к нему) книжка.*
*Есть моя пластмассовая кукла – сломанная, в синем купальнике.*
*Кукла была спортсменка, её звали Нина.*
*Я её выбросила когда-то, а бабка сохранила.*
*Теперь и я сохраню, покажу дочке – что, мол, там ваши барби.*
*А вот авоська: её с собой обязательно брали,*
*куда бы ни шли. Бабка была помешана на порядке,*
*учила меня строго*
*ставить всё по местам, говорила: «От азой ман кинд,*
*от азой!» * Ух, как я ненавидела и этот порядок, и приторно-сладкий язык,*
*где йота рассыпана в каждом крике и в каждой песне.*
*Но я любила запах у бабушки в шкафу. На каждой полке там было*
*кусков по десять туалетного мыла.*
*По мнению многих родных, это был её бзик с войны.*
*Когда она ехала в товарняке с маленькой дочкой и старой мамой,*
*кусок мыла случайно завалялся в какой-то складке.*
*Этим куском они спасались от вшей и от гнид,*
*этот кусок берегли как зеницу ока.*
*Впрочем, она любила и лаванду, и сандал, и всякие ароматические масла.*
*Поэтому запах остался, когда сама она ушла.*

*Вот так, моё дитя, вот так (идиш)

**Шафа маёй бабулі**

Калі чалавек памірае, яго рэчы падлягаюць разборцы.
Хочаш не хочаш, а разбіраць трэба.
Выкінуць - гэта дзеянне, пакінуць сабе – таксама.
Вось што не патрабуе дзеяння, гэта сесці і пачаць разглядаць.
Мне зусім не патрэбна старая губная памада.
Але сярод дробных рэчаў ёсць, напрыклад, ордэн з вайны і ордэнская (да яго) кніжка.
Ёсць мая пластмасавая лялька – зламаная, у сінім купальніку.
Лялька была спартсменкай, яе клікалі Ніна.
Я выкінула яе калісьці, а бабуля прыхавала.
Цяпер і я захаваю яе, пакажу дачцы – што, маўляў, там вашыя Барбі.
А гэта авоська: яе з сабой абавязкова бралі,
куды б ні ішлі. Бабуля была зацыклена на парадку,
вучыла мяне строга
ставіць усё па месцах, казала: «от азой, майн кінд,
от азой!»* Ах, як я ненавідзела і гэты парадак, і прыкра-салодкую мову,
дзе ёты рассыпаны ў кожным крыку і ў кожнай песні.
Але я любіла пах у бабулі ў шафе. На кожнай паліцы там было
кавалкаў па дзесяць туалетнага мыла.
На думку многіх родных, гэта быў яе бзік з вайны.
Калі яна ехала ў таварняку з маленькай дачкой і старой мамай,
кавалак мыла выпадкова заваляўся ў нейкай шчыліне.
Гэтым кавалкам яны ратаваліся ад вошай і ад гнід,
гэты кавалак бераглі як зрэнку вока.
Зрэшты, яна любіла і лаванду, і сандал, і ўсялякае араматычнае масла.
Таму пах застаўся, калі сама яна пайшла.

*вось так, маё дзіця, вось так (ідыш)

***

*Мне как-то опостылели стихи:*
*прокрустовы объятия хореев,*
*анапестов и прочей ахинеи, –*
*опилки лингвистической трухи.*

*И роза, как известно, пахнет розой, –*
*оставив рифмы для людских забав.*
*И в общем, непечатен кошкин мяв.*
*И, нецензурные, грохочут грозы.*

*Есть – в небе самолёта белый след,*
*и есть – синеющие ногти смерти,*
*есть – новорожденный в тугом конверте.*
*А что касается стихов – их нет.*

*******

Мне раптам вершы надакучылі наяў,
прокрустовы абдымкі тых харэяў,
анапестаў і іншай ахінеі,
ўся гэта пацяруха лінгвістычных з'яў.

І ружа, як вядома, пахне ружай, –
пакіне рыфмы для людскіх забаў.
Не вытлумачыць нам катова «мяў».
І, нецэнзурныя, віхураць сцюжы.

Што ёсць – вось самалёта ў небе след,
Ёсць – пасінелыя пазногці смерці,
Новнароджаны ў тугім канверце.
А што да вершаў – іх не знае свет.

***Поздравительные стихи женщине –***
***вообще женщине, – написанные автором***
***в собственный день рождения***

*Я вам желаю, ныне и присно,*
*чтобы колготки не рвались так быстро,*
*чтобы когда опоздание душит,*
*транспорт подъехал, который вам нужен.*
*Чтоб телеграммой шли добрые вести,*
*чтобы не вскакивал прыщик на фэйсе,*
*чтоб на душе не скребли, не мяукали*
*кошки. Мужья чтоб и новые туфли*

*не раздражали и были не в тягость...*
*Моря цветов вам и пригоршней ягод!*
*Чтоб, если надо, легла чёлка ровненько,*
*чтобы не скучными были любовники,*
*чтобы на жизненном, стало быть, поле*
*вдоволь бы битвы, покоя и воли...*

*Все остальные алмазные грани*
*сами сверкнут. Без моих пожеланий.*

**Віншавальныя вершы жанчыне -**
**наогул жанчыне, - напісаныя аўтарам**
**ва ўласны дзень нараджэння**

Я вам жадаю, цяпер і заўсёды,
каб калготкі не рваліся так хутка,
каб калі спазніцца баішся,
транспарт пад'ехаў, які вам патрэбны.
Каб тэлеграмай ішлі добрыя весткі,
каб не ўскокваў прышчык на фэйсе,
каб на душы не скрэблі, не мяўкалі
кошкі. Мужы каб і новыя туфлі
не раздражнялі і не прыгняталі...
Мора кветак вам і прыгаршні ягад!
Каб, калі трэба, лягла чолка роўненька,
каб не сумнымі былі палюбоўнікі,
каб на жыццёвым  вашым полі
хапала  бітваў, спакою і волі ...

Усе астатнія алмазныя грані
самі  заззяюць. Без маіх пажаданняў.

***Дежавю***

*Я когда-то жила в этом городе – только очень, очень давно.*
*Эти красные крыши косые ни на что не похожи – но*

*под одной из них была комната с холщовой занавеской и грубым столом.*
*На него я ставила корзинку из зеленн**о**й лавки, рывком.*

*А по этим каменным плитам сбегала к холодному морю вниз –*
*там стояли разноцветные лодки, и наглые чайки дрались.*

*Эта память даже не моя, просто кожа моих рук –*
*помнит стирку в деревянном корыте. Именно так. И неритмичный стук*

*сердца вторит стуку колёс наверху, шуму мостовой и телег.*
*Я конечно жила в этом городе: это так же верно, как то что снег*

*бел. Как то что ночь черна и серафим шестикрыл.*
*Скажи мне пожалуйста – только правду – а ты – жил?*

**Дзежавю**

Я калісьці жыла ў гэтым горадзе, так даўно, што памяць патанае ў імгле.
А там чырвоныя дахі касыя ні на што не падобны – але

пад адным з іх быў пакой з палатнянай фіранкай і грубым сталом.
На яго я ставіла кошык з зелянінай на лаўку, рыўком.

А па гэтых каменных плітах збягала да халоднага мора ўніз –
там стаялі рознакаляровыя лодкі, і нахабныя чайкі нешта дзяўблі.

Гэтая памяць нават не мая, проста ад тых часоў скура маіх рук –
памятае мыццё ў драўляным карыце. Менавіта так. І нерытмічны стук

сэрца паўтарае стук колаў наверсе, шуму бруку і колаў бег.
Я вядома жыла ў гэтым горадзе: гэта праўда, як тое, што ноччу снег

паў. Як тое, што ноч чорная і Серафім мае ажно шэсць крыл.
Скажы мне калі ласка – толькі праўду – а ты там жыў?

***В центре города***

*он повторяет: прошу вас, подайте мне слово –*
*и то же самое написано у него на грязной картонке*
*вместе с просьбой положить мелочь: луни или туни**

*он сидит на тротуаре, под ним подстилка вроде собачьей*
*и собачья же тоска в глазах*

*он повторяет: прошу вас, подайте мне слово*
*на любом языке – неважно, пойму я или нет*
*сморщите нос, потому что от меня воняет*
*ругнитесь, прежде чем обойдёте меня*
*как объект пространства*

*он повторяет: прошу вас, подайте мне слово*
*по-моему, он сидел здесь всегда*
*его гоняют полицейские, но он возвращается*
*вот на этот пятачок. Он будет сидеть на асфальте*
*даже когда весь мир рухнет*

*он повторяет: прошу вас, подайте мне слово*
*сегодня по дороге с работы – в привычной толчее*
*среди гудков машин и мельканья реклам –*
*вы снова его увидите вечером и снова*
*не узнаете в нём себя*

** loonie и toonie – канадские однодолларовые и двухдолларовые монеты.*

**У цэнтры горада**

ён паўтарае: прашу вас, скажыце хоць слова –
гэта просьба напісана ў яго і на бруднай кардонцы
разам з просьбай пакласці дробязь: луні ці туні *
ён сядзіць на тратуары, пад ім падсцілка накшталт сабачай
і сабачая туга ў ягоных вачах.

ён паўтарае: прашу вас, скажыце хоць слова –
на любой мове – няважна, ці ўцямлю.
зморшчыце нос, таму што ад мяне смярдзіць,
вылайцеся, перш чым абыйдзеце мяне
як аб'ект прасторы.

ён паўтарае: прашу вас, скажыце хоць слова –
па-мойму, ён сядзеў тут заўсёды

яго ганяе паліцыя, але ён вяртаецца
вось на гэты пятачок. Ён будзе сядзець на асфальце
нават калі ўвесь свет абрынецца ў прорву

ён паўтарае: прашу вас, скажыце хоць слова –
сёння па дарозе з працы – у звыклай штурханіне
сярод гудкоў машын і мігцення рэклам –
вы зноў яго ўбачыце вечарам і зноў
не пазнаеце ў ім сябе.

* loonie и toonie – канадскія манеты коштам адзін і два долары.

***Подражание греческому***

*Я – молодая ослица, породиста и горяча.*
*Нынче с утра от хозяина от Буридана*
*я получила на выбор – не клочья бурьяна –*
*сочной свежайшей травы два огромных пучка.*

*Первый зелёный пучок – как понятие «быть».*
*Ну а второй – как «не быть» и ещё зеленее.*
*Я размышляю и мучаюсь, – что же вернее?*
*Как же мне этот вселенский вопрос разрешить?*

**Перайманне з грэчаскай мовы**

Я - маладая асліца, вочы як шустрыя два жучкі.
Сягоння з раніцы ад гаспадара, ад Бурыдана
я атрымала на выбар – не кошык, саломай засланы,
свежай зялёнай травы два велізарных пучкі.

Першы зялёны пучок - як паняцце “быць".
Ну а другі - то"не быць", – як бы і не зеляней.
Гэта ж пакута – выбраць, які з іх смачней?
Як непасільную гэту задачу рашыць?

***Антинародные мудрости***

*Ни черта копейка рубль не бережёт.*
*И удобней воевать по одиночке.*
*Не везёт родившимся в сорочке.*
*Каплями я воду пью с лица*

*дождевую. Соловей опять поёт*
*по уши в зубах у ненавистной кошки.*
*Бегают за ртом хлебные крошки.*
*И не стерпится, не слюбится.*

*Очень даже нужен прошлогодний снег.*
*Свиноматки обожают мелкий бисер.*
*Только дуракам закон и писан.*
*Что посеял – в жизни не пожнёшь!*

*Может, будет урожай-то и хорош,*
*только там растёт не то, что ты посеял.*
*Города берёт совсем не смелость.*
*А цыплят считают по весне.*

*Вот и присказкам моим пришёл конец.*
*Добрый молодец, снимай лапшинки с уха!*
*Сказка – ложь, я доложу вам сухо.*
*Ты не слушал? Ну и молодец.*

***Антынародныя мудрасці***

Ні чарта з капейкі мне не прыбыло.
І зручней мне ваяваць на адзіноце.
Нарадзілася ў кашулі – а ўсё на адной ноце.
Па барадзе цякло, і ў роце суха не было.

Свінаматка дробны жэмчуг не міне.
Я мела сто сяброў, яшчэ і сто рублёў
Ваўкоў баялася ды поўны кош грыбоў.
І леташні патрэбен часам снег.

Чорт у рабро, хоць трэба, не штурхне.
Не кожная пачвара мае пару.
Ваду піць з твару болей я не мару,
А што пасеяў – можа й не пажнеш!

Можа, будзе ўраджай мой добры,
толькі там расце не тое, што пасеяў.
І куранят, бывае, лічаць па вясне,
А гарады бярэ і не харобры.

Вось прыказкам маім прыйшоў канец.
Добра, малайчына, здымай лапшу з вуха!
Казкі лгуць, а вось праўдзівая навука.
Ды ты не слухаў? Ну і маладзец.

З рускай мовы пераклаў Міхась Кенька.

Оквіль, Канада
Мінск, Беларусь

*Abstract*

**Mikhas Kenka: Poems by Vita Shtivelman translated into Belarusian**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 193-205, www.sakavik.net)***

Vita Shtivelman (Toronto, Canada) is a poet, translator, publicist, founder and leader of the EtCetera Physics and Lyrics Club. Vita is the author of two books, numerous publications and poetic productions.

*Резюме*

**Михась Кенька: Стихи Виты Штивельман в переводе на белорусский язык**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 193-205, www.sakavik.net)***

Вита Штивельман (Торонто, Канада) - поэт, переводчик, публицист, основатель и руководитель клуба физиков и лириков «EtCetera». Вита - автор двух книг, многочисленных публикаций и поэтических постановок.

**Пётра Мурзёнак: Учора, калі я быў маладым** *(пераклад)*
**Шарль Азнавур**/Charles Aznavour - **Hier Encore; Yesterday when I was young**

Здаецца вось я, малады
і смак жыцьця салодкі
бы цёплы дождж на целе;
я жартаваў з жыцьцём тады
бы у гульні дзіцячай
падобна ветрыку,
што ў вечар дразніць свечкі полымя;
мільён цудоўных планаў, якія ў снах я мроіў,
на жаль, на глебе апынуліся няўстойлівай і слабай;
я жыў у ноч, дзень светлы пазбягаў ...
І толькі адчуваю я цяпер,
гады мае як праляцелі.

Мяне яшчэ учора, маладога
чакалі песьні хмельныя, каб толькі іх сьпяваў;
а колькі палымянных жарсьцяў мяне чакалі
й роспачы балючыя,
якіх не пажадалі б бачыць
мае аслепленыя вочы.
Я бег занадта хутка, заўважыць каб,
што час і маладосць нарэшце скончыліся;
не прыпыняўся аніколі задумацца –
што ёсць жыцьцё.
І кожная з мінулага размова
мроіць пра мяне і
мной,
ні чым другім.

Учора месяц быў сіней
і кожны дзень шалёны
даваў мне шанец
штосьці новае ствараць;
я карыстаў свой век, як палачку чароўную,
і не зважаў на страты і пустэчу навакол.
Ў каханьне з гонарам гуляў і пыхай,

ды полымя, што запаляў занадта хутка,
таксама хутка гінула штораз.
Сябры, якіх сабраў наўкол,
дзівосным чынам зніклі пакрысе.
І толькі я пакуль на сцэне,
сыграць спектакль жыцьцёвы да канца.

Шмат ува мне яшчэ непраспяваных песень,
Язык мой адчувае смак ад горкіх слёз ...
Расплаты час прыйшоў
за ўчарашні дзень
Калі быў маладым ...

**Yesterday when I was young**

Produced by Charles Aznavour & Del Newman

Yesterday when I was young
The taste of life was sweet as rain upon my tongue
I teased at life as if it were a foolish game
The way the evening breeze may tease a candle flame
The thousand dreams I dreamed, the splendid things I planned
I always built, alas, on weak and shifting sand
I lived by night and shunned the naked light of day
And only now I see how the years ran away

Yesterday, when I was young
So many drinking songs were waiting to be sung
So many wayward pleasures lay in store for me
And so much pain my dazzled eyes refused to see
I ran so fast that time and youth at last ran out
I never stopped to think what life was all about
And every conversation I can now recall
Concerned itself with me, me and nothing else at all

Yesterday the moon was blue
And every crazy day brought something new to do
I used my magic age as if it were a wand
And never saw the waste and emptiness beyond

The game of love I played with arrogance and pride
And every flame I lit too quickly, quickly died
The friends I made all seemed somehow to drift away
And only I am left on stage to end the play

There are so many songs in me that won't be sung
I feel the bitter taste of tears upon my tongue
The time has come for me to pay for yesterday
When I was young
Young, young...

*Abstract*

**Piotra Murzionak: Yesterday, when I was young/Hier Encore** *(Charles Aznavour' poem translation in Belarusian)*
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 206-208, www.sakavik.net)***

*Резюме*

**Пётра Мурзёнак: Перевод стихотворения-песни Шарля Азнавура «Вчера, когда я был молод» на беларусский язык**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 206-208, www.sakavik.net)***

*Новыя матэрыялы* ***Сяргея Панізьніка*** *уключаюць фальклорныя запісы* ***“Там Сонца па зямлі хадзіла”****, вершаваныя нататкі* ***“Каліна-маліна, ягадка мая...”, “Тугая дуга адвагі”,*** *а таксама аўтабіяграфічныя запісы, ілюстраваныя здымкамі аўтара “****Хто ахвочы, каб сустрэліся на Ўзвыссі? Вочы – ў вочы! Сэрца – ў сэрца! Мыслі – ў мыслі!”***

**Сяргей Панізьнік: Там Сонца па зямлі хадзіла**

*“А пагода была такая, што сонца па зямлі хадзіла!”*
*З юрмальскай згадкі сястры Ніны, народжанай у в. Бабышкі*

1. Быў раем хутар. Пры бацьках –
усё, што сеялі, радзіла.
Раса іскрылася ў руках
бо Сонца па Зямлі хадзіла.

2. Са сцежак тчэцца радавод.
Зара радню падмаладзіла.
Каб разам быць – глядзі на ўсход:
ты ж з Сонцам па зямлі хадзіла!

3. Сястра, зажурынка мая,
і мне ты кладачкі масціла.
Вясной пакормім салаўя,
каб Сонца па зямлі хадзіла.

У бабышкаўскай сядзібе /даўняя вёска была пераведзена на хутары / жылі бацька Сцяпан, 1905 г. н., мама Ганна, 1914 г. н., бабуля Ганэта, 1889 г. н., мая сястра Ніна і я, 1942 г. н. Маму звалі ў сям”і Нюрай, яе бацька Сялюн Грыгорый Іванавіч служыў садоўнікам у Царскім Сяле. Многае перадалося ад яго і маёй маме: яна ўмела перагуквацца з кнігаўкамі, жаўранкамі. А на панадворку ластаўкам, якія вясною сяліліся ў пуні, так адказвала на іх журботы пра пустыя гнёзды:

*Былі пунікі-прыпунікі паўню-ю-сенькі.*
*Прыляцелі-паглядзелі: нічагу-у-сенькі…*
*Пера-пі-лі, пераелі, пералу-ушчылі…*

Гэта ажно ў 1968 г. я запісаў на магнітафон некалькі народных песняў ад мамы. Узгадаліся такія радкі з вясельнай песні:

*Дый дзе быў салавей, ды дзе зязюля,*
*Ды ў адзін садочак яны зьляцелі,*
*Дый на адну вішаньку яны паселі,*
*Ды адну думачку яны думалі…*

“Ад’араў дзядзька быкам” - успаміналі пра гаспадара, а водзыўкі, пошчакі, адгукі яго бяседнага маўлення засталіся “на семя і на емя”. Лагоджу кожнае пачутае гаваркое слова ў Бабышках, Латышах, Дубавых, Лявонпалі … Выплываюць з памяці маміны словы: стахоліць, нэмнуць, урабець, уваvуліць, выранджацца, разжагерыцца …

І ўспамінаецца, як мы, падлеткі, на Вялікдзень з яйкам-мацаком “у байца хадзілі”, каб выйграць у суседа надколатае мацаком яйка. Мы “калацілі вераб’я”, ідучы за пяць вёрст у школу. Тыя гады “як кот цяў”, але я “клёк не згубіў”, “не трубіў у кулак”, і “лезьці на лес” не прыходзілася. Пакінулі мне родзічы, многія мёрскія і прыдзвінскія людзі багаты прыпас духоўнай велічы продкаў. Вось і на бабышкаўскім хутары, і па ўсім наваколлі – “сьпіткі і зьедкі” прыроднай аздобы. А ў ёй – захаваныя скарбы снуйкі-мовы, чублы трапных, дасціпных думак, намёкі, парады, прысуды… І ўсё гэта ў пачутых і запісаных прымаўках і прыказках, выслоўях, павучаннях, афарызмах, у пацешных, фрывольных прыбабуньках. Пра пажылога дзядзьку пачуў, да прыкладу, вось што: “У старога жарабка скура і на плоце гагочыць”, “Яго і ў мяшку ня зловіш”, “Ні вусоў, ні барады – як чорт малады!”, “На ім косьці граюць…”, “У яго шуры-муры ў галаве пачаліся”.

*Бацькаўшчынаю насычаны*
*ажылі і валуны…*
*Мы – галосныя, мы – зычныя*
*беларускія сыны!*

Мама прамаўляла: “Мы жылі на гэтым хутары пры першых саветах, пры паляках, пры другіх саветах, пры немцах і зноў пры саветах. Такі, сынок, наш чысьленнік гадоў. Даўней людзі былі памятушчыя. Зналі, што ў агародзе можна садзіць у растучы месяц, і што – ва ўбываючы… І песні знаходзілі нас пры нагодзе:

*Ды й расла бяроза, выхіляяся.*
*Ды ішла Надзінька, выкланяяся.*
*Старога-малога не мінаючы:*
*У старога й малога ды шчасьця многа …*

Ох, не ўдасца мне паказаць усе запісы маміных падумак: “І што табе нагрэзілася пасьля гэтай мітусьні?”, “Натура гавенная: праглася на чужое”, “Дзед на каплі

меціцца: выпіць захацелася”, “Не хабарыся: усёй гамарнёй будзем упрошваць”, “Не на беднага тая бяда пала: ачуняў”, “Было: навяліцца – прымі! А ён жа самаплюх, пацюпашка”, “Ня знаю, як там было пасьля жаніцьбы: я ў іх нагах не стаяла”, “І не вытурыць з хаты гультая-дундука: будзіць валэндацца, пакуль яму ў карак ня стукнеш”, “Работы хоць разапніся – і рук не адхваціць. Вучылі мяне: “Закінь назад – наперадзе знойдзеш”.

На Фрасенню, - кажа мне мама, - мы хадзілі ў Полацак. Начавалі веруючыя людзі на палях. Манашкі чай нам паднасілі: па капейцы бралі за гэта. А назаўтра Хросны ход. Так мы сьвятую Фрасенню славілі.
А вот Фрасенняй у нас не называлі народжаных дзяўчатак. Жылі Прося Косьцікава, за рэчкай Волтай хата Проскі стаяла …

*Хто ахвочы, каб сустрэліся на ўзвыссі?*
*Вочы ў вочы! Сэрца ў сэрца! Мысьлі ў мысьлі!*

“Ня так страшна сьмерць як яе прылады”, прамовіла мама Рыгору Барадуліну ў Хатыні.
“Пакідай слова на дабрыдзень!”—вучыла мяне мама. Мой зборнік вершаў “Слова на дабрыдзень” быў выдадзены ў 1982 г., бо – “матчына сэрца ніколі ня гасьне”.

Мой бацька Сцяпан успамінаў свайго бацьку Дзмітрыя Гаўрылавіча, які меў новую жонку. Так вось Зося Кісель у другім шлюбе добра ладзіла з маім продкам. Захавалася такая згадка. Зося Зьмітраку паказвае, што на панадворку пры вясёлай гульбе вытвараецца: “Глядзі! Твае дзеткі і мае дзеткі - нашых б”юць …”

“Яглы – калі няеўшы спаць ляглі”, так мой бацька ў Бабышках гаварыў пра посную вячэру. Пра такое незразумелае слова я распавёў Рыгору Барадуліну. Той прывёў ушацкую моўную паралель: “Яглі – пацалаваліся і спаць ляглі”. Так вось пра гэтае дзіўнае слова ўпершыню дазнаўся ў пражскай краме: Jahly – гэта проса. Не вельмі насытная ежа атрымліваецца …

Калі сусед сабраўся ў дарогу, а вярнуўся напуста, бацька мой пацьвельваўся: “Зьезьдзіў як цар пад Рыгу”. Бо марнай была тая паездка – “на ўзьвей вецер”. “Сяк зьезьдзіў, ні за хны збродзіў боты. Зацягнула яго на чортавы віры …” Прымаўка “Як цар пад Рыгу” узнікла на гістарычнай Дзісеншчыне. А з нагоды такой: маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч у 1656 г. распачаў Лівонскую вайну. Ішоў пад Рыгу, але першы паход быў няўдалы. Вяртаўся з войскам міма Дзісны, грабіў, паліў сядзібы …

Запомніліся і такія выслоўі бацькі: “Май – каню сена дай, а сам на печ уцякай”, “Прычыну і канём не аб’едзіш”, “Дурасьць служыць розуму за тачыла”, “Удала займець – як з хваста сарваць”… Аднаго разу, вярнуўшыся з вяселля, ён прыгадаў

пачутае рыфмаванне: “Як у нашай маладой не закрыць і скварадой …” Запісаў я і яшчэ адно такое рыфмаванне: ”У каждым родзе курва і злодзей.” Невялікая розніца ад ушацкага Барадуліна: “У вялікім родзе і курва, і злодзей”.

*Зялёная арэшанька,*
*Што ягад ня маіць…*
*Хто ў прымаках пабываіць,*
*Той гора пазнаіць…*

Пазначыў радкі з песні, запісанай ад мамы. Учапіліся ў мяне і такія яе ўспаміны: “Бувала, вясной да Дзвіны зьбіраліся – на скрыжніцу паглядзець. А часцей вясной чулася: “Пойдзем на Волту! Успол на рацэ пачаўся, лёд зрушыўся!” Ох, які скарб, гэты народны слоўнік! Навошта мне слова “двойня”, калі чуў ад цёткі Ядзвінні: ”Рэдка бываіць такое: у маей сьвякроўкі парнісьцікі радзіліся – дзьве дзяўчыначкі”.

Вось праглядаю ўспаміны сястры Ніны – і на паперцы пазначаюцца новыя радкі: “У завеях зімы не заблудзіццца час. Будзем памятаць мы – будуць помніць і нас…” А сястра Ніна ўзгадвала пра нашу далёкую радню так: “У бабышкаўскіх Рамана і Грышкі Панізьнікаў мама Вольга доўга хварэла, пакутавала: ніяк не магла памерці Мо таму, што ўсё жыццё была знахаркай, замовамі і зёлкамі ўмела і кароў на хутарах лячыць. Сьмерць не прыходзіла, і людзі зрабілі так, як было на тыя часы пры падобных выпадках прынята: над ложкам Вольгі разабралі столь, ускрылі страху… На трэція суткі цётка Вольга сканала”.

Пра нязведаныя чары сястра Ніна расказала і такое: “Пачалася навальніца. Пастух пасьпеў цялят загнаць у хлеў, як раптам у будынак пярун ударыў. Пазвалі Міколіху Кукуць ратаваць той хлеў з цялятамі, які ўжо пачаў узгарацца. Іскры – увысь. Людзі забаяліся, каб не загарэліся хаты на хутары ў Латышах. Міколіха ўзяла ікону Божае Маці, узьняла яе наўпроць іскраў – і павярнулася з малітвай, каб ісці ў бок лесу. Іскры – за ёй. Такі ўчынак Міколіхі Кукуць ратаваў хутар ад выпалення. І калхозны статак зьбярогся. Начальства з Мёраў пасьля дзівавалася: і як так можна…”

Помню, расказвалі і пра такую жанчыну: ёй малітвай, замовай удавалася распалавініць на небе чорную навалу хмараў перуновых. Яе вырак мог адсунуць бяду ад хутара.

*Не будзе айчыннасці без дабрачыннасці,*
*не будзе і вернасці без міласэрнасці.*

Бабуля Альжбета, 1886 г.н., самая блізкая наша суседачка-раднулька ў Бабышках. Гэта яна прымала мяне на свет, пакідала на аўшаку меткі майго росту. Яе забава са мной была такая: “насіць гаршка”. Было: ускіне мяне на плечы /на карак/, трымае

за ногі і я, гаршок, углядаюся: куды ж гэта мы топаем? Памятаю: бабуля пасадзіць мяне на пелену і пачастуе, і казачку збаіць…Самыя значныя меткі – гэта выслоўі бабулькі Альжбеты: ”У цябе сённека галоўка босенькая”, “Ці сяк прыйшоў, мо што мне перадаць хочаш?”, “Ой, ня тут гукана сто разоў, у Антона абарваніна…”, “Чалавек сабакі не баіцца, ды зьвягі ня любіць”, “Саракі гоняць сьнег да ракі”. Аднаго разу бабулька, якая мяне бабіла /пуп адразала/ нібыта пра сябе праспявала:

*А наша бабулька і вумна-разумна,*
*Ды без кіёчка на вулку ня выйдзіць,*
*Ды без піражочка да ўнучкі ня прыйдзіць.*
*Ды запрагайце вы дванаццаць петухоў,*
*Ды завязіце нашу бабульку дамоў.*

Няўзлюбіла яна калгасныя парадкі: “Ну што за мужыкі пайшлі… Скора ў семярых аднаго петуха будуць біць”, “Адным ні тэнды, ні сенды, а другім удача – як чорт у руку пернуў”, “Жывеш і сьвятых не аббачыш”, “Раней пасты саблюдалі. І быў дзень, калі казалі: Пост важыцца!” Зімой було. Я павешу на куст праснак і заву цябе: “Глядзі! Пост важыцца!”

Умела бабуля Альжбета адчапіцца ад надакучлівай суседкі і адным дыхам выказацца: “А хрэн табе ў вочы, галавешка ў зубы, перац у нос, галень паміж калень, клубок нітак паміж лытак, пад хвост памяло – каб аж дух заняло!”

*Ды не кукуй жа, зязюленька, рана*
*Я й маладзенька ўсю ночку ня спала:*
*Свайго мілога з дарожанькі ждала…*
*(з песні, запісанай ад Альжбеты Панізьнік)*

Бабуля Ганэта Сялюн (у дзявоцтве Падабыцька з роду Танайнаў) жыла ў маёй мамы ў Бабышках. Гаварыла, як яна стала калекам на ўсё жыццё. Яе сын Сяргей быў у партызанах. А партызанскія сем’і гітлераўцы стараліся знішчыць. І каб не быць расстралянай, яна з многімі суседзямі схавалася ў балоце Мох. А там па дрыгве ішлі карнікі на лыжах і цэліліся ў людзей. Загінулі і некаторыя нашыя родзічы – Панізьнікі. А бабуля Ганэта ратавалася тым, што з галавою акунулася ў глыбокі вір і дыхала праз чарацінку. У яе цень на вадзе стрэлілі, але ж… “Пастрадалі суставы ног ад доўгага сядзення ў вадзе”, прызнавалася бабуля. Але ж за ёй родзічы прыглядалі ў Бабышках, у Латышах, у Рызе…

Захаваўся ў памяці ад выпадкова ўратаванай з балота Мох жанчыны дзіўны экспромт: яна з хутара Гулякі каля таго балота намалявала словамі такі трагічны пейзаж: “Загарэліся Гулякі ззаду, сьпераду, з бакоў…”

*Нам для Памяці і трэба:*
*адухоўленае неба,*
*Уваскрослая зямля.*

Мама бабулі Ганэты - Параска з роду Танайнаў - пражыла 85 гадоў. Народная ўмеліца адыйшла ў лепшы свет у 1943 г., усклаўшы на мяне сваё дабраславенне. Яе доўга памяталі як умеліцу прадказваць, даваць людзям добрыя парады. А было так: падыходзіць да Параскі гаспадар з такою просьбай: а калі мне можна пачаць сяўбу жыта? Знахарка дастае прыхаваны клубок пражы, шукае на патрэбных нітках пазначаныя вузялкі і прадказвае, калі можна пачаць сеяць тое жыта. Пазней я даведаўся пра вузялковы каляндар, прачытаў хоць крыху пра народныя арнаментальныя знакі. Параска, аказваецца, усё сваё бадзёрае жыццё стварала гэты вузялковы численнік, пазначаючы на нітках сямейныя, гаспадарчыя рэальныя падзеі…

*Каб кожнаю былінкаю*
*гучаць на Беларусі,*
*з Радзімаю-крывінкаю*
*я песняю зрастуся.*

І не толькі прабабка Параска мела чароўны “вузялковы каляндар”. Быў падобны і ў мяне, дзе я пакідаў вузялкі вершаў, запісы гаворкі родзічаў і землякоў: іх прымаўкі, водзыўкі, показкі, дражнілкі, досціпы, засцярогі, кепікі, пацешкі, павучанні…

Павучанні – улюбённая маіх суседзяў справа: і злева ад мяне і справа: “Ня ведае правіца, што робіць лявіца”. Тым, хто перажыў вайну, прыдумалі такую засцярогу: “Пачне ваяваць Кітай – жыць кідай”. Але цётка Ядзвіння загадзя мяне ўціхамірыла: “Пра воўка памоўка, а мядзьведзь з-пад налуску ды за гуску” – гэта значыць – раптам. І праспявала мне пра тое, чаму гусі не вылятаюць з гнёздаў сваіх, бо – “Шэры воўк за гарою зубы точыць, зьесьць нас хочыць…”

Паўтары сотні фальклорнай спадчыны было запісана мною ў 1968—70-я гады ў Бабышках, Латышках, Даўгінаве, Лявонпалі, Ільмовіках – ад Адамовіч Гені, Кліманскай Зіны, Панізьнікаў Ганны, Адэлі, Альжбеты, Шук Ліды, Грэцкай Вольгі, Кезік Марылі, Андыяна і Ядзвінні Кісьляк, Сялюн Ядзі, Мядэюха Любы… “Вузялковы каляндар” паказвае, што ў 1969 г. ад Пальчэх Маруты ў Даўгінаве было запісана некалькі каляндарна-абрадавых песень:

*Рада-рада шэра перапёлка,*
*Што лета даждала. Рада-рада!*
*Рада-рада наша гаспадынька,*
*Што жыта дажала. Рада-рада!*

Бацькаў брат і мой родны дзядзька Віктар спрыяў мне ў фальклорных падарожжах. Уяўляю, як Марута Пальчэх гаворыць пра жартоўныя вясельныя песні – і дзядзька Віктар хоча ўткнуць свой грош, ды пявуння яго спыняе: "З галавой не дагаварыўся, то й да ног ня сунься!" Але зноў вяртаюся ў Бабышкі. Гэта там "Бедны гаруе, што "кіем" не ўкіруе, а багаты тужыць, што "кій" яму ня служыць". Там і зэдлік лаве падчыняецца, там на пешага арла і сарока з колам… Пыталіся ў Бабышках і самі ж адказвалі: "Для чаго бабе ногі? Ды каб ня зьбіўся струк з дарогі".

Не магу прамінуць і ўспамін пра песню, запісананую ў Бабышках у 1968 г. ад Альжбеты і Адэлі Панізьнікаў, Гені Адамовіч, Зіны Кліманскай, Ліды Шук:

*Перад Пятром, пятым днём,*
*разгуляўся Янаў конь,*
*Разьбіў арэх капытом.*
*А ў арэху ядро ёсьць,*
*а ў дзевачак праўда ёсьць…*

***

Кій на кій завадзіць, абед на абед – не! – прамаўляла гаспадынька з Лявонпаля, частуючы мяне, баўтрука-дармаеда, скуматом сальца, а каб я паджулябаў – старалася падкарміць путрай – кашай з аржаной мукі… І ўспомніла крыўду суседа, які скардзіўся: "Ну й вячэру мне паднесьлі… Кажуць: гэта вам полевэчка з піньдзюкамі і біздрыкі ў масьле!" (з грыбамі і міногамі).

Ды маміны камы з душамі – цэпеліны - ніколі не забудуцца. Як і маўленне маіх землякоў. "Урабела, ніякавата мне стала,- гаварыла пявуння лявонпальская Вольга Грэцкая. – Разамкнулася маё сэрца, калі мы зноўку пачалі пяяць". А яе суседка Марыля Кезік пасля лявонпальскіх запісаў узгадала: "Прачнулася – і песня адпомнілася! А то вечарам мы замарыліся, песню за песняй вялі і я не магла адхлынуцца…"

А што такое "пайсці пад жыта"? Гэта мы гукалі вясну на Юр'я, калі рунь на полі – як вароне схавацца. А ў "бабіна лета" мы венікі вязалі. Помню як на Кра́сы – на Піліпаўку - ваўкі вылі. Мароз трашчыць. Зімкі былі!" Вось радкі з купальскай песні, запісанай ад Вольгі Грэцкай і Марылі Кезік у 1968 г.:

*Дунай вады вылілі –*
*галоўку ня вымылі.*

*Грабёнкі паламалі –*
*галоўку не ўчасалі…*

Але гэта вада не з таго рачайка Дунай, які калісьці ўпадаў у Менку. Мяне не праганялі пявуні на бераг Дзвіны. Прыгадаў Андрыян Кісьляк выпадак з ім, калі адна вяпла-балбатуха накінулася на яго: "Лахі пад пахі – і вон з хаты!" Даведаўся ў Лявонпалі, як паненка, легкадумная грэза, адбівалася ад уедлівага ўхажора: "Нада ж як уцялёскаўся. Адкасьніся ты ад мяне: прыстаў, бэшла-недарэка, як смала…" І такі ўспамін: "Раз у год у Лявонпалі – багаты фэст. Пасля Хроснага ходу мы прыселі. "Усякая душа выхваляець Бога! " Так нада было сказаць, каб праверыць, ці добры чалавек перад табой …" У адно імгненне я прамовіў: "І я хвалю Бога!"

*Я вярнуся на тваё, любоў, святло*
*Без ільдзіначкі на сэрцы, без віны.*
*І шчаслівае прытуліцца вясло*
*Да агеньчыка на беразе Дзвіны.*

У заўсёдных клопатах прыветная і адважная лявонпальская гаспадынька дзеля праўды прызналася: "Гатовая і пад зямлю ісьці… А што! Сто вёрст да нябёс – і ўсё лесам…"

Для натхнення пакінуў у "вузялковы каляндар" і такія народныя эх!спромты: "Кумліць, цягне яго на бабу. Часта хадзіў да яе: аджарыць хацелася". "Не ідзе, а жаронцамі меле…" - такое азначэнне вылецела з вуснаў Андрыяна Кісьляка. Мы сядзелі каля сцежкі праз яго двор, дзе ён нешта майстраваў, а міма нас прайшла лявонпальская прыгажуня. І вось некалькі радкоў з яго валачобнай песні, запісанай у 1968 г.:

*Гаспадару, сьлічны пану!*
*Глянь на двары што дзеіцца, што дзеіцца-лялеіцца:*
*Раса пала медавая!*
*У тваім дварку як у райку!*
*Хрыстос васкрос, Сын Божы!*

А жонка Андрыяна – Ядзвіння была і пявуняй, і зельніцай. Умела пазнаёміць з прыдзвінскімі краявідамі. Узгадала мне пра вёскі Скакуны, Баўтрукі… У Кукішах сем раёў злавілі. Ёсць і лясныя пчолы! У Смульках шчэці стаялі, хадзілі туды лён часаць. А там, дзе ў Смульках на правым беразе Волты млын Пяткевіча стаяў, на левым плоскім беразе калісь вялікі магільнік разьмясьцілі. У даўнія часы там ці не ўніяцкая царква стаяла. На магільніку, кажуць, вялікія людзі былі пахаваныя. Казалі так: у яме, пакуль туды гроб не пакладуць, ку́рылі цвяты ў чарапку…

Абваліўся бераг Волты, то знайшлі бутэльку засургучовую: гадоў 50 ляжала ў зямлі. Выпілі ўтрох: упокат мужыкі ляжалі.

*І там цібе дажыдаюць,*
*Касьцёлы адмыкаюць.*
*Стулою ручкі зьвяжуць*
*Шчырую праўду скажуць.*
*Стула* -- ручнік для вянчальнага абраду.*
*З песні, запісанай ад Ядзвінні Кісьляк.*

*"*Кармі да Івана – зробяць на пана!" - Так наказваў даглядаць пчаліныя вуллі наш родзіч з Ліпава Максім Рудзёнак. А парада яго суседа была зусім іншая: "Ня вер ні чорту, ні Мамоне!". Мамона – бог багацця, сімвал пажады, хцівасці.

"Valoda" на латышскай мове – мова. У латышскай валодзе ёсць слова "mutulis"— клуб дыму. Беларус авалодаў значэннем слова і так павучае свайго суседа: "Ты не круці мітулямі, а ўсю праўдачку скажы. Не хавайся, не выкручвайся. Досыць хітраваць".

З якой мовы пачута слова "кіякі", не ведаю. Цётка Ядзвіння, веруючая жанчына, не прызнавала расплох у сям'і, калі гаспадар не Божы дар: "Яго, латругу – выпівоху, гультая, ліхадзея, зладзюгу – запомнілі людзі. Знаюць, што гэтага нягодніка на тым свеце кіякі шукаюць". Можа – вылюдкі? Пра запазычанні скажу так: "Калі чужое ем, то глух і нем. А калі маё ядуць, у мяне слёзы цякуць".

Скарбы запісаных мною згукаў роднага Прыдзвіння прыладжваў калісьці мовавед –дыялектолаг родам з Дзісны Мікола Крыўко. Друкаваліся агледзіны народных выслоўяў у газетах "Народнае слова", "Міёрскія навіны", "Краязнаўчая газета"…

*І самі мы – Радзімы веццe:*
*Адно з другім бліжэй, бліжэй…*
*За Бацькаўшчыну што на свеце*
*Радней, шчымлівей, даражэй?*

"Калі так, пepaтакаваць не будзем" – вось загаловак чарговай публікацыі пра здабыткі лексікі на Мёршчыне. "За чужое лычка раменьчыкам плацяць", а мне "Да гатовага пня і агонь добра класьці". Гэта абыякавым "чорт па левай руцэ йдзець…" А ў мяне анёл ідзе па правай, і дапамагае запісваць, а гэта значыць захоўваць Слова, якое трэба "трымаць на дабрыні".

Таму нібы сабе адрасую параду майго хутараніна, выказаную суседу: "Не юдзі, чалавеча! Чыстую праўду выкажы, не падманьвай мяне" (у літоўскай мове "juditi" - дражніць; у латышскай - "judit" - турбаваць). Тое, што мае землякі – паліглоты,

даказвае і такі прыклад: “Зьбіраюцца леты-зімы да купы. Ня дужа рухавым я стаў. А так рыхла бегаў калі-та…” - уздыхнуў каля мяне пажылы дзядзька (у чэшскай мове richly – хуткі). А вось такое азначэнне як “пасыка” стала перада мною пярэчкай. Пачуў у гаворцы: “Баба – агонь! Толькі падвярніся – можыць спляжыць, і слова не дасьць сказаць. Крычыць: Толькі не паслухай мяне, сьціменнік, улуплю маўчуна па носе – пасыкай абальешся!” Аказваецца, што пасыка – гэта артэрыяльная кроў.

*Ляцелі гусі з далёкага краю.*
*Ваду замуцілі на сінім Дунаю.*
*У том сінім Дунаю маці воду брала,*
*Ды й так прамаўляла…*

Гэта радочкі з песні, запісанай ад Ірыны Талочка з в. Лысагорка. А ручэй Дунай працякаў каля Віцебска і апускаўся ў Дзвіну, узгадваючы свайго магутнага еўрапейскага цёзку.

З якой мовы выкарабкала фрывольнае слова суседка Ганэта Кліманская -- трэба яшчэ капацца ў бабышкаўскім чарназёме: “А каб жа ён акалеў, - праклінала яна вясельнага кавалера. - Як возьміць паненку і пачне ў польцы трэсьціся, - толькі яго шванц па каленнях трасецца”.

А хто “сам сабе волі не даваў”? Дазнаўся я ад Ядзі Сялюн у Латышах. Гаварыла пра Вінцуся, які на голай лаўцы спаў, падклаўшы калена пад галаву.
- Мы жылі так: ні ў міру, ні ў Сібіру. Ну хоць лясьніся: аніякага выйсьця. Хто хацеў арду ўзьняць, ішлі наўгрудкі. Ды сусед суседу параіў: “А ты вока на кулак не нясі!”

І не самкнуліся ў пропасць жыхары даваенага Лявонпаля. Вось якую просьбу лявонпальскага яўрэя прыгадаю вам, - кажа Вольга Грэцкая: “Дайбожа майму дзіцёнку той розум напачатку, які мужыку прыходзіць пазьней!”

Было і такое: Янкель Крывіцкі з Лявонпаля ўздыхнуў: “Ох, каб ён пагарэў…Ужо як там было не было, а струбіў Саўка нашу Сару. Сара чула, дзе той лясьнік трубіць…”

Так, да вайны ў мястэчку Лявонпаль жыло многа яўрэйскіх сем”яў, было адкрыта 12 крамаў. Усе вернікі жылі ў лагодзе-дагодзе. З тых часоў курапаткаю даляцела да мяне і такое рыфмаванне: “Сора, Сора! Пойдзем у камору! Будзем рабіць тое, што рабілі ўчора…”

*Радзіма, Радзіма – неразгаданае дзіва:*
*Заснежжа стагоддзяў на вечназялёнай траве.*

*“Кожная зязюля пра сваё кукуе”.*
*“Вольнаму воля, багатаму – рай”.*

І я дзялюся сваім багаццем.

*Будзь зямлёй святою, Бацькаўшчына!*
*Сем дарожак з дому, дадому – адна.*

*Снуйку-мову, чублы думак*
*Сонца мне знайшло ў тумане.*
*Я ў Бабышках скарбаў клунак*
*запаўняў.*

*Іх абдыманне*
*падказалі мамы сцежкі:*
*прыбабунькі там, пацешкі,*
*прымаўкі былі ў гучанні,*
*показкі – у павучанні.*
*Звёў намёкі і дражнілкі,*
*досціпы, галаваломкі…*
*Гладзіў жарцікам - галоўкі,*
*жылістым зычэнням – жылкі.*
*Вызнаў продкаў прысяганні,*
*хутаранцаў прывітанні…*
*Чуў, як Бацькаўшчыны Ніва*
*Сонцу гукнула рупліва:*
*- Слова – для сустрэч кадзіла.*
*Будзем вольна дзеіць, ветла, -*
*каб з Радзімай вечна-светлай*
*Сонца па зямлі хадзіла!*

*Сяргей Панізьнік, 7 красавіка 2021 года*

**Сяргей Панізьнік: Каліна-маліна, ягадка мая...**

На пачатку 1980-х гадоў я атрымаў ліст з Новасібірска ад Марыі Антонаўны Тамілінай. Тэкст пачынаўся пад загалоўкам “Белорусская песня “Зязюлька”. Прачытаўшы яго, паспрабаваў перапісаць словы, пераставіўшы “и” на “і”. І зязюлька закукавала вось так:

ЗЯЗЮЛЬКА

Каліна-маліна, ягадка мая.
Была я у мамачкі на раду адна.
Аддала мяне мамачка замуж далека, 2 р.
Прыказала мамачка ў гасцях не бываць.

Прыказала, родная, там век векаваць.
Пражыла гадочак, пражыла другі,
На трэці гадочак занудзілася. 2 р.
Да мамачкі ў госцейкі захацелася.

Зраблюся зязюлькай, вазьму і палячу.
І там я сяду у вішнёвым саду.
Ці не ўбачу мамачку, ідучы па ваду. 2 р.
Аж мож мая мамачка па сенях ходзіць…

І сваіх сыночкаў пабудзівая:
- Устаньця, сыночкі! Устаньця, сакалкі:
Што ж гэта за пташка ў нас у саду пяе? 2 р.
Яна ж нашы вішанькі усе аббярэ.

І старшы братачка ружайцо бярэ,
А малодшы братачка страляць не дае:
- Не страляй, братачка, гэта ж наша сястра! 2 р.
Яна ж у нас была на раду адна.

Калі шэра зязюля – ляці у шчыры бор,
Калі наша сястрыца – ляці к нам за стол.
- Я сваімі крыльцамі шкляначкі паб’ю, 2 р.
Я сваімі слёзкамі абрусы зальлю.

Пазначаныя ў пісьме з Новасібірска і своеасаблівыя "слёзкі" Марыі Антонаўны Тамілінай:

*"Уважаемый Сергей Степанович!*
*Меня интересует такой вопрос: с каких пор и откуда взялся Белорусский литературный язык? Когда я уучилась в церковно-приходской школе на ст. "Белорусь" – тогда называлась "Заславль" – это было в1908-09-10 годах, так все книги были у нас на русском языке, а разговаривали мы вот такими словами, как в моей "Зязюльцы". А теперь появился настолько ломанный язык, что мы, белорусы, перешедшие на русский жаргон, не можем понять свой родной литературный язык…"*

Так пачалася перапіска з сібірскімі родзічамі маёй жонкі Людмілы Мікалаеўны. Людміла - стрыечная ўнучка Марыі Антонаўны. А мама Людмілы – Роза Рыгораўна, родная цётка Марыі Антонаўны Тамілінай. А вось ад роднага брата Розы Рыгораўны – Аляксандра Міхайлавіча Зуеўскага з Новасібірска, я атрымаў 2.02.1986 г. падзяку за перасланую яму маю кнігу дакументальнай прозы "Браніслава":

*"Большое спасибо за книгу и надпись на ней. Начал читать книгу. Нужно сказать, что почти все слова поддаются переводу. Видимо, всё же белорусская кровь есть, поэтому и многие слова, которые русскому не понять, мне они понятны и могу перевести. Ещё раз спасибо племяннику за то, что не забыл нас, сибирских старцев".*

Знайшлася "сястрыца" песні, перасланай з Новасібірска. "Каліна-каліначка, каліна мая." Так пачынаецца песня "Каліна-каліначка", запісаная мною ў 1968 годзе ў маёй роднай вёсцы Бабышкі / Міёрскі р-н/ ад Ірыны Баніфатаўны Талочка, народжанай у в. Лысагорка ў 1917 г. Поўнасцю тэкст можна прачытаць у зборніку навуковых прац "Беларускі фальклор", вып.2. Мінск, 2015, у раздзеле "Песні, далучаныя да вечнасці. Са збораў Сяргея Панізьніка", с. 357—358.

Скарб Марыі Тамілінай – у Вішнёвы сад Сібірскага радаводу беларусаў

Калі прыціхнуць гуслі, -
Каліна зашуміць:
- Хачу на Беларусі
Зязюлькаю пабыць!
Бо ў сваяках Людмілы -
Зуеўскія, Таміліны…
Хай крэўнасць – роду ніць -

Між сваякоў звініць:
- Вішнёвы сад – пладзіць!
З калінай і малінай
Зязюльку – прытуліць
І ўсё жыццё л ю б і ц ь !

Сяргей Панізьнік 4.02.2021

**Сяргей Панізьнік: Тугая дуга адвагі**

Ігар Кандратовіч – навуковы супрацоўнік гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Заслаўе”, прамаўляе:

- У Заслаўі сьнягі растаюць, сьнежань з адлігаю гуляе пад руку, а як разыйдуцца – маразы трэснуць, гой – ратуй нос!

P.S. Дасылаю партрэт Яна Янавіча Глябовіча /аўтарства Алены Балыш, 2020 /, які маецца ў новай выставе нашай музейнай, што зараз рыхтуецца. Заслаўю ж 1000 і 35. А кашталян менскі, падскарбі Вялікага Княства Літоўскага і многа яшчэ які ўраднік на нас пазірае праз стагодзьдзі хітравата, але з хітрынкаю добрай. 23.XII.2020 г.

НАПЯРЭЙМЫ

Ох, сам Ігар – кашталян.
Менскі? Мёрскі? Розны!
У Заслаўе гнаў з палян
ратнікаў завозных.
Сам Глябовіч /той, хто Ян / -
быў падскарбі грозны:
пад Заслаўем веславаў
ваяваў з адлігай…
Кандратовіч – раднік спраў -
стаў з ягонай кнігай:
падлічыў усе вякі:
д з е с я ц ь - шлях замалы, -
трэба, каб нелайдакі
разгарнулі шпалы…
Мёры, Друя і Дзісна
просяць прыпісацца

да заслаўскага звяна, -
жыць пачаць з абзаца.
Кандратовіч гукнуў: - Гой!
Буду я для іх дугой,
лейцамі, атосамі,
бо культурны горад мой
дружыць не з марозамі.
Каб абмыцца росамі, -
скарбавымі стосамі
стане векавой вагой
для А й ч ы н ы дарагой.

* * *

Гісторыка-культурны музей-запаведнік створаны 31.XII.1986 г. на базе гісторыка-археалагічнага запаведніка, заснаванага ў 1967 г.

У сярэдзіне 9-га стагоддзя тут узнікла крывіцкае паселішча, а ў 985 г. – крэпасць Ізяслаўль на гарадзішчы Замачак.

Ян Янавіч Глябовіч / 1544 – 1590 / - дзяржаўны дзеяч ВКЛ, вялікі падскарбі літоўскі, кашталян менскі / 1571—1585 /, абаронца Полацка / 1563 /.

Ігар Кандратовіч народжаны ў Мёрах 2.05.1996 г.

*Сяргей Панізьнік* 24.XII.2020

**Сяргей Панізьнік: Хто ахвочы, каб сустрэліся на Ўзвыссі?**
**Вочы – ў вочы! Сэрца – ў сэрца! Мыслі – ў мыслі!**

*Мы Айчыны сыны, мы сябры, грамада.*
*Свой пачэсны пасад зноў любоў адшукала.*
*Хай жыве Беларусь – як агонь, як вада!*
*У адвечнай хадзе Беларусь і Купала.*
*/ З песні "З Купалам у сэрцы". Музыка Міколы Яцкова.*

Я, Сяргей, сын Сцяпана і Ганны-Нюры, нарадзіўся 10 мая 1942 года ў в. Бабышкі побач рэчкі Волты. Двойчы ратаваў сваю сям"ю ад вывазу ў Нямечыну. Першы раз солтыс Шадурскі пазначыў у загадзе, што мама мая – цяжарная. Высылку адмянілі. Другі раз Шадурскі сцвердзіў, што народжаны ў Панізьнікаў сын цяжка хворы. Так вось партызанская сям"я не пацярпела. А выжыць пры акупацыі пад прыцэламі паліцыі, самааховы, галодных і халодных партызанаў было цяжка.

У бедныя пасляваенныя гады сям'ю ратаваў агарод, пасоленыя для прадажы вялізныя агуркі: семкі мама абмяняла ў 1943-м у пажылога немца з Дрысы на сала і яйкі. Дапамагала нам родненькая суседачка Альжбета Фролаўна Панізьнік. Гэта яна прыняла мяне на свет /бабіла – пупок адразала/. Ад яе прыходзілі да мяне такія словы: гамэрня – грамада, кукекаць – размаўляць, паджулябаць – перакусіць, дукрыць – кеміць, выранджацца – крыўляцца, дундзець – гаварыць неразборліва, разжагерыцца – шырока расставіць ногі / г – узрыўное /…

Запомнілася, як яна мяне "гаршка насіла". Падсаджвала на карак / на шыю /, топала, трымаючы мяне за ножкі. І я з вышыні сваім "гаршком" у неба ўпіраўся.

*Не змену пакаленьняў – змену варты*
*Любоў праводзіць на мацерыку.*

Бабуля Альжбета, 1886 года нараджэння, гадавала сваю стогадовую маму. Запомніў яе імя: Сцепаніда. Дазнаўся і пра такое дзіва: яна захавала ў сябе ўніяцкую веру. Апраўдавалася так: "А веру мяняць – грэшна".

Вельмі шанавала сваю веру мая мама Ганна, якую Нюрай называлі. Помню, як мяне вадзіла за 5 вёрст у Лявонпаль адбыць Вялікодную ўсяночную, яйкі асвяціць ранкам. Яна нарадзілася на Грамніцы – у лютым 1914 года ў сям'і Ганэты Анупрэеўны і Рыгора Іванавіча Селюна, які служыў садоўнікам ажно ў Царскім Сяле. Ён быў вымушаны ў 1917 годзе з галоднага Петраграда адправіць сям'ю на радзіму жонкі.

У нас у хаце стаялі кросны: мама ўмела ткаць каштоўныя посцілкі. Дазнаўся я, што майстра, які наладжваў кросны, называлі так: панізь. Панізьнікаў па ўсіх аколіцах жыло многа. Але пазней быў я агаломшаны і такім адкрыццём у Сеціве. Імя прапаведніка-францысканца ў манастырскай кнізе горада Шырокі Брієг (Боснія і Герцагавіна) было пазначана так: sv. Poniznik iz Kalabrije, franjevac, cudotvorac (1582 – 1637). Служылі калісьці прапаведнікі-францысканцы і ў нашай Дзісне, можа і перанеслі прозвішча цудатворца як рэлігійную мянушку і на берагі ракі Волты. Я перапісваўся з Эвай Панізьнік з Гданьска, Жанна Панізьнік мне званіла з Краснаярска…

Разбегліся Панізьнікі па свеце, як па садзе.

*Адны на волі лісцікі,*
*другія пры пасадзе.*
*… Няхай глядзяць капрызнікі*
*на нашы амулеты…*
*Мы, смелыя Панізьнікі,*
*яднаем кантыненты.*

\- * -

Мой бацька Сцяпан, народжаны 13.01.1905 года, у калгазе імя Чапаева коней пасвіў. Ахвотна дапамагаў яму. Пры вогнішчы чытачу адной кніжкі на дзень не хапала…

Я вельмі ўдзячны сястрыцы Ніне, народжанай 21.XI.1933 года. Яна, Ніна Янсанэ, стала перакладчыцай на беларускую мову некалькіх тамоў латышскіх пісьменнікаў, пачынаючы ад Яніса Райніса. Рыжанка з 1951 года аднаго разу мне напісала: “Я добра помню свой мацярык: там сонца па зямлі хадзіла”.

У маім маі 1942 года скрыжніца па Волце ішла, успол вады яшчэ не пачынаўся. Таму бацька пры выпадку з тых часоў паўтараў: “Май – каню сена дай, а сам на печ уцякай”. Парады сваіх бацькоў чуў ад рання да вечара і асабліва пры развітанні: “Еш, пакуль рот сьвеж!”, “Ня лезь на лес!”, “Не маніся, а Богу маліся”, “За грошы будзеш харошы”, “Грэх у мех і сам наверх”, “Жыць – не мяшок шыць”, “Хто мяняе, па тым хамут гуляе”…

\- * -

Як мяне называлі ў сям’і? Сведчыць адно з пажаданняў сястры Ніны: “Сярожка! Каб сьвяцілася, цёпла грэлася! Каб жылося-былося, весялілася! Каб вялося і пілося, смачна елася і яшчэ больш хацелася!” У цеплыню роднай сядзібы да мяне, мальца

падрослага, упляталіся маліцьвенныя словы Косьціка Адамовіча: “Хрыстос радзіўся – Бог ваплаціўся…”. Да сённяшняга дня не забыўся, як маленькая Каралінка пад вакном спявала рытуальную песню “Алялюя!”

*Гартайце старажытныя пісьмёны,*
*Шукайце нашы даўнія імёны.*
*Паўлінка, Каралінка і Параска:*
*Народнае імя – нібыта казка.*

- * -

Мой клопат і доўг перад Вялікароднай Віцебшчынай – штодзённы. Пасля Бабышак, Лявонпаля, Мёраў – Полацак стаў маёй сталіцай. Таму я ніколі не змагу назваць мясціну майго нараджэння “малой радзімай”. Яна была ў мяне і ёсць - толькі вялікая, толькі высокая і глыбінная.

У 1949 годзе я пайшоў у першы клас Латаўшчынскай пачатковай школы. Роза Уладзіміраўна Шкель і яе муж Аляксей Уладзіміравіч /шкель па-латышску – скіба / былі маімі настаўнікамі. Вялізны клас, чатыры шэрагі партаў. З радасцю выбягалі на ўрокі фізкультуры. Пасярод пляца – бум. Па двое мы павінны былі на высокім буме прайсці адзін другому насустрач. Асцярожненька хачу размінуцца з Марыяй Шук. Іскры ў вачах ад прытулення… Пазней я апазнаў тое пачуццё, паўтарыўшы параду, як трэба жыць: “Вочы – ў вочы! Сэрца – ў сэрца! Мыслі - ў мыслі!”

У чацвёргым класе была ў нас новая настаўніца. Запомніліся яе ўрокі спеваў. У калгасе імя Чапаева мы павінны былі і песню пра Чапаева умець спяваць. Пачынаю: “Гулял по Уралу Чапаев-герой. Он соколом рвался с полками на бой…” Пачынаю другую: “Броня крепка и танки наши быстры…” Лепш атрымліваецца. Але настаўніца здзеквалася з мяне за неправільнае вымаўленне імя: “Дуня-тонкопряха…”

Сястра Ніна расказала, што ў вёсцы Латышы школа дзейнічала і ў гады вайны. У 1943 годзе яе вучыў настаўнік Янка Манета. Яго вучні мусілі напамяць вывучыць паэму Якуба Коласа “Новая зямля”. Урыўкі з гэтага твора Ніна прыгадвала і праз дзесяткі гадоў. У 1944 годзе Янка Манета пры партупеі, на кані пад’ехаў да нашага дома развітацца. Запытаўся ў мамы, ці засталіся жывымі яе браты. А прадставіўся так:” Я – камісар, палкоўнік Пархоменка”.

- * -

*Памяць стане мне каронай,*
*а жывіца – абаронай*
*ад слязіны неўгамонай.*
*Цешыўся я не адной –*
*кожнай школьнаю вясной.*

Многае я пераняў ад мамы. Яна ўмела перагуквацца з кнігаўкамі, жаўранкамі. Калі яны выляталі з яшчэ халоднай пуні, дзе вілі свае гнёзды, шчабяталі над самай галавой, а мама пераймала іх "песні": "Былі пунікі-прыпунікі паўню-ю-сенькі. Прыляцелі, паглядзелі – нічагу-у-сенькі…"

У тыя гады душа ўбірала ўсё, што гудзела, звінела, бруілася, журчэла, трымцела… Я ладзіў самаробныя цымбалы, спрабаваў іграць на гармоніку-хромцы польку і вальс...

У 1947 годзе ў Бабышкі завітаў бацькаў брат Віктар – былы абаронца Сталінграда, штурмавік Берліна. За гады вайны прызабыла яго сібірская жонка. Вярнуўся на радзіму. Гляджу на ўзнагароды маркотнага дзядзі Віці і шапчу: "Далі медалі, а хлеба не далі". А вось больш упэўненыя рыфмы ўзлезлі са мною на каня, калі я пасвіў калгасны статак. Запісаў:

*"18. 08.1956 г. паявіўся верш пра Гамаля Абдэля…"*
*Египет! О, Египет, ты пламенем объят.*
*Штурмуют твои бастионы. Англичане кричат…*
*…Здравствуй, наш гордый Насэр!*
*Как видно, тебе не в руку.*
*Сплоти ты вокруг народы, и дай ты отпор врагу.*

- * -

Бібліятэкі былі ў Латышах, у Даўгінаве. Але амаль усе кнігі на рускай мове. У спецыяльным сшытку знайшоў і такі запіс: "А. Кулешов. "Только вперёд".

17-гадоваму вучню Лявонпальскай сярэдняй школы было даручана напісаць бадзёры верш для фестывальнага свята ў калгасе імя Чапаева. Верш "Фестивальный праздник" быў напісаны 14.07.1959 г., а надрукаваны ў газеце "Зара камунізма" Мёрскага раёна 18.07.1959 г. А 18 жніўня раёнка надрукавала мой

верш “Два каласы”. Байка была напісана 23.07.1959 г. Гэтым творам адкрываецца мой зборнік “Нас – многа! Гадоў увершаваныя радкі” /Мінск. “Тэхналогія”. 2012 г./

**Два каласы (байка)**

*У нейкім полі жыта спела.*
*Тут сонца поўднем моцна грэла,*
*І нават ветрык не дыхнуў,*
*Ні адной былінкі не крануў.*
*Два каласы, што ў гэтым полі*
*Жылі на сонцы і на волі,*
*Суседзьмі лета ўсё раслі,*
*Размову ціха пачалі.*
*Адзін з іх жоўты і вусаты,*
*Вагой сваёю цяжкаваты.*
*Другі – пусты, ні даць, ні ўзяць -*
*Ён стаў суседа распякаць:*
*- Чаго, калоссе, схіліў голаў?*
*Нягожа тварам глядзець долу.*
*Вось бач, як я, за ўсіх вышэй -*
*Спявай, красуйся, харашэй!*
*Жніво пакуль яшчэ надыдзе,*
*Пражыць ты слаўна можаш тыдзень.*
*Прыдзецца доўга потым спаць.*
*А тоўсты колас змог сказаць:*
*- Што ж, весяліцца для карысці,*
*Для справы – так! Якое ж выйсце*
*Ты знойдзеш для сябе, мой брат?*
*Бо, бачу я… ты без зярнят.*
\+ + +
*Гаворыць пышна і без стомы,*
*Але ж ён сам – адна саломы.*

\- * -

А для дзетак мною былі выдадзены такія зборнікі: “Адкуль вясёлка п”е ваду” /1981/, “Жыцень” /1986/, “Мы – грамацеі!”/1989/, “Золкая зёлка” /1999/, “Літары ў расе” /2011/, “Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў” /2016/. Да прыкладу, у зборнік “Мы – грамацеі!” уваходзілі вершы-усмешкі, вершы-пацешкі, прыбабунькі, скорагаворкі. Наклад – 40 000 асобнікаў. А вось верш “Запрашэнне на гасціну” у зборніку “Золкая зёлка” рэдагавала Зоська Верас /1892—1991/. Пачынаецца ён так:

*На стальніцы – густа:*
*Зайцава капуста,*
*Мядзвежыя вушкі,*
*Лапкі пятрушкі,*
*Шчавель вераб'іны,*
*Сэрцайка каліны…*

Там можна прачытаць пра зямлю Еўфрасінні, пра святы Стрэчанне, Звеставанне, пра запаветы Скарыны… Гэта ўсё - з паліцы Княства кніжнага "Юнацтва". Лепшыя гады майго творчага жыцця прайшлі ў выдавецтве "Юнацтва". А калі сёння чытаць "Звесткі пра аўтара", то там зноў узгадаю, што друкуюся з 1959 года, у Саюзе беларускіх пісьменнікаў з 1967 года. Выпусціў 11 зборнікаў паэзіі /пра кнігі для дзяцей ужо распавёў/. Помніцца дзіўная згадка мамы: "Калі ты нарадзіўя, за Дзвіною гарэла неба…" Так, там пачыналася карная экспедыцыя на Асвейскі партызанскі край. Пра ацалелых вязняў канцлагера Саласпілс мною былі напісаны 4 кнігі народнай памяці. Вось чаму для новых сустрэч з ацалелымі асвейцамі , "дзецьмі вайны" і быў створаны ў Цінкаўцах пад Бігосавам музей "Хата бабкі Параскі на Шляху з грэкаў у варагі" /1979/.

З маіх творчых напрацовак укладальнікам кніг назаву 10 выпускай гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына" /1990 –2002/. Для серыі "Школьная бібліятэка" уклаў зборнікі, прысвечаныя М. Багдановічу, Ф. Скарыну, К. Каліноўскаму, Янку Купалу і Якубу Коласу.

У 1999 годзе ганаровы грамадзянін Асвеі ў родным Лявонпалі заснаваў Музей радзімазнаўства. А з узнагародаў варта адзначыць і такое: я кавалер ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі.

У зборніку "Дабравест. Песні на словы Сяргея Панізьніка" /2006/ змешчана песня Ірыны Салаўёвай з эпіграфам: "(Уваскрослы) …Ісус спаткаў іх і сказаў: радуйцеся! … не бойцеся… Паводле Мацвея св. Евангелле 28.9-10)". Вось і мая такая парада ўсім нам – жывым Промням і Струнам роднага беларускага мацерыка:

Радавацца і не баяцца
З Дабравесця і шлях, і лёс:
Да святога ідзём Палаца.
Запаведваў братам Хрыстос
Радавацца і не баяцца.
　　　　На шляху – Беларусі гмах.
　　　　Узнадзеіцца наша праца, -

Адгукнецца ва ўсіх дамах:
“Радавацца і не баяцца”.

Да збавення прызваў Вястун:
Будзем смеласцю гадавацца.
Уваскрэсла сугучча струн:
Радавацца і не баяцца!




*Маленькая дзяўчынка — мая мама.*
*На здымку 1914 г. яна з бацькамі ў Пецербургу*



*На карціне Аляксандра Аніськовіча ў першапачатковым выглядзе царква ў Лявонпалі: у ёй я прымаў хрост у траўні 1942 г. Хросным бацькам быў мястэчковы фельчар Леў Іванавіч Кураш*



*Вучань Лявонпальскай дзесяцігодкі.*
*На малюнку аднакласніцы Галіны Місьнік, 1958.*



*А пачынаў школьную адукацыю ў суседняй з Бабышкамі вёсцы Латышы. Мае настаўнікі Роза Уладзіміраўна і Аляксей Уладзіміравіч Шкель запрасілі 21.05.1951 г. 20 сваіх вучняў; я– сяджу крайні справа.*




*Пісьменнік Алесь Бачыла падарыў сваё «Юнацтва» будучаму фельчару, юнаму паэту Сяргю 14.X.1961*



*А мяне ў Магілёўскім медвучылішчы навучалі і рэцэпты пісаць,*
*і маляваць, і вершы са сцэны чытаць*




*“Пад ясну зарыцу!” – засведчанае духоўнае багацце суайчыннікаў.*
*На здымку – мая сядзіба-дабравест.*

*Сяргей Панізьнік*

………………………………………………………………

**Sergei Paniznik: New materials of the famous Belarusian poet** include folklore recordings "There the Sun walked on the Earth", poetic notes "Kalina-malina, my berry ...", and "Tight arc of courage", as well as bibliographic records with photographs "Who wishes. ..? "

***(web-magazine " Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 209-234, www.sakavik.net)***

**Сергей Панизьник: Новые материалы известного беларусского поэта** включают фольклорные записи "Там Солнце по земле ходило", стихотворные заметки "Калина-малина, ягодка моя...", и "Тугая дуга отваги", а также библиографические записи с фотографиями "Кто желает ...?"

***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 209-234, www.sakavik.net)***

**Ігар Пракаровіч: Раскозы**

**“ПАЛІ ЦЯПЕР У ПЕЧЫ…”**

Каля Варапаева ў 60-я гады вялася меліярацыя. Працавала даволі многа рознай тэхнікі. Аб’ём работы быў вялікі: стаяла задача асушыць і ўладкаваць балота, што цягнуліся ад Свініцы аж да Навасёлак. Працаваў там і вядомы ва ўсёй акрузе “чудзіла”, якога звалі Зэнусь. Быў у яго трактар з прычэпам і сувачом наперадзе.
Адзін чалавек з вёскі дамовіўся з Зэнькам, каб той прывёз яму дровы. Узгаднілі і цану. Яна задаволіла трактарыста і ён шукаў магчымасці закалыміць.

І вось аднойчы на панадворак заказчыка ліха заехаў бульдозер з прычэпам. Развярнуўся, падняў прычэп і высыпаў дровы. Трэба было разлічвацца.

Гаспадар палічыў, што мнагавата паабяцаў ён раней трактарысту за работу. Шкода стала грошай. Дровы прывезены, хопіць гэтаму Зэньку і паловы дамоўленай сумы. Адлічыў, падаў трактарысту. Той паглядзеў здзіўлена на гаспадара.

– Чаму так мала?
– Ды малавата ты прывёз. І дровы слабыя, бяроза толькі дзе-нідзе трапляецца…

Мужык хацеў і яшчэ штосьці сказаць, але Зэнусь злосна сплюнуў, сеў у трактар, развярнуўся і сувачом сапхнуў дровы ў сажалку. Дык каб жа толькі сапхнуў, а то і праехаўся па іх яшчэ некалькі разоў.
Гаспадар у адчаі мітусіўся вакол трактара і лямантаваў:
– Не рабі! Не рабі гэтага! Я заплачу!
– Раней плаціць трэба было! Палі цяпер у печы!
Трактар рвануў з месца і парожні прычэп гулка забразгатаў па дарозе…

**КАВАЛЬСКАЯ ПІЛКА**

Жыў у нашай мясцовасці пасля вайны ветырынарны доктар. Было ў яго два сыны, крыху старэйшыя за мяне. Дык мы і яшчэ хлопцы гулялі разам у розныя гульні,

прыдумлялі што-небудзь. Ну, вядома ж, дзеці. А тады, пасля вайны, пазаставалася многа living розная зброі, патронаў, якія мы час ад часу знаходзілі.
І вось неяк аднаго разу, гуляючы ў лесе, знайшлі баявую стрэльбу. Цэлую, непаржавелую. Толькі з надта доўгай руляй. Старэйшыя хлопцы падказалі, што варта было б адпілаваць, каб зрабіць абрэз. Але для гэтага трэба мець кавальскую пілку – адмысловую пілку па метале, якой звычайна карыстаюцца кавалі. Ды дзе ж яе ўзяць пацанятам? Няма дзе…

Ды ў хуткім часе нібыта падвярнуўся спрыяльны выпадак.
Неяк таму ветурачу наказалі, каб пад’ехаў на хутар да Кавальскіх – у іх захварэла скаціна. Ну той і выправіўся, вылячыў кароўку. А гаспадар, ведаючы, што доктар любіць займацца садоўніцтвам, мае ладную колькасць пладовых дрэў, падарыў яму добрую пілу-нажоўку.

Прыехаўшы дадому, ветурач праверыў падарунак у справе і застаўся вельмі задаволены. Пілка была лёгкая, вострая, рэзала мякка, без напругі.
Вечарам, за сямейным сталом гаспадар пахваліўся, што атрымаў ад Кавальскіх у падарунак вельмі добрую пілку.
Пры словах “Кавальскія” і “пілка” хлопцы навастрылі вушы. Гэта ж тое, што як раз трэба!
Назаўтра, счакаўшы, пакуль бацька паедзе на працу, падаліся яны ў паветку, дзе захоўваліся розныя прылады і начынне. На сцяне на цвячку вісела адмысловая нажоўка. Браты знялі яе і хуценька накіраваліся ў лес, дзе ў схованцы ляжала стрэльба. Па дарозе да іх далучыўся і я з сябрам.
У лесе мы дасталі з тайніка стрэльбу, паклалі яе на вялікі сасновы пень і, прытрымліваючы, па чарзе пачалі шмараваць па рулі нажоўкай. Выступаў пот, балелі рукі, а на метале з’явіліся толькі драпінкі. Нажоўку ж зашмаравалі да палатна. Няма рады! Што ж рабіць? Занеслі браты пілку ў паветку, павесілі на цвячок, дзе і вісела.
І што? Запомнілася нам тая “кавальская пілка” на ўсё жыццё. І я, і мае сябры тыдзень не маглі сесці – бацькоўскія дзягі правялі суровыя ўрокі выхавання…

**ТРАКТАРЫСТ ЛЯКСАНДРА**

Працаваў я неяк у маладосці ў меліярацыйнай брыгадзе. Асушалі балоты. І рабіў у нас трактарыстам такі Ляксандра – харошы, вясёлы чалавек, але моцна любіў выпіць. І не каб дзень, а то дні тры-чатыры на работу не выходзіў. Але яго не выганялі, бо працаўнік быў удалы. Начальства ведала, што ён усё адно ўсіх дагоніць і перагоніць.

Дык вось з ім адбыўся такі выпадак. Працавалі мы на балотах каля Рагязоўкі. Невялікая такая вёсачка, але з магазінчыкам. Аднойчы мясцовыя вясковыя бабы сабраліся каля крамкі, чакалі, калі прывязуць свежы хлеб. Ну і тут як раз ідзе да магазіна той Ляксандра. Гразнаваты, крыху абарваны, пантофлі падраныя, хістаецца. Ну а бабы між сабой і гавораць: “Во, п’янюга ідзе. Пэўне ж будзе гарэлку браць. Лепш бы сабе абутак купіў, а то войкі ходзіць”.
А Ляксандра гэта ўсё чуў. Зайшоў ён у магазін, набраў многа бутэлек віна. Выйшаў, агледзіўся. Падыйшоў бліжэй да жанчын, што сядзелі на лаўках, паставіў нагу на калодку, адкаркаваў бутэльку, паліў віном спачатку на адну пантофлю, потым на другую.
А бабы глядзяць вылупіўшыся! Што ж далей будзе?
Дастаў потым той Ляксандра з кішэні пяць рублёў – на той час гэта былі вялікія грошы, буханка хлеба каштавала 14 капеек! – выцэр той “пяцёркай” свой абутак, скамячыў яе і кінуў пад ногі жанчынам. Потым падміргнуў ім, ганарова ўзняў галаву і, пасвістываючы, накіраваўся да свайго трактара.

## АЛЁШКА І ВЕЖА

У адной вёсцы непадалёку ад Старога Двара жыў такі Алёшка, як яго звалі. Неблагі хлопец, але зусім несур’ёзны. Па глупстве ў турме сядзеў, выпіць любіў. Вярнуўшыся дамоў, ажаніўся, уладкаваўся рабіць на ферме. Ну не зусім на ферме, а аператарам воданапорнай вежы. Ён напампоўваў туды вады, а яна потым цякла на кароўнік. Але гэты Алёшка быў да работы абыякавы, адказнасці не меў аніякай. Калі накачае вады, а калі, як нап’ецца, то і не.
Дык вось аднойчы зімой прыціснулі маразы. Гэты Алёшка і не дагледзіў, бо быў п’яны. Замерзла вада ў вежы. І зверху на ёй наледзь, і з бакоў. Надзвычайнае становішча – “не шуцейнае дзела”! Каровы паіць трэба, а вады няма. Далажылі начальству, старшыні калгаса, выклікалі рамонтную брыгаду. Пакуль “запрошаныя” збіраліся і былі дзесьці ў дарозе, некалькі мясцовых хлопцаў – работнікаў фермы, купілі віна, залезлі навех вежы і пачалі баляваць, паглядаючы з вышыні, ці едзе начальства.
Тым часам да вежы, хістаючыся, падыйшоў Алёшка. Тут трэба сказаць, што ён з маленства баяўся верхатуры: у яго ішла кругам галава, калі глядзеў уніз.
– Алёшка, глядзі, што ў нас ёсць! – крыкнуў з вежы адзін з хлопцаў і паказаў бутэльку віна. Гэта была вялікая спакуса. І хоць ужо пад’ехала рамонтная брыгада, якая пачала абкладаць вежу старымі аўтапакрышкамі, каб запаліць іх і растапіць лёд. Алёшка ўсё ж адчайна палез па металічных скобах-прыступках уверх. Мэта і жаданне былі мацнейшыя за ўсе страхі.

Узлез. Далучыўся да балявання. Выпіў з іншымі. І тут нехта з хлопцаў заўважыў удалечыні машыну.

– Мужыкі, мусіць старшынёўскі “казёл” пхнецца. Трэба злазіць.

Алёшка, як толькі падыйшоў да краю вежы, то ледзь не самлеў. Закружылася галава і ён прысеў.

– Хлопцы, ратуйце! Разаб’юся…

Што ж рабіць? Як начальства прыедзе, дык яшчэ больш праблем будзе. Трэба ж неяк спусціць на зямлю чалавека.

Падказалі і дапамаглі мужчыны з рамонтнай брыгады. Яны падалі на вежу нейкі халат і доўгую вяроўку. Алёшку тым халатам абкруцілі галаву, каб нічога не бачыў, а пад пахі адвязалі вяроўкай. І пачалі спускаць. Алёшка дрыгаў нагамі, лаяўся, але на зямлю вярнуўся хоць і п’яны, але цэлы.

Калі пад’ехала начальства, нецвярозая каманда стаяла, хістаючыся, ганаровай вартай каля вежы і карцінна патупіўшы вочы цярпліва чакала пакарання “за дапушчаныя пралікі ў рабоце”.

*Abstract*

**Igar Prakapovich: Four stories from the life of Belarusian peasants.**
***(web-magazine “Kultura. Natsyja”, issue 27, April 2021, 235-238, www.sakavik.net)***

*Резюме*

**Игорь Прокопович Четыре рассказа из жизни белорусских крестьян: ПАЛІ ЦЯПЕР У ПЕЧЫ…, КАВАЛЬСКАЯ ПІЛКА, ТРАКТАРЫСТ ЛЯКСАНДРА, АЛЁШКА І ВЕЖА.**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 235-238, www.sakavik.net)***

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

*Матэрыялы, прысвечаныя Дню Волі-2021*

*Рэдакцыя атрымала інфармацыю ад сяброў Атаўскага аддзела ЗБК і Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе аб тым, як яны святочна адзначылі Дзень Волі.*

На працягу аднаго тыдня прайшлі тры падзеі:

**22 сакавіка 2021 года** - Стрым і канцэрт онлайн (гл.праграму ніжэй) відэо: https://youtu.be/cJ9sgo-aeUQ

**25 сакавіка 2021 года** - Мітынг на Дзень Волі праходзіў у цэнтры Атавы каля помніка за правы чалавека:
фотаздымкі: https://photos.app.goo.gl/tofMBvmyztzgJPbd6
відэо: https://www.youtube.com/watch?v=YFqOcNPPfaE&t=4s

**27 сакавіка 2021 года** - Мітынг у падтрымку беларускай Рэвалюцыі надзеі 2020 https://youtu.be/HYqVYJKLci8

Відэо і фотаздымкі Алеся Каралькевіча

…………………………………………………….

**Праграма на 21 сакавіка 2021 года**
ДЗЕНЬ ВОЛІ 2021 - СТРЫМ І КАНЦЭРТ
НЯДЗЕЛЯ 21 САКАВІКА 2021
Пачатак 13:00 (атаўскі час), 20:00 (менскі час)

Шаноўныя сябры! Запрашаем!

УДЗЕЛЬНІКІ

- Івонка Сурвіла - Старшыня Рады БНР
- Ганна Севярынец - беларуская выкладчыца, журналістка, пісьменьніца, дасьледчыца беларускай літаратуры
- Сяргей Навумчык - намесьнік Старшыні Рады БНР, беларускі палітык, журналіст

- Уладзімер Арлоў - беларускі гісторык і пісьменьнік, аўтар знакамітага эсэ "Незалежнасць - гэта..."
- Віктар Шалкевіч - беларускі актор, бард, паэт
- Зьміцер Вайцюшкевіч - беларускі музыка, сьпявак
- Сяржук Сокалаў-Воюш - беларускі бард, журналіст, пісьменьнік

А ТАКСАМА

- Крэатыўныя і дружныя беларускія суполкі з розных куткоў Канады

Падчас сьвяткаваньня мы будзем размаўляць аб вытоках сучаснай беларускай дзяржаўнасьці, аб выбітных асобах бацькоў - заснавальнікаў БНР і аб надзвычайным духоўным уздыме беларускай нацыі напачатку 20-га стагоддзя. І абавязкова сустрэнем надыход Дня Волі песьнямі любімых беларускіх бардаў!
Падтрымаць данатам сем'і беларускіх гурояў:
Canada: interac to mail@belarusian.ca, comment= "Dzen Voli"
Worldwide: PayPal.me/BelarusianCanada

**Пётра Мурзёнак Мітынг у падтрымку беларускай Рэвалюцыі надзеі 2020**

*(цэнтр горада – галоўны парк - Major Park, 27 сакавіка 2021 года, Атава)*

*(тэзісы для выступленьня)*

1. Сьвяткуем Дзень Волі, які ўмяшчае два сьвяты – Дзень абвяшчэньня БНР і цяперашнюю Рэвалюцыю надзеі.
2. БНР, незалежнасць якой была абвешчана 25 сакавіка 1918 года, існавала на працягу ўсяго аднаго года, ва ўмовах нямецкай акупацыі. Гэта была не ў поўнай ступені сьпелая дзяржава – нямецкія акупацыйныя ўлады не дазволілі ўрадам БНР, якіх было 4 за адзін год, мець свае войска, банкі. Аднак, за гэты год было шмат зроблена для развіцьця адукацыі-школьніцтва і беларускай культуры.
3. Менавіта дзякуючы існаваньню БНР, і яе ўраду, які дзейнічаў пачынаючы з 1919 года за мяжой, бальшавікі пайшлі на стварэньне БССР.
4. Пачатак маладой дзяржавы, БССР, нават ва ўмовах савецкай сістэмы, быў спрыяльным для нацыянальнага будаўніцтва. На пачатку 20-га стагоддзя, у 20-я-30-я гады былі створаны такія нацыянальныя інстытуцыі як Беларускі універсітэт, Беларускі інстытут культуры, развівалася адукацыя, выдавалася шмат беларускіх падручнікаў, слоўнікаў, беларускіх газет.
5. Аднак, перыяд нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў СССР змяніўся на будаўніцтва камунізма і сусветную рэвалюцыю. Змена курса вылілася ў знішчэньне

нацыянальных кадраў па ўсіх акраінах СССР. Беларусь не была выключэньнем. Звярніцеся толькі да інфармацыі, якую адкрыў Леанід Маракоў. Падчас рэпрэсій былі закатаваны\забіты амаль усе выбітныя дзеячы БНР, якія засталіся працаваць у савецкай сістэме: старшыні Оады БНР, Іван Серада, Язэп Лёсік, кіраўнікі ўрадаў БНР – Раман Скірмунт, Антон Луцкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Цвікевіч. 29 кастрычніка 1937 года – ў адну ноч ў засценках НКВД вынішчаны беларускія паэты. Сяргей Ігнатавіч Мурзёнак, брат майго дзеда – арыштаваны ў жніўні, растраляны 17 лістапада 1937 года.

6. У гісторыі Беларусі было яшчэ шмат чаго – індустрыялізацыя, калектывізацыя, пяцігодкі, 2-я сусветная вайна. Беларускі народ нёс страты, але ў цывілізацыйным плане меў і значныя дасягненьні, калі ацэньваць граматнасць насельніцтва, развіцьцё сістэмы адукацыі, і гэдак далей; вядома, з улікам эвалюцыі усяго чалавецтва ў цэлым. Адно чаго не было, гэта палітычнай і нацыянальнай свабоды.

7. Надзея, што адбудуцца істотныя змены прыйшла з развалам СССР. Пачатак 90-х гадоў зноў паказаў, што беларуская нацыя падымаецца з кален і пачынае расквітаць. Аднак, з прыходам кіраўніка нео-савецкага тыпу, А. Лукашэнкі, пачаўся і доўжыцца ўжо чвэрць стагоддзя несспрыяльны перыяд для развіцьця беларускай нацыі.

8. Рэферэдумы 1995 і 1996 гадоў, ініцыяваныя гэтым дзеячам, у значнай ступені падарвалі надзеі нацыянальна-свядомых сіл на нацыянальнае адраджэньне.

9. Я зараз вам прачытаю верш “Сакавік” напісаны 28 сакавіка 1997 года пасля чарговага Дня Волі, у якім я ўдзельнічаў. Я спадзяюся, вы адчуеце настрой таго перыяду, перыяду з якога пачалося будаўніцва так званай Саюзнай дзяржавы:

САКАВІК

Здаецца стукала вясна

І сонца грэла ўсё мацней

А сёння зноў прыйшла зіма

Ад сцюжы стала халадней.

Надзея бліснула была

І адыйшла зноў на вякі

Нядзеля толькі і прайшла

А быццам сем гадоў якіх.

Не дазваляе яшчэ лёс

Цяпло вясенне пачуць

Не пераскочыць праз сто вёрст

Не усведаміўшы – не ўздыхнуць.

І хоць што хочаш ты рабі

Прасі у Бога, ці малі

А лепш за ўсё браток цярпі

Нам трэба выжыць на зямлі.

Сцярпець, а потым і ўзмацнець

Пазнаўшы светлы далягляд

І з розумам сваю зямлю сагрэць

Гісторыя ня любіць хуткіх дат.

Прыгожа каб усім зажыць

Адчуць вясеннее цяпло

Душу нам трэба абудзіць

І запаліць у ёй святло.

Растае ўраз з снягоў сцяна

І расквітнее любы край

І вечна будзе тут вясна

Іграй, Сымоне ж, зноў, іграй!

*28 сакавіка (17.25-18.10) – 29 сакавіка (10.30-11.00) 1997 года, Мінск*

10. Будучае Беларусі залежыць ад людзей, якія жывуць на радзіме. Тое, што мы тут сёньня сабраліся, адлюстроўвае нашу салідарнасць і наш гонар за людзей, якія выходзяць на вуліцы нашай радзімы, каб дамагчыся змен да лепшага жыцьця – да дэмакратыі, да стварэньня сапраўнай нацыянальнай дзяржавы. Чым мы яшчэ можам дапамагчы? Думайце.

11. Сітуацыя ў Беларусі вельмі складаная. Рэвалюцыя надзеі, так я яе называю, яшчэ не скончылася. І магчыма толькі пачынаецца – пачынаецца да новага светлага дня ў гісторыі краіны з багатай спадчынай, культурай, і традыцыямі. Не выключаю, што змяніць негатыўны баланс сіл у сёняшнім палітычным крызісе ў Беларусі могуць беларусы дыяспары і беларускія дзеячы, якія вымушана і часова апынуліся за мяжой.

12. Каб скончыць на аптымістычнай ноце дазвольце прачытаць яшчэ адзін верш пра Сакавік, напісаны ў 2012 годзе і дапоўнены сёньня раніцай.

**НА САКАВІК**

Прыйшла чарговая вясна
І з ёю Сакавік вызвольны.
У промнях сонечнага дня
Ён песціць мару долі вольнай.

Праз пакаленьні і іспыт
Нясе Ён для людзей надзею –
Пасля ахвярнай барацьбы
У краі не гудзець завеям.

Ён прыйдзе ў родную зямлю,
Каб расквяціцца ў мілым краі,
Каб з гонарам прамовіў беларус
“Люблю
айчыну вольную,
душой яе чуваю!
Жыві свабоднай, Беларусь!!!”

*14 сакавіка 2012 - 27 сакавіка 2021 года, Атава*

**Са сьвятам! Жыве Беларусь!**

**Materials Dedicated to Freedom Day-2021 in Ottawa**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 239-244, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

Web-magazine received information from members of the Ottawa Chapter of Belarusian Canadian Alliance and Belarusian Institute of Arts and Sciences, Canada describing how they celebrated Freedom Day. Three events took place in the course of one week: March 21, 2021 – livestream and online concert (program attached). The link to video of the event: https://youtu.be/cJ9sgo-aeUQ; March 25, 2021 – Meeting on Freedom Day was conducted in the centre of Ottawa beside the Canadian Tribute to Human Rights Monument. Photographs at: https://photos.app.goo.gl/tofMBvmyztzgJPbd6; video: https://www.youtube.com/watch?v=YFqOcNPPfaE&t=4s; March 27, 2021 – Meeting in support of the Belarusian Revolution of Hope in 2020 including speech statements and two poems by P.Murzionak: https://youtu.be/HYqVYJKLci8. Video and photographs by Ales Karalkievich.
including

**Piotra Murzionka Speech statements and two poems during the meeting in support of the Belarusian Revolution of Hope-2020 (March 27, 2021; Ottawa)**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 240-243, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

**Материалы, посвященные Дню Воли-2021 в Оттаве**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 239-244, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***

Редакция получила информацию от членов Оттавского отделения Белорусско-канадского альянса и Белорусского института науки и исскуства, Канада, с описанием того, как они отмечали День свободы. В течение одной недели произошло три события: 21 марта 2021 - прямая трансляция и онлайн-концерт (программа прилагается). Ссылка на видео с мероприятия: https://youtu.be/cJ9sgo-aeUQ; 25 марта 2021 - митинг в День свободы прошел в центре Оттавы рядом с монументом «Дань уважения Канады правам человека». Фотографии: https://photos.app.goo.gl/tofMBvmyztzgJPbd6; видео: https://www.youtube.com/watch?v=YFqOcNPPfaE&t=4s; 27 марта 2021 - Митинг в поддержку Белорусской революции надежды-2020, включены тезисы выступления и два стихотворения П.Мурзёнка: https://youtu.be/HYqVYJKLci8. Видео и фотографии Алеся Каралькевича.

**Пётра Мурзёнак Тезисы выступления и два стихотворения во время митинга в поддержку Белорусской революции надежды-2020** *(27.03.2021, Оттава)*
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 240-243, [www.sakavik.net](http://www.sakavik.net))***







**Міжнародная канферэнцыя ў Варшаве па праблеме беларускай ідэнтычнасці**

1 красавіка 2021 года ў Варшаўскім універсітэце прайшла міжнародная *онлайн* канферэнцыя

“БЕЛАРУСКАЯ ІДЭНТЫЧНАСЦЬ: ДОСВЕД МІНУЛАГА І ВЫКЛІКІ СУЧАСНАСЦІ. ДА 30-ГОДДЗЯ АБВЯШЧЭНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ».

Канферэнцыя арганізавана кафедрай міжкультурных даследаваньняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Варшаўскага універсітэта. Суарганізатарамі канферэнцыі выступаюць БІНІМ, Н’ю-Ёрк і БІНІМ, Канада.

Канферынцыя, з дакладамі на якой выступяць каля 30 даследчыкаў, пройдзе пад пратэктаратам Рэктара Універсітэта і старшыні Рады БНР, Івонкі Сурвілла.

Старшыня БІНіМ у Канадзе, Пётра Мурзёнак выступіў на канферэнцыі з вітальнай прамовай і прэзентацыяй «Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе ў падтрымцы беларускай ідэнтычнасці».

Далучаем лінкі і праграму канферэнцыі.

Варшаўскі унівесітэт: www.ksi.uw.edu.pl

Канферэнцыя: Konferencje | KSI | Katedra Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej WLS UW

БІНІМ, Канада: www.binim.org

**Праграма**

8.00 – 8.30 Słowo powitalne dla uczestników konferencji / Павітанне ўдзельнікаў канферэнцыі

*Iwonka Surwiła, Przewodnicząca Rady Białoruskiej Republiki Ludowej Piotra Murzionak*

*(Białoruski Instytut Nauki i Sztuki w Kanadzie) Natalla Haradzijenka (Białoruski Instytut*

*Nauki i Sztuki w USA)*

*Ewa Żebrowska, Prodziekan ds. Naukowych Wydziału Lingwistyki Stosowanej Uniwersytetu Warszawskiego*

*Aleksander Kraucewicz (Centrum Studiów Białoruskich Studium Europy Wschodniej Uniwersytety Warszawskiego)*

*Zachar Szybieka (Uniwersytet w Tel Awiwie)*

*Joanna Getka, Jerzy Grzybowski, Katedra Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej Wydziału Lingwistyki Stosowanej, Uniwersytetu Warszawskiego*

8.30 – 10.00 Sekcja 1 / Секцыя 1

Tożsamość białoruska na obczyźnie / Беларуская ідэнтычнасць на чужыне. *"Не загаснуць зоркі ў небе..." (Янка Купала)*. Moderator / Мадэратар: Natalla Hardzijenka (Беларускі інстытут навукі і мастацтва)

Пётра Мурзёнак (БІНіМ у Канадзе, Атава). Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Канадзе ў падтрымцы беларускай ідэнтычнасці

Наталля Гардзіенка (БІНіМ у Нью Ёрку). Дзейнасць Беларускага інстытута навукі і мастацтва па захаванні і пашырэнні беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці

Сяргей Шабельцаў (Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт). Беларуская культура як элемент беларускай ідэнтыфікацыі імігрантаў у Аргенціне

Андрэй Буча (Мінскі філіял Расійскага эканамічнага ўніверсітэта імя Г.В. Пляханава). Культурна-асветніцкая дзейнасць беларусаў у міжваеннай Чэхаславакіі

Dyskusja / Дыскусія

10.00 – 11.40 Sekcja 2 / Секцыя 2

Białoruskie odrodzenie narodowe na początku XX wieku: idea a rzeczywistość / Беларускае нацыянальнае адраджэнне на пачатку XX стагоддзя: ідэя і рэчаіснасць. "*Загляне сонца і ў наша ваконца*". Moderator/Мадэратар: Aleksander Kraucewicz (Uniwersytet Warszawski)

Андрэй Чарнякевіч (Uniwersytet Warszawski). Рэспубліка на паперы: роля архіваў

БНР у фармаванні ідэі нацыянальнай дзяржаўнасці

Аляксандр Горны (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. Янкі Купалы). Канфлікт пакаленняў як фактар утварэння БНР у 1918 годзе

Антон Мірановіч (Uniwersytet w Białymstoku). Уплыў канфесій на фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў у XIX ст.

Аляксандр Пагарэлы (Instytut Slawistyki Polskiej Akademii Nauk). Вусная і пісьмовая культура беларуска-польскага памежжа ў 1860-1910-х гг. і праблема масавай рэцэпцыі дыскурса друку Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі на вёсцы

Viachaslau Shved (Uniwersytet Warszawski). Franciszek Bohuszewicz – ideolog białoruskiego ruchu narodowego?

Dyskusja / Дыскусія

11.40 – 13.10 Sekcja 3 / Секцыя 3

Kultura i polityka: w poszukiwaniu własnej tożsamości / Культура і палітыка: у пошуках уласнай ідэнтычнасці. *“Дык няўжо ж нам ніколі ня склеіць, ня сшыць Менск і Мінск – дзьве паловы сталічнай душы” (N.R.M.)*. Moderator / Мадэратар: Radosław Kaleta (Uniwersytet Warszawski)

Kamil Kłysiński (Ośrodek Studiów Wschodnich im. Marka Karpia) Współczesne stosunki białorusko-rosyjskie

Уладзімір Падгол (Грамадскае аб’яднанне “Інфармацыйныя і сацыяльныя інавацыі”). Двухстатуснае юрыдычнае існаванні РБ як перадумова зьнішчэння незалежнасці Беларусі

Андрэй Катлярчук (Södertörn University). Вайна сцягоў. Да гісторыі канфлікта вакол палітычных сімвалаў сучаснай Беларусі

Joanna Getka (Uniwersytet Warszawski). „Мы выйшлі на вуліцу знянацку так…”. Muzyka jako narzędzie budowania białoruskiej tożsamości oporu

Radosław Kaleta (Uniwersytet Warszawski). Język białoruski – stan obecny i perspektywy

13.10 – 13.40 Przerwa / Перапынак

13.40 – 15.10 Sekcja 4 / Секцыя 4

Wyzwania teraźniejszości: polityka i pamięć historyczna / Выклікі сучаснасці: палітыка і гістарычная памяць. *“Мой родны кут, як ты мне мілы” (Якуб Колас)*. Moderator / Мадэратар: Jerzy Grzybowski (Uniwersytet Warszawski)

Андрэй Любы (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт). Падручнікі па гісторыі Беларусі

як люстэрка фарміравання і эвалюцыі нацыянальнага гістарычнага наратыва ў 1990-ыя – 2010-ыя гады

Алена Любая (Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы). Змаганне з мінулым і змаганне за мінулае: адаптацыя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў культурнай прасторы і грамадскай свядомасці Беларусі ў XXI стагоддзі

Анатоль Вялікі (Uniwersytet Warszawski). Дакументы Вярхоўнага Савета БССР як крыніца вывучэння гісторыі Беларусі 1989-1996 гг.

Антон Доўнар (Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка). Рыма-каталіцкая царква ў Беларусі ў 1991 г. – пачатку XXI ст.

Дзіяна Радулевіч (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь). Сацыяльна-дэмакратычны саюз Рэспублікі Беларусь: станаўленне і развіццё

Dyskusja / Дыскусія

15.10 – 16.40 Sekcja 5 / Секцыя 5

Pomiędzy dwoma totalitaryzmami / Паміж двума таталітарызмамі. *“Край ты мой, край…” (Narodny Albom)*. Moderator / Мадэратар: Вячаслаў Швед (Uniwersytet Warszawski)

Daria Korotkova (Институт славяноведения Российской академии наук). Relacje kolonii białoruskiej z sowieckim poselstwem na Litwie w latach 1921-23

Jerzy Grzybowski (Uniwersytet Warszawski). Mniejszość białoruska na Łotwie wobec III Rzeszy i ZSRS w przededniu wybuchu i na początkowym etapie II wojny światowej

Андрэй Зінкевіч (Institut für Slawistik Universität Wien). Моўная ідэнтычнасць беларусаў у часы нямецкай акупацыі

Генадзь Семянчук (Uniwersytet Warszawski), Яраслаў Станкевіч. Канцэпцыя нацыянальнай гістарыяграфіі на старонках «Беларускай газэты» (ліпень 1941 – чэрвень 1944)

Аляксандр Гужалоўскі (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт). Фармаванне беларускага нацыянальнага пантэона ў гады хрушчоўскай адлігі

Dyskusja / Дыскусія

16.40 – 18.10 Sekcja 6 / Секцыя 6

Kulturowe aspekty białoruskiej debaty tożsamościowej / Культурныя аспекты беларускага дыскурса вакол ідэнтычнасці *А хто там ідзе? (Янка Купала)*. Moderator / Мадэратар: Андрэй Любы (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт)

Віктар Корбут (Uniwersytet Warszawski). Беларуская мова як фактар нацыянальнай ідэнтычнасці ў публіцыстыцы газет „Nasza Dola”(«Наша Доля») і „Nasza Niwa” («Наша Нива») у 1906–1907 гг.

Уладзімір Ляхоўскі (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт). Ад дзяржаўнага тэатра БНР да БДТ-1: гісторыя станаўлення беларускага прафесійнага тэатра ў 1917 – 1920 гг.

Andriej Moskwin (Uniwersytet Warszawski). Słuckie powstanie (1920) oczyma współczesnej literatury białoruskiej (na przykładzie powieści
„Niczyje” Andreja Fiedarenki)

Андрэй Мастыка (Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы). Беларускі студэнцкі саюз у культурна-асветніцкім жыцці Заходняй Беларусі (да 100-годдзя заснавання арганізацыі)

Dyskusja / Дыскусія

18.10 – 18.40 Prezentacja najnowszych wydawnictw naukowych poświęconych problematyce białoruskiej / Прэзентацыя найноўшых навуковых выданняў прысвечаных беларускай праблематыцы. Moderator / Мадэратар: Joanna Getka (Uniwersytet Warszawski)

Viachaslau Shved, Jerzy Grzybowski, Historia Białorusi od czasów najdawniejszych do roku 1991, Warszawa: Wydawnictwo Uniwersytetu Warszawskiego, 2020.

Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 2. Кн. 1. Укл.: Андрэй Буча, Аляксандр Горны. Мінск: Кнігазбор, 2021.

18.40 – 19.00 Podsumowanie obrad i zakończenie konferencji / Падвядзенне вынікаў і закрыццё канферэнцыі

**Добрай раніцы, паважаныя калегі!**

**Вітаю вас ад імя сяброў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе. Я сёньня раньняя птушка, як тут кажуць, early bird; у Атаве цяпер, дзве гадзіны - можна сказаць - раніцы.**

Мне вельмі прыемна сёньня далучыцца да людзей, якія прафесійна займаюцца пытаньнямі беларускай ідэнтычнасці. Хачу выказаць асаблівую ўдзячнасць рэктар(ат)у Варшаўскага універсітэта і кафедры міжкультурных даследаваньняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія зрабілі жэст добрай волі і знайшлі мэтазгодным запрасіць Беларускі інстытут навукі і культуры ў Канадзе ў якасці су-арганізатара канферэнцыі. Па-свайму статусу наш інстытут ёсць грамадскай установай і таму натуральна мы ўспрымаем гэтую роль як аванс на будучае.

Праблемы нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, якія былі і ёсць актуальнымі. Яны і будуць актуальнымі - да той пары, пакуль можна будзе сказаць – так беларуская нацыя ўсталявалася, усталявалася ў вольнай дзяржаве, незалежнай ад Еўразійскай цывілізацыі, пазбавіўшыся дыктатуры і знайшоўшы свой правільны шлях у сусвеце.

Пытаньне нацыянальнай ідэнтыфікацыі – ключавое для рэалізацыі нацыянальнай ідэі – канчатковым прадуктам якой і ёсць нацыянальная дзяржава. Пасля некалькіх істотных параз звязаных з будаўніцтвам нацыянальнай дзяржавы ў 20-м стагоддзі, беларускае грамадства ўсё яшчэ мае запыт на кансалідацыю, і, хачу падкрэсліць, не кароткачасовую, а доўгатэрміновую стратэгічную кансалідацыю розных яго слаёў, уключаючы навуковую супольнасць. Бо кансалідацыя палітычная ў стаўленьні да будаўніціва нацыі у значнай ступені не была рэалізавана як мінулай, так і сучаснай нацыянальна-сьвядомай элітай - і ў асноўным па прычыне палітычнай блізарукасці, адсутнасцьці як адзінства, так і выпрацаванай стратэгіі, а не толькі па прычыне рэпрэсіўнага ўплыву дыктатарскага рэжыму.

Калі праводзіць гістарычныя паралелі, то ў параўнаньні з нашымі самымі блізкімі суседзямі, Беларусь адстае ў сваім нацыянальным развіцьці. Гэта яскрава заўважна, калі зазірнуць на пачатак і на канец мінулага стагоддзя. Так, высілкі Іосіфа Пілсудскага, польскай эліты, а таксама Літоўскай Тарыбы, скончыліся станаўленьнем Польскай і Літоўскай дзяржаў; актыўнасць нацыянальных эліт вывела гэтыя краіны за межы ўплыву СССР-Расіі і далучыла іх ў ЕС і НАТО. Ні таго, ні другога нацыянальна-сьвядомыя сілы ў Беларусі не асягнулі – не маем асноўнага – па-сапраўднаму незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Прычын таму

шмат. Асабліва гэта заўважна сёньня – падчас Рэвалюцыя надзеі, як я яе называю. Адной з такіх прычын з'яўляецца тое, што беларусам пастаянна не стае волі і кансалідуючага цэнтра, які б мог стратэгічна вызначыць шлях па якому Беларусь магла б вызваліцца з-пад імперскіх аковаў суседа і з-пад савецкага мінулага, якім кіруецца дыктатар Лукашэнка.

Праграма канферэнцыі прадугледжвае разгляд пытаньняў ідэндыфікацыі беларусаў у тых ці іншых краінах як сёньня, так і ў мінулым. Відавочна, што праблема самаідэнтыфікацыі беларускіх эмігрантаў, улічваючы ассіміляцыю з насельніцтвам краіны пражываньня і іх канчатковае рашэньне эміграваць па той ці іншай прычыне, значна больш складанае, чым тая ж праблема на радзіме. Было б таксама цікава параўнаць і ацаніць магчымы уплыў дыяспары і саміх працэсаў ідэнтыфікацыі на сітуацыю ў Беларусі – **да** Рэвалюцыі надзеі, і **цяпер**, калі яна распачалася і працягваецца.

Было б цудоўна, калі б у выніку кансалідаванай навуковай думкі на сёняшняй канферэнцыі можна было атрымаць такія рэцэпты, якія б дапамаглі беларусам, 84.9% якіх вызначаюць сябе беларусамі на радзіме, прыйсьці да разуменьня сапраўднай, глыбіннай, існай нацыянальнай ідэнтыфікацыі, вырвацца з імперыі зла і выплысьці ў добрым нацыянальным здароўі на бераг дэмакратыі, жыцьця і гуманізму. Амаль 70 гадоў таму Чэслаў Мілаш пісаў пра характар дзеяў нацыянальных сіл ва ўмовах дыктатуры. З таго часу ў яго краіне і ў нашых суседзяў шмат чаго зьмянілася ў пазітыўным кірунку. На шляху да прагрэсу знаходзіцца Украіна, якую я кваліфікую, як нашага суседа па Заходне-рутэнскай цывілізацыі. Веру, што надзея на свой шлях застаецца і для Беларусі.

**Зычу ўсім удзельнікам плённай працы на канферэнцыі. Дзякую!**

*Пётра Мурзёнак, 1 красавіка 2021 года, Атава-Варшава*

**Пётра Мурзёнак: Беларускі інстытут навукі і мастацтваў, Канада ў падтрымцы беларускай ідэнтычнасці**
*Варшаўскі універсітэт, 1 красавіка 2021 года (даклад падаецца ў Power Point фармаце)*


UNIWERSYTET WARSZAWSKI




*Tożsamość białoruska: doświadczenia przeszłości i wyzwania teraźniejszości.*
*Z okazji 30. rocznicy uzyskania przez Białoruś niepodległości*
**Warszawa, 1 kvietnia 2021 r.**
*Беларуская ідэнтычнасць: досвед мінулага і выклікі сучаснасці.*
*Да 30-годдзя абвяшчэння незалежнасці Беларусі*
**Варшава, 1 красавіка 2021 г.**

***«Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Канада ў падтрымцы беларускай ідэнтычнасці»***
*доктар Пётра Мурзёнак*

## Падзякі

• Управа і сябры Беларускага інстытута навукі і мастацтва, Канада (БІНІМ, Канада) шчыра ўдзячны Варшаўскаму ўніверсітэту і кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы за запрашэньне прыняць удзел канферэнцыі і выступіць яе суарганізатарам

• Асабістая падзяка доктару Ежы Грыбоўскаму за супрацоўніцтва з нашым інстытутам і ўвагу да нашай установы

2

## Мэта выступленьня

- Даць кароткі аналіз выклікаў, якія стаяць перад інстытутам
- Азнаёміць з гісторыяй БІНІМ, Канада (1967 -2021)
- Паказаць, чым займаюцца сябры інстытута ў апошнія гады

## Выклікі, якія стаяць перад БІНІМ, Канада

- БІНІМ, Канада афіцыйна зарэгістраваная ў дзяржаве грамадская арганізацыя
- Актыўнасць сяброў інстытута, якіх налічваецца сёньня каля 20 чалавек, ажыццяўляецца ў адпаведнасьці са Статутам. Асноўная мэта інстытута - гэта збераджэньне і развіцьцё беларускай навукі і культуры, як за мяжой, так і па магчымасці на радзіме
- Базавымі для дзейнасці Інстытута з'яўляюцца дабрачыннасьць, ахвярнасьць і энтузіазм
- Валанцёрская праца ў інстытуце мае свае абмежаваньні
  - ✓ фінансавыя
  - ✓ адарванасьць ад каранёў і не дастатковыя сувязі з радзімай
  - ✓ многія з сяброў Інстытута ўваходзяць адначасова ў склад іншых беларускіх арганізацый

4

## Выклікі, якія стаяць перад БІНІМ, Канада

***(праблемы беларускай ідэнтыфікацыі ў дыяспары)***

- Канадыйскі ўрад праводзіць палітыку шматкультурнасці.
- Паводле апошняга Цэнзуса-2016, прыблізна 25.000 канадыйцаў ідэнтыфікавалі сябе беларусамі.
- Разлікі, праведзеныя мной паказваюць, што ў параўнаньні з краінамі-суседзямі Латвія, Літва, Польшча, Расія, Украіна, Эстонія), беларусы найменш актыўныя ў міграцыйным плане (за 20 год з 1991 па 2011 гг. з Беларусі ў Канаду выехала 134 чалавек са 100.000 насельніцтва Беларусі).*
- Паводле маіх разлікаў не больш 5% беларусаў да Рэвалюцыі надзеі 2020 былі схільны наведваць беларускія арганізацыі.
- Толькі 3.7% беларусаў-канадыйцаў у 2016г. выкарыстоўвалі дома родную мову.
- Праблема ассіміляцыі з масай насельніцтва.

** Пётра Мурзёнак Шляхі да беларускай нацыі. Мінск, «Кнігазбор» (2016):169-183.*

5

## З гісторыі БІНІМ, Канада*

- БІНІМ, Канада быў заснаваны 17 верасня 1967 года ў Беларускім рэлігійна-грамадскім цэнтры ў Таронта, спачатку як аддзел БІНІМ (ЗША).
- 7 лістапада 1968 г. было прынята рашэньне аб наданьні канадыйскаму аддзелу статуса самастойнага, незалежнага інстытута пад назвай БІНІМ, Канада.
- Старшыні Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе
  - ✓ 1968 - 1969 - доктар Вінцэнт Жук-Грышкевіч
  - ✓ 1969 - 1972 - доктар Ян Садоўскі
  - ✓ 1972 - 1974 - доктар Барыс Рагуля
  - ✓ 1974 - 2002 - магістр Івонка Сурвіла
  - ✓ 2002 - 2017 - доктар Зіна Гімпелевіч
  - ✓ З кастрычніка 2017 года - доктар Пётра Мурзёнак

- *Пётра Мурзёнак, Зіна Гімпелевіч "Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Канада ў 1967 -2019 гг." ЗАПІСЫ, 2019, №41, 313-326; «Культура, Нацыя», №25, красавік 2020: 32-46.*

6

## З гісторыі БІНІМ, Канада

- Першай акадэмічнай імпрэзай стала канфэрэнцыя "Беларусаведныя дні ў Квінс Унівэрсытэце ў Кінгстане" **ў 1971 годзе**, якую арганізаваў прафэсар Я. Садоўскі.
- У **1969-1972** гг. праф. Я. Садоўскі сабраў калекцыю беларускіх мастацкіх вырабаў - 62 экспанаты цяпер знаходзяцца ў Музеі гісторыі Канады.
- **У 1975 годзе** канферэнцыя "Беларусаведныя дні ў Атаўскім Унівэрсітэце" і выстава беларускага народнага мастацтва была арганізавана спадарствам Сурвілаў.
- Пачынаючы з **1989** году, дзякуючы акадэмічным інтарэсам праф. Зіны Гімпелевіч, праф. Марыі-Паўліны Сурвіла і сп. Івонкі Сурвіла, адзначаны значны прагрэс ва ўдзеле БІНІМу ў канадыйскіх і міжнародных навуковых кангрэсах. Да 2016 года сябрамі БІНІМу зроблена каля 150 дакладаў.
- Сп. І. Сурвілла была ініцыятарам і разам з праф. З. Гімпелевіч і Паўлінай Пашкевіч-Смітс заснавалі ў **1989** годзе Канадыйскі фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі.
- Сп. Ірына Варабей, сябра Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, заснавала ў **2005** г. творчай майстэрні па вышываванню беларускіх нацыянальных узораў «Spirit of Biełaruś).

7

## З гісторыі БІНІМ, Канада



- У **2001** г. быў заснавана вэб-сайт беларусаў Атавы (адміт. Ю. Шамецька), які да сёньня працуе як сайт ЗБК, www.belaruscanada.org.
- Сп. В. Кавалёва заснавала ў **2001** годзе спеўны гурт *"Яваровы людзі", які дзее да сёньня.*
- У **2002 -2008** гг. выйшлі 11 нумароў газеты *"Беларускае слова» (*рэдактар В. Кавалёва).
- **У 2005 -2009 гг.** у Атаве працаваў беларускі суботні клас. Настаўнікі, Д.Г. і П.С. Мурзёнкі.
- На кангрэсе Канадыйскай Федэрацыі Гуманітарных і Сацыяльных навук (КФГСН) у Атаве **ў 2009** , дзе быдо каля 9.000 дэлегатаў, БІНІМ Канада добра прагучаў з навуковай сцэны, прдстаўленьнем сваіх кніжак, цудоўным беларускім канцэртам, а таксама выстава мастакоў.
- На кангрэсе КФГСН, які праходзіў з **27 па 29 мая 2017 года** у Райерсон універсітэце (Таронта) працавалі дзве беларускія секцыі і прайшла паэтычная сесія за круглым сталом.

8

## БІНІМ, Канада сёньня

- Па стану на студзень 2021 года сябрамі БІНІМ, Канада з'яўляюцца 20 чалавек – музыканты пісьменьнікі, паэты, музыканты, мастакі, навукоўцы.
- У 2017 годзе грунтоўна абноўлены сайт інстытута www.binim.org (адмін. – А. Каралькевіч).
- 20 студзеня 2019 года як нон-профіт федэральная арганізацыя Канады.
- 18 кастрычніка 2020 года вэб-часопіс "Культура. Нацыя" набыў статус часопіса Інстытута. Часопіс «Культура, Нацыя» www.sakavik.net дзейнічае са снежня 2012 года (заснавальнік і рэдактар часопіса Пётра Мурзёнак).На старонках часопіса друкуюцца матэрыялы, прысвечаныя пытаньням нацыянальнага будаўніцтва і беларускай культуры. Да сёньня выйшлі 26 нумароў часопіса "Культура. Нацыя". Сайт і часопіс за гэты час наведалі больш чым 23.800 чытачоў, большасьць чытачоў (57.0%) паходзяць з Беларусі. Часопіс запрашае аўтараў!
- У 2017-2020 гг. сябрамі інстытута апублікаваны больш трох дзесяткаў артыкулаў ў часопісе «Культура. Нацыя», у значнай ступені прысвечаныя пытаньням нацыянальнага будаўніцтва.

9

## БІНІМ, Канада сёньня*



- **11 сакавіка 2018 года** з непасрэдным удзелам сяброў БІНІМа і фінансавай падтрымкай Інстытута разам з ЗБК ў Атаве арганізавана і з вялікім посьпехам прайшло святкаваньне важнай гістарычнай даты ў жыцці беларускага народа **100-годдзе БНР**. Свята прайшло ў будынку Канадыйскага парламента на якім прысутнічала звыш 160 гасьцей**.
- У рамках святкавання 100-годдзя БНР у Атаве сябрамі БІНІМ была арганізавана выстава кніг, напісаных беларусамі-канадыйцамі. Спіс 38 кніг, якія былі на выставе, апублікаваны ў часопісе "Культура. Нацыя". ***

** Звесткі аб дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтваў, Канада (БІНІМ, Канада) за перыяд з лістапада 2017 года па кастрычнік 2020 года. З даклада старшыні д-ра Пётры Мурзёнка.. «Культура, Нацыя». №26, снежань 2020, 181-202.*

*** Пётра Мурзёнак Святкаванне 100-годдзя БНР у Атаве. "Культура. Нацыя", сакавік 2018, №21, с.7-46.*

**** Спіс кніг на выставе ў гонар 100-годдзя БНР. 11 сакавіка 2018 года. "Культура, Нацыя", сакавік 2018, №21, с. 79-91.*

10

## БІНІМ, Канада сёньня

- У **2017** годзе ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры (Таронта) быў створаны тэатр "Сэнс" (рэжысёр і пастаноўшчык В. Шаўчэнка). Спектакль "Вуліца Геніюш" быў пастаўлены ў Таронта (14.04.2018) і ў Атаве (6.04.2019).
- **У 2015-2019гг.** ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры ў Таронта праводзіліся курсы "Мова нанова" (кіраўнік І.Тоўсцік).
- Канцэрты дуэта "Кантабіле» (Ўладзя Шамецька - скрыпка, Міхась Рыкаў - гітара) (травень, верасень, кастрычнік, лістапад **2019** года, люты **2020**).
- Прэзетацыя кніг
  - кнігі вершаў П. Мурзёнка "Колеры" (**09.2018**),
  - зборніка вершаў Юрася Шамецькі "Непрадказальнае» (**10.05.2019**),
  - пераклад кнігі санэтаў канадыйскага паэта Seymour Mayne (пераклад на расейскую мову Міхася Рыкава, **24.10.2019**).
- Шэраг відэафільмаў
  - "З Калядамі. Ад сяброў з Атавы, Канада" (**снежань 2019**).
  - «Верш Канадыйскай салідарнасці з беларусамі Бацькаўшчыны» ( **15.09.2020**)
  - Восем відэафільмаў з цыкла «Сэрцам з Беларусьсю» (**2020-2021**).

11

## БІНІМ, Канада сёньня

- **28 лістапада 2020 года**, у суботу, прайшла *online* вечарына-канферэнцыя, прысвечаная 90 -годдзю з Дня народзін знакамітага беларускага пісьменьніка Уладзіміра Караткевіча. Вечарына былы арганізавана сябрамі Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Канадзе (БІНіМ, Канада) пры ўдзеле Згуртаваньня Беларусаў Канады.
- Даклады нашых сяброў, Г.Туміловіч, Ю.Шамецька і П. Мурзёнка прыняты арганізатарамі кангрэса (ICCEES , International Council for Central and East European Studies), які пройдзе **4-9 жніўня 2021 года** у Манрэалі ў віртуальным фармаце на секцыі пад назвай "From Legends to Modern Belarus". Вечар беларускай культуры.

**Дзякую за ўвагу!!!**

12

*Abstract*

**International Conference in Warsaw regarding the issue of Belarusian identity**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 245-259, www.sakavik.net)***

On March 1, 2021 an international online conference ensued hosted by Warsaw University. Theme: "Belarusian Identity: Past Experience and Challenges for the Future Relating to 30th Year of Declaration of Belarus's Independence." The conference was organized by the Department of International Studies of Central and Eastern Europe at Warsaw University. Partnering organizers that presented papers were BINIM, New York and BINIM, Canada. The Conference was conducted under the guidance of the University's Rector and President of BNR Committee, Ivonka Survilla. Thirty researchers read papers on the given subject. The president of BINIM, Canada, Piotra Murzionak, gave the opening speech of welcome and presented his paper under the title: "Belarusian Institute of Arts and Sciences in Canada in Support of Belarusian Identity."

**Piotra Murzionak The opening speech of welcome at the International Conference in Warsaw University (April 1, 2021)**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 250-251, www.sakavik.net)***

**Piotra Murzionak Presentation: "Belarusian Institute of Arts and Sciences in Canada in Support of Belarusian Identity" (International Conference in Warsaw University, April 1, 2021)**
***(web-magazine "Kultura. Natsyja", issue 27, April 2021, 252-259, www.sakavik.net)***

Резюме

**Международная конференция в Варшаве по вопросу о белорусской идентичности (1 марта 2021 года)**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 245-259, www.sakavik.net)***

1 марта 2021 года в Варшавском университете прошла международная онлайн-конференция. Тема: «Белорусская идентичность: прошлый опыт и вызовы на будущее в связи с 30-летием провозглашения независимости Беларуси».

Конференция была организована Департаментом международных исследований Центральной и Восточной Европы Варшавского университета. Конференция проводилась под руководством ректора университета и президента комитета БНР Ивонки Сурвилла. Тридцать исследователей сделали доклады по данной теме. Президент БИНИМ, Канада, Пётра Мурзёнак, выступил с приветственной речью и представил свой доклад под названием «Белорусский институт науки и искусств в Канаде в поддержку белорусской идентичности».

**Пётра Мурзёнак   Приветственная речь на открытии Международной конференции в Варшавском университете (1 марта 2021 года)**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 250-251, www.sakavik.net)***

**Пётра Мурзёнак     Доклад под названием «Белорусский институт науки и искусств в Канаде в поддержку белорусской идентичности» (Международная конференция в Варшавском университете (1 марта 2021 года)**
***(веб-журнал «Культура. Нация», вып. 27, Апрель 2021, 252-259, www.sakavik.net)***

*Наступны 28-мы нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў лістападзе 2021 г.*